Вячаслаў Рагойша

# ВОЧЫ ў ВОЧЫ, МЫСЛІ ў МЫСЛІ

**Кніга перакладной паэзіі**

Мінск, «Кнігазбор», 2013

УДК 821(1-87)-1
ББК 84(4)-5
Р14

**Рагойша, В.**

Р14 Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі : кніга перакладной паэзіі / Вячаслаў Рагойша. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 296 с.

ISBN 978-985-7057-71-9.

Кніга гэта — своеасаблівы падрахунак зробленага Вячаславам Рагойшам як перакладчыкам паэзіі. Яе склалі ўвасобленыя ім па-беларуску выбраныя вершаваныя творы найперш украінскіх аўтараў, сярод іх — знакамітая драма-феерыя Лесі Украінкі «Лясная песня». У асобны раздзел кнігі ўвайшлі творы паэтаў сербскіх, харвацкіх і баснійскіх (Д. Максімавіч, А. Б. Шыміч, В. Парун, Ё. Пупачыч, І. Сарайліч), славацкіх (П. Штыліха, Р. Чыжмарык, Л. Фелдэк, Ю. Збораўян, Г. Гупка, М. Касандра), літоўскіх (М. Марцінайціс), грузінскіх (Ш. Нішніанідзэ) і казахскіх (С. Сяітаў).

У кнізе змешчана бібліяграфія перакладаў В. Рагойшы.

**УДК 821(1-87)-1**
**ББК 84(4)-5**

**ISBN 978-985-7057-71-9**

# Пра мастацкі пераклад жартам і ўсур'ёз

Перад вамі, шаноўныя чытачы, кніга перакладной паэзіі. Перш чым вы станеце канкрэтна знаёміцца з асобнымі беларускамоўнымі ўзнаўленнямі іншамоўных твораў, хочацца мне як аўтару кнігі (дакладней — яе сааўтару) раскрыць сваё перакладчыцкае крэда, выявіць уласнае разуменне такой своеасаблівай творчай з'явы, як мастацкі пераклад.

Аднак спачатку пагаворым пра пераклад у жартоўным тоне. Вось як уяўляў гэты від творчасці вядомы польскі сатырык Ежы Вітлін у сваёй гумарэсцы «**Як перакладаць літаратурныя творы**» (пераклад з польскай мовы мой. — *В. Р.*).

«Пераклад літаратурных твораў вымагае хоць невялікіх, ды ўсё ж нейкіх ведаў, якія мы атрымліваем: праслухоўваючы па радыё курс замежнай мовы (пачатковы), гасцюючы нейкі месяц у цёткі ў Чыкага або ўдзельнічаючы ў двухтыднёвай замежнай паездцы па лініі турбюро. Калі пры розных акалічнасцях мы наведалі асобныя краіны ці праслухалі некалькі курсаў замежных моў па радыё, то можам смела брацца за пераклад з некалькіх моў. Каб выпрацаваць так званую методыку, пачнём з перакладу твораў класікаў. Гэта дазволіць нам бліжэй пазнаёміцца з літаратурай, якую намерваемся перакладаць, і адначасова дасць магчымасць самім творча сцвердзіцца.

Твор, абраны для перакладу, трэба, відаць, спачатку прачытаць. Зрэшты, калі, ведаючы сябе, западозрым, што папярэдняе знаёмства з творам, яго сюжэтам, персанажамі, падзеямі і г. д. можа ў нас адбіць ахвоту да

паўторнага яго прачытання, якое — хочам мы таго ці не хочам — чакае нас у працэсе самога перакладу, то лепш за ўсё адмовіцца ад першапачатковай сустрэчы з творам. Прыступаючы да працы, мы павінны ведаць, што існуюць тры канцэпцыі перакладу.

*Калі мы адчуваем, што мовай арыгінала валодаем лепш, чым роднай, — аддаём перавагу **перакладу паслоўнаму**.*

*Калі мы адчуваем, што лепш валодаем роднай мовай, чым мовай арыгінала, — аддаём перавагу **перакладу вольнаму.***

*А калі не адчуваем сябе ўпэўнена ні ў мове арыгінала, ні ў роднай мове,— аддаём перавагу **перакладу літаратурнаму**.*

Кожная з гэтых канцэпцый мае свае вартасці і недахопы. Аднак, несумненна, канцэпцыя літаратурнага перакладу, якая засноўваецца на значным узбуйненні — у часе перакладу — фантазіі аўтара за кошт нашай уласнай фантазіі, з'яўляецца самай пашыранай. У тым жа выпадку, калі і літаратурны пераклад не здолее цалкам заспакоіць наша творчае самалюбства і па меры працы будзе расці наша мастацкае незадавальненне, — існуюць яшчэ дзве дадатковыя магчымасці пазбыцца гэтага апошняга:

а) *першая — грунтуецца на змене **формы арыгінала*** (напрыклад, «Дон Жуана» Байрана будзем перакладаць прозай, затое ж «Вайну і мір» Льва Талстога — рыфмаваным вершам);

б) *другая — засноўваецца на змене **зместу арыгінала*** (напрыклад, паэму «Гісторыя з салаўём» перакладзём, абапіраючыся на «Дэкамерон» Бакачыа, крымінальную аповесць «Згубца» — на «Атэла» Шэкспіра, а звычаёвы раман «Забароненая забава» — на «Рамэа і Джульету» таго ж аўтара).

Такі пераклад назавём ***творчым***.

У той жа час калі ў працэсе заспакаення нашага творчага незадавальнення мы адчуем, што ад аўтара арыгінала нас адрозніваюць не толькі драбніцы, але і рэчы прынцыповыя, то мы проста адмаўляемся ад рэкламавання на тытуле кнігі прозвішча пісьменніка і твор поўнасцю трактуем як свой уласны.

Дзеля лепшай арыентацыі будучых перакладчыкаў у розных канцэпцыях перакладу прывядзём пачатак п’есы Мікалая Гогаля «Рэвізор» (з акта 1, сцэна 1) у чатырох вышэй пералічаных варыянтах перакладу.

**Арыгінал:**

Г о р о д н и ч и й: Я пригласил вас, господа, с тем, чтобы сообщить вам пренеприятнейшее известие. К нам едет ревизор.

А м м о с Ф е д о р о в и ч: Как ревизор?

А р т е м и й Ф и л и п п о в и ч: Как ревизор?

Г о р о д н и ч и й: Ревизор из Петербурга, инкогнито. И еще с секретным предписанием.

А м м о с Ф е д о р о в и ч: Вот-те на!

А р т е м и й Ф и л и п п о в и ч: Вот не было заботы, так подай!

Л у к а Л у к и ч: Господи боже! Еще и с секретным предписанием!

**Пераклад паслоўны:**

Г а р а д н і ч ы: Я запрасіў вас, гаспада, затым, каб паведаміць вам пранепрыемнейшую вестку. К нам едзе рэвізор.

А м о с Ф ё д а р а в і ч: Як рэвізор?

А р ц е м і й Ф і л і п а в і ч: Як рэвізор?

Г а р а д н і ч ы: Рэвізор з Пецярбурга, інкогніта. І яшчэ з сакрэтным прадпісаннем.

А м о с Ф ё д а р а в і ч: Вось це на!

А р ц е м і й  Ф і л і п а в і ч: Вось не было клопату, дык падай!

Л у к а  Л у к і ч: Госпадзі божа! Яшчэ і з сакрэтным прадпісаннем.

**Пераклад вольны:**

Г а р а д н і ч ы: Запрасіў я вас, панове, па архінепрымнейшай справе. Вось-вось чакаем праверку.

А м о с, Т о д а р а ў  с ы н: Няўжо праверку?

А р ц ю х, П і л і п а ў  с ы н: Сапраўды — праверку?

Г а р а д н і ч ы: Менавіта так, праверку з Пецярбурга, інкогніта. Да таго ж, з таемным наказам.

А м о с, Т о д а р а ў  с ы н: Авохці мне!

А р ц ю х, П і л і п а ў  с ы н: Не мела баба клопату!

Л у к а ш, Л у к і  с ы н: Святы Божа, святы правы! З таемным наказам!

**Пераклад літаратурны:**

Г а р а д н і ч ы: Панове, нам крышка! Хутка ў нас інспекцыя!

А м о с  Т о д а р а в і ч: Скажаш! Якая інспекцыя?

А р ц ё м  П і л і п а в і ч: Што за інспекцыя?

Г а р а д н і ч ы: Інспекцыя з Пецярбурга, скрытная. З тайнымі інструкцыямі.

А м о с  Т о д а р а в і ч: Каб яна спрахла!

А р ц ё м  П і л і п а в і ч: Выдумалі такое…

Л у к а  Л у к і ч: Езус Марыя! Матка свента! З тайнымі інструкцыямі!

**Пераклад творчы:**

М э р: Калегі, на жаль, усё стала вядома. Кантроль ужо ў дарозе.

Т о д а р а в і ч: З раёна?

П і л і п а в і ч: З вобласці?

М э р: Каб жа! З самога цэнтра! Да таго ж — тайны.

Т о д а р а в і ч: Ну, то нагарыць!

П і л і п а в і ч: Па пяць гадоў жалезна! Цяпер не цацкаюцца…

Л у к а ш: Трэба імшу пахавальную заказваць! Тайны кантроль — гэта табе не фунт ізюму…»

Вядома, у гэтай гумарэсцы (як і ў любым творы такога жанру) не абышлося без перабольшання, нават гратэску. А калі сур'ёзна?

Слова «пераклад» ужываецца звычайна ў двух значэннях: 1) як творчы працэс і 2) як вынік гэтага працэсу. У першым значэнні пераклад (а мы маем на ўвазе менавіта пераклад *мастацкі*) — гэта як мага поўнае і дакладнае ўзнаўленне твора, напісанага на адной мове, тымі самымі ці функцыянальна падобнымі выяўленчымі сродкамі іншай мовы. У другім — мастацкі твор, што з'яўляецца семантычна-стылістычным адпаведнікам ідэйна-вобразнай структуры якога-небудзь іншамоўнага твора (арыгінала). Таму, зразумела, узоры перастварэнняў, прыведзеныя Ежы Вітліным, перакладамі ў сапраўдным значэнні гэтага слова не з'яўляюцца (хаця, трэба сказаць, нярэдка і такія сустракаюцца).

Мастацкі пераклад значна адрозніваецца ад іншых тыпаў перакладу (грамадска-палітычнага, навуковага, тэхнічнага, ваеннага). І адрозніваецца найперш сваёй выразнай творчай сутнасцю, блізкай да арыгінальнай творчасці. Гэтым асабліва вызначаецца пераклад паэтычных твораў, які патрабуе не проста перакладчыка эрудзіраванага, вопытнага, але і чалавека, надзеленага ад нараджэння паэтычнымі здольнасцямі. У параўнанні з перакладам празаічных твораў, пераклад твораў вершаваных ускладае

на перакладчыка шэраг вымог па захаванні не толькі сэнсава-вобразна-стылёвага падабенства з арыгіналам, але і рытма-метрычнага, страфічнага, рыфменнага. Таму мы і гаворым пра перакладчыка твораў, асабліва паэтычных, як пра паўнапраўнага сааўтара іншамоўнага пісьменніка.

Перакладны твор — не даслоўная копія арыгінала і не цалкам новы твор, ён — «нешта трэцяе» (А. Кундзіч), стаіць на памежжы дзвюх літаратур — з якой узнік і ў якой пачаў новае жыццё. Ён з'яўляецца своеасаблівым «актам дружбы» (М. Рыльскі) паміж народамі і пісьменнікамі розных краін. У адрозненне ад арыгінальнай літаратурна-мастацкай творчасці, найперш паэтычнай, перакладчыцкая творчасць заўсёды матывацыйна прадвызначана, абумоўлена пэўнымі мэтавымі ўстаноўкамі. Гэта толькі «чысты» паэт можа, услед за Аннай Ахматавай, са здзіўленнем усклікнуць: «О, если б знали, из какого сора растут стихи!..». Перакладчык выразна бачыць (зрэшты, у гэтым яму дапамагаюць і чытачы, і крытыкі), дзе «сор», літаратурнае «смецце», а дзе багаты плён іншанацыянальнай літаратурнай нівы, якім яму патрэбна ўзбагаціць свайго чытача і роднае пісьменства. Зрэшты, і ў арыгінальнай творчасці, як слушна сведчыў Максім Багдановіч, «поэт всегда обдуманно творит». Што ўжо тады казаць пра перакладчыцкую творчасць! Таму, зразумела, не адно толькі каб атрымаць «магчымасць самім творча сцвердзіцца» перакладчыкі звяртаюць увагу найперш на творы замежных класікаў ці проста выдатных пісьменнікаў. Для плённай творчай працы перакладчыкаў мала «першапачатковай сустрэчы з творам» (Е. Вітлін), ім трэба ведаць усю творчасць аўтара арыгінала…

Практычнае вырашэнне тых ці іншых перакладчыцкіх мэт звязана з актуалізацыяй пэўных функцый перакладу. Розныя перакладазнаўцы налічваюць розную колькасць гэтых функцый. Так, славак Антон Попавіч гаворыць пра тры: інфармацыйную, грамадска-культурную і лі-

таратурную. Украінец Віктар Радчук вызначае чатыры: пазнавальную, эстэтычную, узбагачэнне ўспрымальнай літаратуры, развіццё ўспрымальнай мовы. На самай справе такіх функцый можна налічыць значна больш, звыш дзесяці. Апрача *азнаямленчай* («інфармацыйнай», «пазнавальнай» — у тэрміналогіі А. Попавіча і В. Радчука), *эстэтычнай* (стварэнне самадастатковага, эстэтычна паўнацэннага твора), *сацыякультурнай* («грамадска-культурнай» — А. Попавіч), *літаратуратворчай* і *моватворчай* («развіццё ўспрымальнай літаратуры», «развіццё ўспрымальнай мовы» — В. Радчук), вылучаецца яшчэ цэлы шэраг. Сярод іх — *генетычная* (роля перакладу ва ўзнікненні нацыянальнай літаратуры), *ідэйна-палітычная* (прыўнясенне ў свядомасць грамадства праз перакладны твор пэўных палітычных ідэй), *інтэрнацыяналізуючая* (удзел перакладу ва ўзнікненні полікультурнасці нацыі), *культураахоўная* (захаванне, развіццё роднай для перакладчыка культуры і яе сарцавіны — нацыянальнай мовы), *эўрыстычная* (выяўленне своеасаблівага перакладчыцкага таленту літаратара), *пабуджальная* (пераклад нярэдка выклікае ў чытача імкненне пазнаёміцца з арыгіналам), *ілюстрацыйная* (пераклад урыўкаў з твораў дзеля пацвярджэння пэўных думак) і нават *утылітарная* (пераклад твораў дзеля заробку, «па дружбе», «па просьбе» і г. д.).

Перакладаючы той ці іншы твор, перакладчык звычайна кіруецца адной галоўнай мэтай: пазнаёміць свайго чытача з раней невядомым яму творам, наладзіць ці замацаваць міжлітаратурныя і міжкультурныя сувязі, удасканаліць нейкі стылёвы пласт роднай мовы, аргументаваць сваю думку пра вартасць нейкага замежнага пісьменніка і інш. Пры гэтым, аднак, актуалізуецца не толькі адна функцыя перакладу, але, як правіла, і некалькі іншых. Так, кожны перакладчык, зразумела, жадае пазнаёміць свайго чытача з невядомым яму выдатным творам іншанацыя-

нальнай літаратуры. Разам з тым ён імкнецца да таго, каб гэты пераклад быў адэкватным, эстэтычна паўнацэнным (а не «паслоўным», «вольным», «літаратурным», «творчым» — у жартоўнай інтэрпрэтацыі Е. Вітліна). Каб ён пашырыў ідэйна-мастацкі патэнцыял роднай літаратуры, стылёвыя мажлівасці роднай мовы і г. д. Такі перакладчык, нават калі ён кіруецца найперш нейкай кан'юнктурнай мэтай, актуалізуе разам з тым і некаторыя іншыя функцыі мастацкага перакладу: азнаямленчую, пабуджальную, нацыяахоўную ці нейкую іншую.

На характар і ўзровень паэтычнага перакладу ўплываюць ступень развітасці нацыянальнай літаратуры-ўспрымальніцы, распрацаванасць літаратурнай мовы, яе разнастайных стыляў, багацце перакладчыцкіх традыцый, а таксама моўная, этнаграфічна-бытавая, культурная, палітычная і іншая блізкасць народаў, якім належаць літаратуры, з якой і на якую перакладаецца твор паэзіі. У той жа час даўно заўважана, што перакладаць з блізкіх моў, у тым ліку роднасных, якія прасцей засвоіць, не лягчэй, чым з лексічна і граматычна далёкіх. Тут узнікае шэраг спецыфічных цяжкасцей, звязаных з міжмоўнай аманіміяй, гіпнозам арыгінала, працай перакладчыка «на віду» ў чытача, які часта можа адразу ж параўнаць пераклад з вядомым яму арыгіналам, і інш.

Мастацкі пераклад мае канкрэтна-гістарычны характар: перакладчык выступае не толькі як творчая індывідуальнасць, але і як прадстаўнік пэўнага часу, краіны, культуры. Вось чаму магчыма існаванне некалькіх перакладаў аднаго якога-небудзь значнага твора на тую ці іншую мову. У перакладчыцкай працы вылучаюцца стадыі аналізу і сінтэзу (у рознай паслядоўнасці), таму перакладчык павінен валодаць ведамі і навыкамі вучонага-літаратуразнаўца і талентам арыгінальнага творцы. Перадумовай высокамастацкага перакладу з'яўляецца веданне перакладчыкам краіны, сацыяльнага асяроддзя,

у якіх жыў і тварыў іншамоўны пісьменнік. Не меншае значэнне мае валоданне мовай арыгінала, а не толькі знаёмства з ёй на ўзроўні праслухоўвання «некалькіх курсаў замежных моў па радыё» (Е. Вітлін). Праўда, нярэдка існуюць і выключэнні, калі патрэбы знаёмства чытача з творамі аўтараў, якія пішуць на невядомых для перакладчыка мовах, вымушаюць звярнуцца да так званага падрадкоўніка (літаральнага тэксту твора з апісаннем асноўных асаблівасцей яго паэтыкі — рытмікі, строфікі, рыфмікі і г. д., зробленага знаўцам замежнай мовы). Вядома, перакладаць з падрадкоўніка нашмат цяжэй, чым непасрэдна з мовы арыгінала, ды часам церпіць і адэкватнасць перакладу. З перакладаў, змешчаных у дадзенай кнізе, да такіх творчых узнаўленняў адносяцца вершы літоўца Марцеліюса Марцінайціса, грузіна Шата Нішніанідзэ і казаха Сагінгалі Сяітава.

Творчая індывідуальнасць пракладчыка выяўляецца і ў тым, наколькі глыбока ён успрымае арыгінал і якімі сродкамі, наколькі дакладна, мастацка дасканала ўзнаўляе яго семантыку і паэтыку ў духу сваёй мовы. Адна з галоўнейшых задач пры гэтым — узнавіць на роднай мове няўлоўнае ў арыгінале паэтычнае «рэчыва», тое «ледзь-ледзь» (Л. Талстой), што робіць літаратурны тэкст — мастацтвам, вершаванне — паэзіяй. Яшчэ адна важная перадумова высакаякаснага паэтычнага перакладу — блізкасць творчых і ідэйных прынцыпаў, характару таленту перакладчыка і аўтара арыгінала. «Вочы ў вочы, мыслі ў мыслі» — гэтак у духу беларускай народнага выслоўя павінны духоўна нітавацца паміж сабой два сааўтары: іншанацыянальны пісьменнік і яго перакладчык. Зразумела, працэс творчасці, у тым ліку перакладчыцкай, у многім непрадказальны па сваім выніку. Тым не менш гэты вынік у значнай ступені залежыць ад вышэй адзначаных перадумоў творчай працы.

Класікі беларускай паэзіі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч пакінулі нам у спадчыну свае перакладчыцкія прынцыпы, асноўныя з якіх наступныя: *перакладаць неабходна толькі тыя творы, якія здольныя ўзбагаціць родную літаратуру, культуру, развіць нацыянальную літаратурную мову; мастацкі пераклад ажыццяўляецца па любові, а не па разліку; перакладчыку трэба валодаць мовай арыгінала, але асабліва дасканала — мовай, на якую ён перакладае; у мастацкім перакладзе павінен узнаўляцца стыль пісьменніка, асноўныя нацыянальныя асаблівасці першакрыніцы; паўнацэннасць перакладу — гэта не даслоўнасць, а дакладнасць у перадачы ідэйна-вобразнай структуры іншамоўнага твора; мастацкі пераклад, як і арыгінал, павінен валодаць несумненнымі эстэтычнымі вартасцямі.* Гэтымі і некаторымі іншымі перакладчыцкімі прынцыпамі кіраваліся і кіруюцца лепшыя беларускія перакладчыкі-творцы. Па меры магчымасці ў сваёй перакладчыцкай творчасці ўвасобіць іх імкнуўся і аўтар гэтых радкоў.

Развагі — развагамі, сур'ёзныя яны або, як у Е. Вітліна, жартоўныя. Толькі творчая практыка можа паказаць характар і значнасць тых ці іншых развагаў, толькі чытачы могуць ацаніць вартасць зробленага. З такімі думкамі і аддаю на суд чытачоў гэтыя ўзнаўленні твораў украінскіх, сербскіх, баснійскіх, харвацкіх, славацкіх, літоўскіх, грузінскіх і казахскіх аўтараў.

*Вячаслаў Рагойша*

# З украінскай паэзіі

***Тарас Шаўчэнка***
***(1814–1861)***

## Запавет

Як памру — на Украіне
Мяне пахавайце,
Сярод стэпу на кургане
Дол мне пракапайце,
Каб разлеглыя палеткі,
І Дняпро, і кручы
Мог пабачыць і пачуць мог,
Як раве равучы,
Як пагоніць з Украіны
У сіняе мора
Кроў варожую… тады я
І палі і горы —
Ўсё пакіну і ўзнясуся
Да самога Бога
Памаліцца… а да тога
Мне не трэба Бога.
Пахавайце ды ўставайце,
Кайданы парвіце
І варожай злой крывёю
Волю акрапіце.
І мяне ў сям'і вялікай,
У свабоднай, новай,

Хаця б зрэдку памяніце
Добрым ціхім словам.

## Цары

*Раздзелы з паэмы*

### Раздзел IV

Дзядзінцам ціха пахаджае
Стары вясёлы Рагвалод.
Дружына, отракі, народ
У золаце і срэбры ззяюць.
У князя свята: прыязджае
З Літвы суседняй юны князь
За ручнікамі да Рагнеды.

Перад багамі Лель і Лада
Агмень Рагнеда развяла,
Ялей у вогнішча ўліла,
А потым сыпанула ладан.
Нібы валькірыі, навокал
Танцуюць, цешацца дзяўчаты
І напяваюць:
        Гой, гоя, гоя!
        Новыя пакоі
        Будзем прыбіраці,
        Сватоў сустракаці.
За Полацкам, нібыта хмара,
Пылішча — сонца не відаць.
Пабеглі отракі, баяры
Ліцвіна-князя сустракаць.
Сама Рагнеда з Рагвалодам
Пайшла — з дзяўчатамі, з народам.

Не з Літвы едзе князь нязнаемы,
Ды чаканы такі і жадаемы,—
Гэта з Кіева турам-буйвалам
Прэцца вепрышчам па Рагнедачку
Уладзімер-князь з кіяўлянамі.

Прыйшлі і места аблажылі,
Пасад, прадмесце падпалілі.
Князь Уладзімер прад народам
Забіў старога Рагвалода.
Баяр, паспольства перабіўшы,
Княжну з сабою захапіўшы,
Дамоў падаўся. І злачынна
Рагнеду гвалціць. Беспрычынна
Ён гоніць прэч яе. Княжна
Блукае па зямлі адна,
Трывае боль за княскі ўчынак.
Такія, браце мой,
«Святыя»
Цары ўсе тыя!

## Раздзел V

Каб даў Бог іх параспіналі,
Цароў тых, катаў тых людскіх!
Марока з імі, каб вы зналі,
Як дурань ходзіш каля іх,
Не знаеш, дзе і як ступіць.
Дык што ж параіш мне зрабіць
Цяпер з паганцамі? Скажы,
Сястра старая Апалона,
Намоў, галубка, памажы
Палазіць трохі каля трона;
Я ж пацеркі, як зараблю,

Табе к Вялікадню куплю.
Што, падамося у лакеі,
Каб у навюсенькай ліўрэі
Цароў ахоўваць і любіць?
Шкада аловак мне тупіць!
Бо дзе няма святое волі,
Не будзе там дабра ніколі.
Нашто тады сябе дурыць?
Хадзем у селішчы, дзе людзі,
А там, дзе людзі, добра будзе,
Там будзем жыць, людзей любіць,
Святога Госпада хваліць.

*Маркіян Шашкевіч*
*(1811–1843)*

## Вяснянка

Кветка-вяснянка
Вясну прасіла,
Богам маліла:
— Мамачка-мамка!
Выканай волю —
Пашлі мне долю:
Квітнець у шчасці
На сенажаці,
Каб я сябе чула
Красою яснай,
Зарою краснай,
Каб прыгарнула
Свет да сябе я.
— Донька, галубка,
Твая надзея
Марная, любка!
Бо хутка дужа
Вернецца сцюжа,
Зазімак свісне —
Краса змарнее,
Твар пачарнее,
Лісцейка згубіш,
Голаў застудзіш —
Жаль сэрца сціснe.

*Юрый Фядзьковіч*
*(1834–1888)*

## Думы мае

Думы мае русінскія, адкуль вы ўзяліся?
Ці ў маім вы, можа, раі кветкамі віліся,
Ці анёламі вы ў небе у маім ляталі,
Што збалелае мне сэрца дасюль калыхалі?
Так, як пташка пташанятак вечарам калыша
І ля іх і па-над імі крыжык Божы піша,
Каб урокі, злыя духі к ім не падступалі, —
Так збалелае мне сэрца і вы калыхалі.

Ні сямейкі і ні жонкі. І сястрычка гіне,
Што, бывала, выцірала слёзы сіраціне.
І пайшоў я ў свет шырокі па кавалак хлеба, —
Ой як часта чуў, галодны: «Аюсь, непатрэба!»
А калі хто ў торбу кідаў сухар жабрачынны,
То адно каб пасмяяцца са слёзаў хлапчыны.
І ці можна мне, бадзягу беднаму, здзіўляцца,
Што ў жаўнеры за тры левы вырашыў падацца?

Што здзіўляцца? Гэта долі такое рашэнне.
А як часам з чаравіка кроў цякла каменнем
І пад розгаю капральскай успухалі плечы —
Я тады свае ўсе раны думамі залечваў.
Ой як часта з жаўнерыка капрал насміхаўся!
Ды ў Дунай не йшоў тапіцца, з ружжа не страляўся,
Толькі ўзяў я ў рукі кобзу дый пачаў спяваці,
Наталіўшы ж сваё сэрца, з кобзаю лёг спаці.

# О радуйся, прачыстая Марыя!

У сінім моры сонца ярка тоне,
Крывавыя праменні шле ў прадонне.
На хвілю ўгаманілася стыхія, —
А там царкоўны звон паплыў над вёскай,
А там зацёхкаў салавей па-свойску,
Пад ветрам дрэвы загулі старыя…
О радуйся, прачыстая Марыя!

О радуйся, прачыстая Марыя!
Вунь малады жаўнер на дол зваліўся,
Яго мундзір крывёю арасіўся,
Не змог расстрэльваць, то яго — другія…
Таварышу дамоўку пракапалі
І на спачынак, беднага, паклалі.
Не скажа, як настане літургія:
О радуйся, прачыстая Марыя!

О радуйся, прачыстая Марыя!
Пад плотам удава гаротна плача,
Аплаквае сябе, свой лёс жабрачы,
Сядзяць і плачуць побач з ёй малыя, —
Ды ўрэшце змоўклі, слёз не льюць больш горкіх,
Адны над імі ціха плачуць зоркі.
Званы замоўклі, толькі вецер вые…
О радуйся, прачыстая Марыя!

О радуйся, прачыстая Марыя!
Я ж — не магу… Бо ўсё ж душу я маю!
Хіба я боль на радасць памяняю,
Калі пакуты бачу ўсе зямныя?
А як жыцця майго замкнецца кола
Труной, дзе немата, і тлен, і холад,
Дзе ноч не плача, дзе ўсё цемра крые, —
Узрадуйся, прачыстая Марыя!

*Барыс Грынчэнка*
*(1863–1910)*

## Прыходзіць час

Праходзіць час, прыходзіць час —
Сказаць павінен кожны з нас:

Ці ён народу верны сын,
А ці адродак, сукін сын?

Ці раб пахілы, ці змагар?
Няхай адкрые кожны твар!

І дзе ён стане: ці да тых,
Што — самі ў ланцугах старых —

Народ і край свой прадаюць
Панам, якія кроў з нас п’юць.

Або да смелых змагароў,
Якія праліваюць кроў

За край, народ, за гонар свой,
Ідуць за долю-волю ў бой.

Прыходзіць час, вярэдзіць свет
І вольным душам шле прывет.

Дык адгукніцеся ж вакруг —
Хто ніцы раб?
Хто волі друг?

## *Іван Франко*
## *(1856–1916)*

# Майсей

### Пралог

Народзе мой, адрынуты, разбіты,
Як паралітык на глухой дарозе,
Людской знявагай, што струп'ём, пакрыты!

Душа мая за лёс твой у трывозе.
Ад сораму, які ў вячыстай далі
Нашчадкаў спаліць, я заснуць не ў змозе.

Няўжо тваёй гісторыі скрыжалі
Цяглом быць для суседзяў і пагноем —
Такую долю нам наканавалі?

Няўжо павек — спадманлівым спакоем
Ахутваць злосць, гуляць у легкавернасць,
Лагодзіць тых, хто здрадай і разбоем

Цябе скаваў, запрысягнуў на вернасць?
Дзе веліч спраў тваіх рашучых, смелых,
Што выявілі б сіл тваіх бязмернасць?

Няўжо дарэмна столькі сэрц гарэла
Ахвярадайнай да цябе любоўю,
Табе аддаўшы і душу і цела?

Ці ж марна ўвесь наш край паліты кроўю
Сыноў тваіх? Няўжо не захапляцца
Яму красою, воляй і здароўем?

Ці ж марна ў слове у тваім іскрацца
І моц, і мяккасць, досціп і развага —
Усё, чым можа ўгору дух узняцца?

Дарэмны ў песнях у тваіх адвага,
І звонкі смех, і жаль, і млосць кахання,
Надзей і ўцехі неспатольнай смага?

О не! Не толькі слёзы і ўздыханні
Нам суджаны! Я ў лёс твой веруновы,
У дзень твой запаветны ўваскрасання!

О, каб жа дзень той быў паслушны слову,
А слова — дню, што ў радасці святлістай
Агонь акрые, выснуе абнову!

О, каб успыхнуў песні зніч агністы,
Той, што вядзе мільёны за сабою
На новы шлях, пакінуўшы імглісты!

Ды не!.. Не нам, зняможаным журбою,
Знясіленым сумненнямі і горам,
Не нам свяшчэнна выгукнуць: «Да бою!»

Але надыдзе час: ты Чорным морам
Пакоціш, як цунамі, рокат волі —
Ўздрыгне Каўказ, Карпаты змыюць сорам.

Заззяеш у народаў вольным коле
І — гаспадар руплівы, дамавіты —
Агледзіш сваю хату, сваё поле.

Прымі ж мой гэты спеў, тугой спавіты,
Ды поўны веры ў шлях твой і кірунак, —
Як прышласці тваёй залог, слязьмі паліты,
Як генію твайму вясельны падарунак.

# Калі б ведаў чары…

Калі б ведаў чары, што спыняюць хмары,
Што два сэрцы могуць залучыць у пару,
Што зрываюць путы ўміг з душы закутай,
Што спажывай робяць чорную атруту, —
Скіраваў бы, мілая, на цябе іх сілы,
Іскры ў тваім сэрцы яны ўсе б згасілі,
Думкі і жаданні — ўсе адным ударам,
А замест — каханне ўспыхнула б пажарам,
Праняло б яснотаю ўсю тваю істоту,
Мною засланіла б клопаты, турботы.
А на донцы сэрца — воблік мой ірдзее…
Мары фантастычныя! Марныя надзеі!

Каб жа быў я рыцар, мужны і харобры,
Меў каня, кальчугу, меч булатны добры, —
Рынуўся б я з ходу ворагам пад ногі,
Што к табе закрылі наглуха дарогі!
Да цябе пранік бы скрозь равы і сцены,
Вынішчыў бы цмокаў, мур прабіў каменны,
Ўсе марскія скарбы ухапіў бы цупка
І да ног тваіх бы палажыў, галубка.
Я цябе адбіў бы ад усіх зладзеяў…
Мроі фантастычныя! Марныя надзеі!

## Таварышам з турмы

Спакваля абрываюцца путы,
Што вязалі нас з даўнім жыццём;
Даўнім горам і думка раскута, —
Ажываем, браты, ажывём!

Ажывём мы навейшым, паўнейшым
І любоўю сагрэтым жыццём;
Праз бурлівыя, мутныя хвалі
Да шчаслівых краёў даплывём.

Цераз хвалі няшчасця, няволі,
Міма бур, перамоў і намоў
Паплывём да краіны святое,
Дзе братэрства, і згода, й любоў.

Мы ўступаем у новую бітву
Не за царства тыранаў, цароў,
Не за цэркву, папоў, не за Бога,
Не за іх — крывасмокаў-паноў.

Мэта нашая — шчасце і воля,
Ўладца-розум без веры ў Багоў
І з братэрствам вялікім, сусветным —
Праца вольная, як і любоў!

Трэба ў бітве нам стойка трымацца,
Не баяцца, што ўпаў першы рад.
Хоць па трупах, ды ўгору ўзнімацца,
Ні на крок не вяртацца назад!

Гэта бой наш апошні! У бітву
Чалавецтва са зверствам ідзе.

Гэта воля змагае няволю,
Набліжаючы рай грамадзе.

Не маліцеся ж болей вы Богу:
«Хай нам з’явіцца царства тваё!»
Бо малітва — слабая падмога.
Праца, розум здабудуць сваё!

Царства гэта не прыйдзе ад Бога,
Не святая рука нам падасць —
Толькі розум здабудзе яго нам,
Толькі праца агульная дасць!

*Леся Украінка*
*(1871–1913)*

## З твораў, прысвечаных Сяргею Мяржынскаму

* * *

Твае лісты заўсёды пахнуць звялымі ружамі, ты мой бедны, прывялы квеце! Лёгкі, тонкі водар — нібыта спогад пра нейкую любую, мінулую мрою. І нішто так не раніць цяпер маё сэрца, як гэтыя пахі; тонка, лёгка, але неадменна, неадхільна нагадваюць яны мне пра тое, пра што сэрца маё вяшчуе і чаму я верыць не хачу, не магу. Мой дружа, любы мой дружа, створаны для мяне, ці можна, каб я жыла якраз цяпер, калі я ведаю іншае жыццё? О, я ведала яшчэ іншае жыццё, поўнае нейкага рэзкага, прасякнутага жалем і тугою шчасця, якое спальвала мяне, і мучыла, і прымушала заломваць рукі і біцца, біцца аб зямлю ў дзікім імкненні згінуць, знікнуць з гэтага свету, дзе шчасце і гора так па-вар'яцку перапляліся… А потым і шчасце і гора абарваліся гэтак раптоўна, як дзіцячае рыданне, і я ўбачыла цябе. Я бачыла цябе і раней, але не так яскрава, а цяпер я пайшла да цябе ўсёй душою, як заплаканае дзіця ідзе ў абдымкі да таго, хто яго шкадуе. Гэта нічога, што ты не абдымаў мяне ніколі, гэта нічога, што між намі не было і мовы пра пацалункі; о, я пайду да цябе з наймацнейшых абдымкаў, ад найсаладзейшых пацалункаў! Толькі з табою я не адзінокая, толькі з табою я не на чужыне. Толькі ты ўмееш ратаваць мяне ад самой сябе. Усё, што мяне томіць, усё, што мяне мучыць, я ведаю, ты знімеш сваёй тонкай дрыжачай рукою, — яна

дрыжыць, як струна, — усё, што азмрочвае маю душу, ты прагоніш праменем сваіх бліскотных вачэй, — ох, у здольных да жыцця людзей такіх вачэй не бывае! Гэта вочы з іншае краіны…

Мой дружа, мой дружа, чаму твае лісты пахнуць, як звялыя ружы?

Мой дружа, мой дружа, чаму ж я не магу абліць сваімі гарачымі слязьмі рукі твае, што дрыжаць, быццам струны?

Мой дружа, мой дружа, няўжо я згіну ў адзіноце? О, вазьмі мяне з сабою, і няхай над намі вянуць белыя ружы!

Вазьмі мяне з сабою.

Ты, можа, маеш нейкую іншую мрою, дзе мяне няма? О дарагі мой! Я ствару табе свет, новы свет новай мроі. Я ж для цябе пачала новую мрою жыцця, я для цябе памерла і ўваскрэсла. Вазьмі мяне з сабою. Я так баюся жыць! Коштам новай маладосці і то я не хачу жыць. Вазьмі, вазьмі мяне з сабою, мы пойдзем паціху сярод цэлага лесу мрояў і згубімся абое пакрысе, у далечы. А на тым месцы, дзе мы былі ў жыцці, няхай ружы вянуць, вянуць і пахнуць, як твае любыя лісты, мой дружа…

Скрозь цемру ў прастору я працягваю рукі да цябе: вазьмі, вазьмі мяне з сабою, гэта будзе мой паратунак. О, ратуй мяне, любы!

І няхай вянуць белыя і ружовыя, чырвоныя і блакітныя ружы.

* * *

Я бачыла, як ты хіліўся долу,
Як нахіляў цябе твой важкі крыж.
Ты гаварыў: «Я стомлены… дарэшты…
Я надта стомлены… Змагацца? А навошта?
Я адзінокі і… няма ўжо сілы…»
Ты гаварыў так проста і спакойна,
Трымцела нешта ў горле, як сляза,
Ды, як заўсёды, бляск сухі святляны
З вачэй струменіў… Побач я стаяла,
І не магла ані рукі крануцца,
Ані схіліцца да твайго чала,
Ані цябе прыўзняць… Я назірала:
Знябытага, цябе хіліў твой крыж.
…І потым зноў я на цябе глядзела,
Тады, калі нас доля разлучыла.
Як толькі воблік твой, мой любы дружа,
Прыходзіў да мяне ў маё бяссонне,
Твой голас мне гучаў: «Я стомлены… дарэшты…»
І брала я тады паперы картку,
Хацелася сабраць мне тыя слёзы,
Што ў голасе трымцелі невідочна.
Калісьці так, — расказвае легенда, —
Хусцінаю святая Вераніка
Сабраць хацела слёзы й пот Хрыста.
Але на хустцы замест поту й слёз
Застаўся воблік у вянцы цярновым
Таго, хто нёс і хто упаў пад крыж.
О, кожны раз, як я збірала слёзы
Твае, мой дружа, ў белую паперу,
Я уяўляла цуд той Веранікі…

* * *

То, можа, станецца й другое дзіва
Евангельскае? Нібы Магдаліна,
Прыйду аддаць апошнюю паслугу
Табе, і ў тую ж самую хвіліну,
Як буду горка плакаць, што навекі
Цябе згубіла, — раптам я пабачу,
Што ты ўваскрос і азарыўся славай
Надзеяў новых, новага жыцця.
І я ўпаду бясцямна на калені,
І рукі працягну к табе, і імя
Тваё прамоўлю ўголас… Але ты?
Што скажаш ты тады? Ці, можа, й ты
Пашлеш мяне з той радаснаю весткай
Да тых забыўлівых сяброў таемных,
Што адракліся тройчы ад цябе?
І покуль я у невыказным шчасці
Па людзях навіну разносіць буду,
Краінай новай славы запануеш
І на зямлі збудуеш новы рай
Для тых, каго паклічаш, для сябе.
Ці будзе ж месца там для Магдаліны?
Ды мне ўсё роўна, толькі б збыўся цуд!

## *Паўло Тычына*
## *(1891–1967)*

* * *

Арфамі, арфамі…
Арфамі, арфамі —
Залатымі, маладымі абазваліся гаі
Самазвоннымі:
Йдзе вясна,
Йдзе красна,
Кветам-жэмчугам
Упрыгожаная.

Думамі, думамі —
Нібы мора караблямі, перапоўніўся
Блакіт
Святлатоннымі:
Бой завыў
Агнявы!
Смех будзе, плач будзе
Перламутравы…

Стану я, гляну я —
Скрозь званочкі-ручаёчкі,
Жаваронкі залатыя
З пералівамі:
Йдзе вясна,
Йдзе красна,
Кветам-жэмчугам
Упрыгожаная.

Любая, мілая —
Ці тугою, а ці шчасцем ты наліта

Цераз край.
Там за нівамі:
Лёс твары
Ветравы!
Смех будзе, плач будзе
Перламутравы…

## Гаі шумяць…

Гаі шумяць —
Я слухаю.
Аблокі спяць —
Мілуюся.
Мілуюся-дзівуюся,
Чаго душы маёй
Так весела.

Гэй, звон ідзе —
Іздалечы.
Сто дум прадзе —
Над нівамі.
Над нівамі-разлівамі,
Купаючы мяне,
Моў ластаўку.

Іду, іду —
Узрушаны.
Кагосьці жду —
Спяваючы.
Спяваючы-кахаючы,
Пад шэпат траў
Галублены.

Задумны гай —
Над рэчкаю.
Вунь неба край —
Што золата.
Бы золата — паколата,
Гарыць-трымціць рака,
Як музыка.

* * *

Прыйшлі да мяне госці —
вяскоўцы-землякі.
Хачу я іх прывеціць —
Ды што мне ім сказаць?

— Бяда, — яны гавораць, —
а горад у сцягах…
Адна бяда ды гора.
Калі ўжо ім канец?

Сыны нас пацяшаюць:
— Вунь воля і зямля!
Чаму ж за тую волю
бясконца льецца кроў?!.

Маўчаць… У вачах іх слёзы.
Я весялю тугу…
На сценах ціха плачуць
Шаўчэнка і Франко.

## О панна Інна...

О панна Інна, панна Інна!
Адзін. Вакно. Снягі.
Сястру я Вашу так кахаў —
Дзяцінна, сонцаплынна.

Кахаў? — Даўно. Цвілі лугі…
Каханне вяне — ўраз і беспрычынна…
Снягі, снягі, снягі…

Я Вашы вочы памятаю —
Іх бляск на сэрца спаў.
Зімовы вечар. Ціша. Мы.
Я Вам чужы — я знаю.
І раптам — неба… шэпты гаю…
О не, то вочы Вашы. — Я рыдаю.
Сястра ці Вы? — Кахаў…

## *Максім Рыльскі (1895–1964)*

## Таямніца асенняга лісця

Батанікі кажуць: шматколерныя асеннія кветкі вабяць пчол і іншых насякомых, якія і спрыяюць апыленню… Ну, а барвовыя асіны, залатыя клёны, ярка-жоўтыя бярозы, бронзавыя дубы, усе шыкоўныя фарбы асенняга лесу — каго і для чаго яны вабяць? Ці гэта мастацтва дзеля мастацтва?

Няхай батанікі мудруюць над пытаннем
Пра ліст рознакалёрны ў часе ападання,
Пра кіпень барваў, пышную красу —
Я ў сэрцы з юных год да смерці пранясу
І лісце гэтае у восеньскім блакіце,
І пушкінскія фарбы, як адкрыцце,
І золата, што горда падае у прах,
І ліній тонкі ўзор у дуба на лістах,
І звонкія пражылкі на далонях клёна,
Зіхоткіх пырскаў бляск на мураве зялёнай, —
Усё, што кажа нам з яскравым пачуццём
Пра скон, увенчаны такім жывым жыццём!

### I. Апошнія ружы

Апошнія ружы,
Белыя ружы,
Вераснёвыя ружы.
Яны апрануліся
У рызы цнатлівасці,
У строі дзявочае чысціні,
Яны праз асенні туман

Ледзь прыгадваюць лета,
Сонца і буры,
Залевы і вясёлыя вясёлкі,
Ночы душныя, ранкі ружовыя,
Яны, як у сне,
Бачаць вясны калыханне зялёнае,
Чуюць несмяротныя салаўіныя словы,
Дотыкі ветру шчаслівага ловяць…
А ўсё гэта жыве ў іх:
Водар вясны,
І палкае лета,
Вецер, вясёлкі і буры —
Усё гэта жыве ў іх
І жыцьме датуль,
Пакуль бічом смертаносным
Іх мароз не ўдарыць,
Пакуль на зямлю не ўроняць
Апошніх сваіх пялёсткаў
Белыя ружы,
Вераснёвыя ружы,
Апошнія ружы.

## II. Дождждык

I pleut doucement sur la ville.
Artur Rimbaud*
Дощик, дощик
Капає дрібненько…
*Песня*

Ціхі, салодкі дождждык
Сеецца шчодра на вуліцы,
Сеецца шчодра і светла,

* Ціхі дождждык сеецца над горадам. Артур Рэмбо.

І росіць лістоту,
І вее ў акно,
Як надзея.

Дожджык, мой дружа,
Дзякуй табе
За музыку мілую,
За тое, што мне нагадаў ты
Дні, калі хлопчыкам босым
Скакаў я па лужах
І ўяўляў сябе ў постацях розных:
То абсівераным капітанам,
То лаўцом невядомае рыбы,
То ўдачлівым паляўнічым,
То піратам высакародным,
То стваральнікам пабудоў вадзяных,
Гідравузлоў, як цяпер мы сказалі б…
Дожджык, мой дружа!
У тваім лепятанні
Чую я сотні людскіх галасоў —
Старэчых, юнацкіх, дзявочых, дзіцячых, —
Злітых у песню адну,
Бяздонную, нібы свет.
У срабрыстым тваім мігценні
Воблікі бачу прыгожыя,
Што сняцца адзін толькі раз —
Напрадвесні —
І абліваюць гарачай крывёю
Спраглае сэрца.
Боль ты мой, дожджык мой родны,
Радасць мая невыказная,
Свеце мой дарагі,
У лужыне адлюстраваны!
Сэрца маё неўталоннае!

## III. Неўталоннае сэрца

То калі ж ты супакоішся, сэрца?
Калі будзеш біцца роўненька,
Як гадзіннік,
Як механізм,
Як розум разважлівы?

А ці ж так гэта й трэба?

## IV. Што я ненавіджу і што я люблю

> Эміль Заля напісаў калісьці палкі артыкул «Што я ненавіджу», які заканчваецца так: «А цяпер вы ведаеце, што я люблю, да чаго адчуваю палкую любоў яшчэ з юных гадоў». У наш час Юліян Тувім у «Кветках Польшчы» прысвяціў немалы ўступ — даволі мудрагелісты і крыху парадаксальны — таму, што ён ненавідзіць і што ён любіць. На гэтую тэму, увогуле, выказваюцца ў той ці іншай форме ўсе пісьменнікі свету, усе людзі на свеце.

Я ненавіджу брахню
У апратцы любой,
У шыкоўнай і пышнай найболей,
Тупасць самаздаволеную,
Хаця б і насіла яна
Залатыя акуляры,
Мітусню, хапатлівасць, крыклівасць,
Зайздрасць і сябелюбства,
Прыкрытыя гучнымі словамі,
Вочы ў пагардзе прыжмуру,
Тлушчам агідным заплылыя,
Вушы, заткнутыя ватаю
Ад ветру і гора людскога,
Здраду і подласць

З вачыма блудлівымі,
Фарысейства і двурушша
У лічыне маральнасці строгай…
Я ненавіджу!
Простыя, чыстыя рэчы люблю я:
Сэрца, сябрам адкрытае,
Розум, да іншых уважлівы,
Працу, што свет падвясельвае,
Поціск мазольнай рукі,
Сіні світанак над возерам,
Шум лесу зялёны і шум залаты,
Спеў салаўіны і песню людскую,
Сціпласць шыпшыны і гордую ружу,
Мужнасць і вернасць,
Народ і народы —
Я люблю!

### V. Агні ў родным горадзе

Гаснуць агні ў горадзе,
Нібы ў марское бяздонне
Падаюць зоры з бурштыну.
Толькі над тымі, сапраўднымі,
Бы іх сястра неспакойная,
Нібы метэор свядомы,
Ляціць самалёт начны.
Толькі заводаў нястомных
Вочы гараць гарачыя,
Толькі паэты, вучоныя
Не спяць за высокімі вокнамі,
Толькі думка людская
Запальвае агонь над сусветамі.
Гаснуць агні ў горадзе,

Што ў муках цяжкіх захлынаўся
Так нядаўна, здаецца,
І так бясконца даўно!

Цемра тады залягала штовечара
Над маім горадам,
Цемра няволі.
Чорная рука ворага
Гасіла агні і сэрцы —
Не! Сэрцаў не магла згасіць!
Сэрцаў не магла згасіць!
Кіеве мой!
Кіеве наш новы,
На папялішчы ўзрослы!
Кіеве-цвеце!
Ніхто не згасіць цяпер працавітых,
Велічных, нібы спеў,
Дружбаю ўмытых,
У будучыню раскрытых,
Нязгасных агнёў,
Творчых агнёў!

### VI. Кляновае лісцейка

Кляновае лісцейка —
Гэта Стафаніка смутак вялікі,
Туга дажджавая прыкарпацкіх палёў,
Гэта сонца халоднае з-за хмар,
Гэта хворае маці усмешка
Беднаму сыну,
Гэта голас расстання і мукі
У апошнюю хвілю любові,
Гэта ціхая песня без слоў,
Ціхая і самотная…

Кляновае лісцейка —
Гэта ранак румяна-марозны,
Сініц і поўзікаў свіст
У паветры бадзёрым,
Дзяўчаты на сцежцы ў гаі
І ў небе высокім гусі,
Гэта шолах, і шэлест, і звон
Пурпуровае восені.
Гэта Пушкін у мяне ў пакоі
І Пушкін у сэрцы маім,
Гэта дым над роднаю хатай
І дымок цыгарэты сябра,
Гэта думка, што будзе зіма,
Гэта вера, што прыйдзе вясна за ёю —
І пралескі ізноў зацвітуць
Там, дзе цяпер ляжыць залацістае
Кляновае лісцейка…

*Уладзімір Сасюра*
*(1898–1965)*

## Расстралянае бяссмерце

*Урывак з паэмы*

У сэрцы — золата, яснота.
Гайда, паэзія мая!
Пра геніяльнага Чарота
На струнах сэрца граю я,
Хоць у крыві забітых грузка…
Ён быў Сасюра беларускі…
І куля (паў ён з ёй у герцы)
Нібы маё прабіла сэрца…
«О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цвет!..» —
Спяваў калісь мой друг, паэт
Вялікі, сябар мой Дубоўка…
Але яго стрыножыў лоўка
Той, хто вядзе свой род ад воўка…
У твар натхнёны — пісталет…
І даспяваць не змог паэт.
Цяпер ў Маскве ён, з барадою,
Як у Тагора… Мой герою,
Пакутнік мой за Беларусь!

Ці так, таварыш наш, Пятрусь,
Літкамісар, паэце Броўка?
Шануй, цані, любі Дубоўку!
На небакраі
Ранку дровы
Запалымнелі… Стэп як дым.
Па ім ідзе Александровіч…

Яго я ведаў маладым,
Смуглявым і такім заўзятым.
Ад сівізны цяпер ты рус.
Цябе я называю братам,
Мой шматпакутны беларус!
Ад мук, што бытта землятрус,
Не перастаў ты быць крылатым.
Хоць у жыцці ўжо іх не стала —
Люблю я Коласа, Купалу,
Як Багдановіча люблю.
Яго паэзія не ў скрусе,
Ён — Лермантаў у Беларусі…
А дзе Гурло?
Дзе Гартны Цішка?
Па ўсіх іх сэрца, і не крышку,
Баліць… Я вас усіх люблю.
Мы — аднадумцы-пабрацімы
У працы ўзнёслай для Радзімы!..

О, колькі вас, мае сябры
Няшчадна ссеклі, як бары,
Што прасцiралі ў неба кроны!
І кроў цякла ракой чырвонай…
А я на беразе Дняпра
Згадаў Алеся Дудара,
Пампушкі губ яго дзявочых…
Шумеў на сонцы ён, спяваў…
І вось — падсечаны — упаў…
Кат і на ім паставіў «точку»…
Крывёю капалі лісточкі…
У галаве ж, як вочка, ранка…

Вітаю я Максіма Танка
І ўсіх, што сталі ў слаўны рад,

Каб замяніць змог брата брат
І друга друг у светлай песні…
Хай згіне хмары цень злавесны,
Што, поўны едкага туману,
Паўзе ужо з-за акіяну!..

## Уступ да паэмы «Мазепа»

Навокал радасці так мала!
Які там, к чорту, дзён бадзёр,
калі мы крылы паламалі
у марным лёце ў небазор.

Я гнеў і муку, боль і гора
спяваю сёння ў дні журбы,
калі ідуць лакеі ўгору
й маўчаць рабы.

Калі сумленнымі радкамі
«бадзёр» мне цяжка удаваць.
Разбі ж ты галаву аб камень,
Мая Ўкраіна, удава!

Твой слаўны плод зноў скралі чэрці —
яго й цяпер не ўбачыў свет.
Не ўмела жыць, то хоць памерці
сумей як след.

Хадою гнеўнаю блукаю
сваёй зямлёй чужынцам я.
Пажарам вочы залівае
мяне трагедыя твая.

Сляпой, абдуранай, забітай,
няўжо не ўстаць табе ад ран?
Маскве і Рэчы Паспалітай
калісь шпурнуў цябе Багдан.

А як хацеў табе Мазепа
ад сэрца шчырага дабра!..
Яго ты здрадзіла, і стэпам
пайшла рабыняю Пятра…

Хіба ж не жах?! Уласнай зброі
твой дух журботны не здабыў.
Заўсёды так: два-тры героі,
а рэшта — зборышча дэбіл.

Мякіна рэшта і палова,
дзярмо, што хоча годна жыць.
О, дзе знайсці мне тое слова,
каб Украіну ажывіць?

Твае шляхі — адчай і камень.
Чаму, пакутніца, скажы,
зямлю ты плодзіш байструкамі,
цяглом, пагноем для чужых?..

Што, не абыдзешся без пана?
Няўжо не можаш без дзярма,
расійска-польская путана,
маларасійская турма?

Я за цябе — дазволь — загіну,
ды разганю тваю імжу.
Я так люблю цябе, Ўкраіна,
і сам не знаю, што кажу!

Дзеля цябе і Бога, й неба
забыў я — ўсё дзеля цябе!
Жыццё аддам, як будзе трэба,
дзеля цябе у барацьбе.

Я йшоў крывавымі жытамі,
і зноў пайду, дзе гул, імгла.
Бо аднаго хачу я, мама, —
каб ты шчасліваю была!

***Багдан-Ігар Антоныч***
***(1909–1937)***

## Песня пра вечную маладосць

Запрэгчы ў сані чацвёрку дэрашаў-коней —
і ў гон, і ў гон!
Заіржуць рысакі, заскрыпяць супоні,
аж рэха адаб'ецца
ад гор, ад гор.

Сцебануць бізуном, і з ветрам буйным
удаль, удаль!
Марай жаданай сэрцы гартуйма,
а сэрцы куйма
на сталь, на сталь.

Грукнуць у срэбную рунь капыты залатыя,
бы гром, бы гром.
Ударыць у грудзі вятры крутыя,
пад дахам сіняга неба
наш дом, наш дом.

Снягоў змярцвелую цішу раскрышым да донца:
няма турбот!
І паімчымся насустрач сонцу,
бадзёрыя, радасныя,
у галоп, у галоп.

Запрэгчы ў сані чацвёрку дэрашаў-коней —
і ў гон, і ў гон!
Напрасткі пераедзем усе перапоны,
спасцігнем
жыцця закон.

Распускаюць коні сівыя грывы,
з храпаў пара, што дым.
З шалёным ветрам буйнагрывым!
Быць вечна юным,
вечна маладым!

## Восень

Даспяваюць дні вялікія, як яблыкі,
ліст злятае з ліп,
плыве воза скрып,
каля лесу навакола — воклік зябліка.

Паліцца пад захад сонца неба палуба,
там атара ў атаве,
тонкі туман на ставе,
у яслях яру яршысты янот ятрыць ястраба.

П'янкое піяна на піяніне траў
вецер зайграў.
Спеюць дні хутка і пэўна,
пяюць апоўначы пеўні
і —
рой вос,
пагод восем
і вось
восень
і
во
восень
сень
ень
нь.

## Ноч на пляцы Юра

Поўнач чорная, што вугаль,
ходзяць цені пляцам Юра,
то хаваюцца за вугал,
то караскаюцца мурам.
Давідна пярсцёнак поўні
ўпраўлены у ночы гебан.
Будзеш срэбным ззяннем поўны
пад халодным дахам неба.
І адрозніць сам не зможаш,
што тут прывід, а што ява,
гэта сон ці пробліск, можа,
рэчаіснасці лукавай.
Гэта — з музыкі й шкла вежы,
той агонь, што ўжо не грэе,
новых дойлідаў мярэжы,
свету край, што ледзь шамрэе.
Поўнач чорная, што вугаль,
попел сну на вочы сыпле,
цені схлынулі за вугал,
неба да зямлі прыліпла.
Звоніць ноч на пляцы Юра.
Крыж, як здань іхтыязаўра.
І расце, як цень, пахмура
неразгаданае заўтра.

## Львоўская элегія

Зноў запаліліся срэбрам каштаны
на Стрыйскай алеі,
сэрца дыктуе ізноў
сваю жарсць галаве.
Хочацца выгукнуць:
толькі вясна так умее —
шыраказвонна і сямімільна
па Львове плыве.
Сонца ў гародах запаліць
свяцільнікі ружаў,
кветкамі пырснуць сады,
полымем іскраў жывых.
Зноўку мяне зачаруе
і зноў галаву мне закружыць
подых вясны малады —
лепшымі лекамі ўсіх.
Дзень крышталёва-празрысты,
а ранак пакуль заімглёны.
Каб і хацеў бы,
не можаш жыццю слаць праклёны.

## Мастацтва паэзіі II, ч. 1

Я звычайны паэта,
для мяне кожны дзень, як міг.
Не разумею свету,
не разумею песняў сваіх.

Піць захапленне да краю…
Спеўную плесці ніць…

Вось так сабе спяваю,
толькі рэха ў гарах звініць.

Захаплення пачатак,
рэлігіі й санетаў;
захапленне нам нараджае
апосталаў і паэтаў.

Не ўмею пісаць вершаў,
смяюся з правіл, вымог.
Для мяне паэтыку
складае сам Бог.

## Песня вясёлых бадзяг

**1**

У шлях! Каб толькі сонца нам свяціла,
каб зыркі круг гарэў нам угары.
О ты, дарог бяскрайніх подзіў-сіла,
наперад маніш водбліскам зары.
Як пах палёў дыхне ў вакна вятрыла,
хто ўседзіць у пакоі, бы ў нары?
Упіцца даляў водарам так міла,
гэй на прастор, ад душных дум старых!
Вятрамі поле душы нам абмыла,
а песню падказалі камары.
Складаем дні ў яскравых астраў клумбы,
Амерык новых шчасця мы калумбы.

**2**

Ці ў вочы дождж сячэ, нібы гарох,
ці ў летні дзень спатнела тваё цела,

хоць ты не ўмееў бы і лічыць да трох,
хоць сэрца ад нуды й журбы самлела, —
бязмежжа мяккі абматае мох,
за вольны далягляд заглянеш смела,
былых пакінеш хвіляў цёмны лёх,
адчуеш: сэрца моц ізноў займела,
і загучыць ў табе птушыны цёх,
і ўбачыш, як навокал прасвятлела.
Без меж і сцен, што ціснуць, станеш тут,
бадзяга, валацуга, шалапут.

## Шчасце

З усіх людзей найболей я шчаслівы,
калінавы будую белы мост.
Мой дом са шкла сапраўдны і зычлівы.
Маёй вялікай філасофіі
такі бязглузды змест.

Не заплачу пакуце й гору мыта я
за небяспекі, рызыкі быцця.
Я — стрэльба, радасцю набітая,
якою выстралю дзеля жыцця.
Я п'ю яго да дна, без суму, без журбы і бед,
нішто людское не бывае мне чужым,
а што сягоння я не маю грошай на абед, —
дык ліха з ім.

## Франко
## (28.V.1916–28.V.1936)

Нялёгка гэты свет пакінуць, хоць зямных пакут
спазнаў дасхочу на дарозе дзён вірлівай.
На сто вузлоў з зямлёй спляліся думкі, і вось тут
з далоні раптам выпала жыццё разбітай лірай.

Паэт, настаўнік, выхавацель, дойлід і прараб,
што слова ў справу апранаў упэўнена і тонка,
не музам дань складаў і не сабе спяваў, а каб
пракладваць светлы шлях у прышласць для патомкаў.

Узняўся і, адклаўшы песню, як вясляр вясло,
да гнеўных зор вайны ён скіраваў маленне,
і з ложа смерці думкі слаў на шлях, якім ішло
з яго натхненнем веснім дзён тых пакаленне.

## Песня
## пра незнішчальнасць матэрыі

У нетры векавой, захутаны у вецер,
увесь накрыты песнямі, нібы вянкамі,
ляжу, як мудры ліс, пад папараці веццем,
і стыну, й халадзею, й ледзянею ў камень.

Раслінных рэк зялёная паводка смела
у наступ рушыць, і аглушыць лісцяў лопат.
Залье мяне патоп, раздушыць сонцам белым,
і з цела стане вугаль, з песень будзе попел.

Пральюцца, нібы лава, сотні зім і летаў,
дзе мы жылі, зараскашуюць пальмы,
і вугаль нашых цел займецца чорным кветам,
зазвоняць ў маё сэрца молаты ў капальні.

*Алекса Юшчанка*
*(1917–2008)*

## Сэрца Сяргея Палуяна

**1**

Які ты непрыветны, жорсткі, свеце!
І змрок навокал крылле распасцёр…
А ў словах, што навеяў волі вецер:
*«Шукаць красу, і светласць, і прастор!»*

У мудрым, вечна юным запавеце:
*«Народ, не кідай мовы, каб не ўмёр!»*
Здабыць свабоду здолейце, сумейце —
Змагайцеся! Праз церні — і да зор!

За працу трэба брацца ўмела, смела,
Каб думка наша праменем зырчэла
І асвятляла ў будучыню лёт.

Сальем далоні ў поціску адзіным!
О, як жа цяжка на прастор ісці нам,
Ды не спыніць нікому наш паход!

**2**

Вось Кіеў. Барацьбы цяжкі пачатак.
Чартапалохам перавіты лёс.
Надзейна расфуфыраны Хрышчатык
Ды мройны прыдняпроўскі вербалоз.

Навукаў сціжма, лабірынт граматык —
Усё б спасцігнуць! Дасягнуць нябёс!

Хацеў да кожнага звярнуцца: «Брацік!»,
Але не час, не да умільных слёз.

Далёкі дружа, браце Палуяне!
Гарэла тваё сэрца палымяна,
Збалелае ж, скарылася журбе,

Хоць кіеўская «Українська хата»
(Якая тым і рада, чым багата)
Усё-ткі стала роднаю Табе.

## *Васіль Сіманенка (1935–1963)*

* * *

О краю з пераворaным чалом,
З губамі, перасохлымі ад смеху!
Цябе вянчалі з крыўдаю і злом,
Байстручанятам кідалі на ўцеху.

Мая Ўкраінанька! Красуня-маці!
Гудзе агонь твой, зло гарыць у ім.
Ты мне у мозг ізноў крычыш пракляцце
Прыблудам і пярэхрысцям тваім.

Любоў мая! Мая святая мука!
Зара высакародная мая!
Бяры мяне! У матчыныя рукі
Бяры мяне з маленькім грозным Я!

Вазьмі дзіцячых мараў карагоды,
І плоць, і мозг, і думак санцабег,
Бо лепшай мне няма узнагароды,
Чым быць патрэбным, любая, табе.

* * *

Гэй, Калумбы нашы, Магеланы,
Дай ускінем ветразь новых мрой!
Клічуць у вандроўкі акіяны,
Ў бухту цішы грукае прыбой.

Хто сказаў, што ўсё даўно адкрыта?
Для чаго ж на свеце мы тады?
Не, не ўдасца ўкласці у карыта
Нашых спадзяванняў маладых!

Караблі! Рыхтуйцеся ў паходы!
Дзе ты, мара, наш імпэт жывы?
Ў акіяне роднага народа —
Глянь! — духоўных скарбаў астравы.

Якары хутчэй цягніце з ілу,
Колькі быць на прывязі душы?!.
Вочы прагнуць новых небасхілаў.
Каравела, ў плаванне спяшы!

Вецер Сонцу не нашле астуды,
Певень жа Зямлю не разграбе!
Украіна, покуль дыхаць буду,
Буду адкрываць датуль цябе!

Марыць і шукаць, стварыць і — квіты! —
Раўнадушша смажыць на кастры!..
А калі адкрыю ўжо адкрытае,
Падкажыце, добрыя сябры…

* * *

Свет які — дзівосныя мярэжы!
Свет які — ад цвету да завей!
Зоры й травы, золку вэлюм свежы.
Магія прымружаных вачэй.
Свеце мой пяшчотны, ясназоры,
З радасцю і горкімі слязьмі,

Ласкавы, узрушаны, суворы,
Неспакой свой дай мне, дай прастору,
Сонцам сэрца спраглае праймі!
Дай ты мне у думкі дынаміту,
Дай ты мне любові, дай дабра,
Грукачы у лёс мой непазбыты
Хвалямі спрадвечнага Дняпра.
Незямною радасцю нацеш ты,
Шчасця не шкадуй маім гадам —
Тыя скарбы ўсё адно дарэшты
Улюбёна я табе аддам.

## Лебедзі мацярынства

Мрояць крыламі з туману лебедзі ружовыя,
Сыплюць ночы у ліманы зоры сургучовыя.

Заглядае ў шыбы казка сівымі вачыма,
Зноўку матчыная ласка ў яе за плячыма.

Ой, бяжы, бяжы, мой жалю, не хадзі тут блізка,
Каб гайдаў ты — не жадаю — сынаву калыску.

Прыплывіце да калыскі, мае лебядзенькі,
Зоры ціхія, спадзіце сынулю пад вейкі.

Пеўні растрывожылі цемру у сяле,
Танцавалі лебедзі ў хаце на сцяне.

Лапаталі крыламі, ружавелі пёркамі,
Бавіліся ў марыве з залатымі зоркамі.

Вырасцеш ты, сыне, ляжа шлях пад ногі,
Вырастуць з табою новыя трывогі.

На змярканні хмельным маўка-чарнаброўка
Будзе ждаць любові, ласкавага слоўка.

Будуць цябе клікаць у сады зялёныя
Хлопцаў чарначубых дзіва-нарачоныя.

Можаш выбіраць ты жонку і сябрыну,
Толькі нельга, сыне, выбіраць Айчыну.

Можна выбраць сябра новага, як страціў,
Толькі нельга, сыне, выбраць зноўку маці.

У вандроўку вырушаць за табою, сынку,
Вочы мацярынскія, белая хусцінка.

І калі ўпадзеш ты на чужацкім полі,
Прыйдуць з Украіны вербы і таполі,

Схіляцца журботна, лісцем залапочуць,
Сумам развітання душу заласкочуць.

Можна ўсё на свеце выбраць лепшым чынам,
Толькі нельга, сыне, выбіраць Айчыну.

## Першы

Першым быў не Бог
і не геній,
першым просты быў мужычок.
Жыў сто год ён,
а можа меней,
і між іншым
хлябіну спёк.
Ды не змог дасягнуць
п’едэстала

той наіўны франк
ці дулеб,
бо век часу яму
неставала
атрымаць свой патэнт
на хлеб.
Пастарэла ўжо
мудрасць Божая,
распыліў яе
грозны час.
Хлебам
геній жывіўся кожны,
каб жывы яго розум не згас.
І няхай над зямлёю, над векам
непагода лютуе і рве —
мудрасць простага чалавека
вечна ў бохане цёплым жыве.

## Жорны

Натуга на руках,
Ад стомы чорных,
Ўздувала жылы,
Нібы матузкі.
Каменне ляскала зубамі
Ў жорнах,
Разжоўвала зярняты на друзкі.
І сеялася не мука,
А му́ка…
Пры язычку сляпенькім каганца
Спрацованыя
Матчыныя рукі

Цягнулі ручку камня
Без канца.
Журба і стома важылі павекі,
І ўсё ж латак
Сваю работу меў…
Было ўсё гэта
У дваццатым веку,
Што бурамі над намі прагрымеў.
Мы часта чуем
Насмех злы, няціхі,
Падораны зларадна чужаком,
Што заглядала крыўда
Лютым ліхам
У наш —
Для шчасця выведзены —
Дом.
Хай сатанеюць
Вылюдкі ад енку —
Што нам хвала іх
І што іх хула?
Нам жорны тыя
З каменнага веку
Еўропа варвараў
На танках валакла.
Аднак за гэта
Стала ёй навукай,
Калі —
У чалавецтва на віду —
Нібыта ў жорнах,
Звыкла нашы рукі
Перамалолі
Варвараў арду!
Народзе мой!

Тытане мой нязломны!
Ты вызначаеш часу кругабег.
Твой горды подзвіг
Не прынізяць жорны —
Яны адно ўзвялічваюць
Цябе.
Хай пырскае
Твой вораг слінай чорнай —
Твайго паўдня
Яму не ачарніць!..
Цалую рукі,
Што круцілі жорны,
Перш чым спіраль арбіты
Раскруціць.

## Дзед памёр

Вось і ўсё.
Пахавалі старога дзядулю,
закапалі навекі ў святую зямлю.
Адкувалі яму ціхім ранкам зязюлі.
Больш яму не араць,
не абходжваць раллю,
не будзіць цішыню сваёй рупнай касою,
не дзівіцца на неба, дзе зор светлякі.
Толькі жыта па ім стане плакаць расою
і над ім паплывуць непрыкметна вякі.
Вось і ўсё.
Развіталіся мы з Чалавекам
і вярнулі навечна у лона зямлі.
Ды няўжо
пад сасновым прасмоленым векам

яго жаль
і надзеі
змясціцца змаглі?
І няўжо
ўсё ад сёння яму усё роўна,
ці засвеціць зноў сонца,
ці ноч наплыве?
Боль у сэрца маё напаўзае раптоўна,
грудзі душыць адчай, душу раніць і рве.
Я паверыць
у свет замагільны гатовы,
абы толькі
бясследна не йшлі ў забыццё
твая святасць,
сумленне,
і мудрасць,
і мова —
дзеці верныя працы,
твае дзеці, жыццё.
Хай гудзе над планетай
дзень песенна-весні,
новы ліст хай праб'ецца
над тым, што сшамрэў…
Я не веру,
што дзед з дамавіны ўваскрэсне,
але веру,
што не —
ён увесь не памрэ.
Яго одум няхітры
дамысляць унукі,
і палаць яшчэ будзе у іхніх вачах
яго жарсць, яго гнеў,
яго радасць і мукі —

што, канаючы, ён
ім, жывым, завяшчаў.

* * *

Колькі б ні прыйшлося гараваць мне,
Ўсё адно благаслаўлю заўжды
Дзень той, калі ў свет пусціла маці
Для жыцця.
Для шчасця.
Для бяды.

Дзень, калі знячэўку мае губы
Грудзі мацярынскія знайшлі,
Дзень, які сагрэў і прыгалубіў
Ласкаю праменнай на зямлі.

Колькі ты мне выдзеліў багацця,
Колькі шчасця,
Лёсе-дабрадзей! —
На зямлі і плакаць, і смяяцца,
І кахаць, і жыць сярод людзей!

## Прароцтва 17-га года

Гранітныя надгробкі, што мядузы,
Паўзлі, паўзлі і выбіліся з сіл.
На цвінтары панішчаных ілюзій
Не засталося месца для магіл.
Мільярды вер закопаны ў чарнозем,
Мільярды шчасцяў — толькі тлен і прах.
Душа гарыць. Палае люты розум.

Рагоча з ім нянавісць на вятрах.
Калі б абдураныя прасвятлелі,
Калі б забітыя ўсе ажылі, —
Нябёсы, куды скаргі ўсе ляцелі,
Не вытрымалі б, трэснулі б, здалі б.
Трасіцеся ж. забойцы, лізаблюды!
Жыццю не мерка болей ваш капыл.
Вы чуеце? На цвінтары ілюзій
Ужо не стала месца для магіл.
Ужо народ — адна пякучка-рана,
І ад крыві раз'ятрана зямля.
На ката і на кожнага тырана
Ссукана ўжо надзейная пятля.
Ашуканыя, збітыя, забітыя
Ужо ўстаюць і чыняць правы суд.
І, злыя, горкія, несамавітыя,
Праклёны іх спадуць на душы сытыя,
І гайдануць асіны на дасвецці
Апосталаў злачынства, злых прыблуд!
І ўстануць праўда і любоў на свеце,
На варце ж праўды стане працы люд!

* * *

Дзе сёння вы, майго народа каты?
Дзе сіла ваша, веліч ваша дзе?
На зоры, і на воды, і на хаты
Больш ваша злосць сляпая не спадзе.

Народ расце, і множыцца, і дзее
Без вашых бізуноў і палаша.

Пад сонцам вечнасці цвіце і маладзее
Яго лагодная і жорсткая душа.

Народ мой ёсць! Заўжды народ мой будзе!
Ніхто не перакрэсліць мой народ!
А кожнаму пярэхрысцю й прыблудзе
Наканаваны лёс фашысцкіх орд!

Вы, катаў байструкі, цяпер бяссілых,
Не забывайце, вылюдкі, нідзе:
Народ мой ёсць! Ў яго гарачых жылах
Кроў казакоў пульсуе і гудзе!

## Равеснікам

Мы ў свет прыйшлі як спадкаемцы славы
Турботаў, дум і чэсных мазалёў,
Бацькоў вялікай палымянай справы,
Што запаліла Праўду над зямлёй.

Нам не драмаць ніводнае мінуткі
На быстраку жыццёвае ракі,
Не выліваць уцех мізэрных, смутку
У меланхалічныя радкі!

Няхай не знаюць сэрцы супакою.
Хай абганяюць мары лёт Зямлі!
Няхай юнацтва будзе ў нас такое,
Якому б не зайздросціць не маглі!

* * *

Столькі маеш вачэй,
столькі рук і мазоляў,
колькі кропель сышлося
ў шырокім Дняпры.
Ты не падаў у буру,
з бяды не бязволіў,
на душу не насунуў
ганебнасці брыль.

Не шукаў да цябе я
шляхоў на выгодзе,
бо узбочную сцежку
ніколі не меў —
для цябе я гарэў,
украінскі народзе,
толькі, мабыць, не надта
зіхотка гарэў.

Толькі, мабыць, не змог
я успыхнуць балідам,
думай свет азарыць,
небасяжны твой свет.
Зазіхцець, нібы сонца,
што ззяннем спавіта
тваіх подзвігаў гордых
і нялічаных бед.

Сціплай працы маёй
не да твару акраса,
але ў тым, далібог жа,
не бачу бяды —
штосьбыло у мяне

і ад дзеда Тараса,
і ад прадзеда —
Скаварады.

Да цябе не шукаю
шляхоў на выгодзе —
ты у плоці маёй,
у грудзях, у руках.
Упаду я зарою,
мой вечны народзе,
на трагічны і доўгі
Чумацкі твой Шлях.

***Павел Паповіч***
***(1930–2009)***

## Я іду, Галактыка!

Чуў не раз я пра любоў да мора
І да неба ў сэрцы нёс любоў.
Пад яго нямеранай прасторай
Безліч кіламетраў сам прайшоў.
Ды скажу па шчырасці: хоць многа,
Больш, чым на зямлі, я ў небе жыў, —
Для мяне радней няма нічога,
Ёй, зямлёй, найболей даражыў.
Вось таму ізноў я прысягаю:
Покуль сэрца ў грудзі шчодра б'е —
Ні на што нідзе не прамяняю
Родную і плодную — Яе!
З громам і вясёлаю вясёлкай,
З ветрам, што таполі нахіліў,
З буйным цветам, з кожнай гойнай голкай
І з дажджом, што сыпле на палі,
З белаю хацінаю над ставам,
З водарам герані у садах,
З нафтаю і наймацнейшым сплавам,
Што булькоча ў доменных пячах.
Кветкі ў космас з роднае планеты
Браў на згадку, што цвіла вясна.
Кветкі тыя бачыў на лафетах
У байцоў, калі была вайна.
А пяхоце сніліся пракосы
І барозны пульхнае раллі,
На начлезе дым кастра і росы,
Плён багаты ўдзячнае зямлі.

Хоць ніякай розніцы між намі,
За салдатаў рады я стократ.
У пяхоты шчасце пад нагамі —
Свята беражы яго, салдат!
Я і сам дарогу пракладаю,
Дзе ніхто дагэтуль не хадзіў,
Толькі без цябе, Дняпроўскі краю,
Я ў жыцці нічога б не зрабіў.
Я іду, Галактыка!
Ні змора
І ні страх не спыніць мой разгон!
Сын Зямлі я —
Зразумейце, зоры,
Гэта ад яе нясу паклон!
І не будзьце ў крыўдзе за характар:
Больш, чым вас, усё ж люблю расу.
У халодны змрок нямых галактык
Я сваё, зямное, данясу.
А калі надыдзе ліхалецце,
Пад дажджом касмічным упаду —
Стану да цябе, Зямля, ляцець я
І працяг свой у табе знайду.
Попелам, што ў стэпе ляжа недзе,
Ці каля Дняпра пасевам рос —
Мне жыццё вярні, каб на планеце
Залатым я коласам прарос!

## *Роберт Трацякоў*
## *(1936–1996)*

* * *

У свет я прагну.
Прагну ў акіяны.
Хачу я кожным мускулам адчуць
Напружанне зямных мерыдыянаў —
Іх кантыненты ўзбуджаныя рвуць.
Пабыць, дзе мір і дзе вайны пажары,
Сталіцамі і портамі прайсці
І ўзяць з палітры кожнага паўшар'я
Гарачых фарбаў для сваіх карцін —
Пурпур ангольскі і Сахары вохру,
Кармін кубінскіх вогненных сцягоў…
І быць заўжды дакладным, як географ,
Й празорлівым у выбары таноў!

### **Падтэксты**

Фальшывая спагаднасць жэсту,
Паблажлівасць вучоных фраз:
«Ну як жа можна без падтэксту
У наш кібернетычны час?!
Дзе ўсё надзвычай так складана:
За дасягненнямі ж падчас
Ты знойдзеш безліч непаладак
І супярэчнасцей у нас…
Канечне, паэтычнай чэрні
Не дасягнуць тварэнняў, дзе

Адна трэць бачна на паверхні,
А ў глыбіні схаваны — дзве.
Ды, апрача ўсяго, ёсць рэчы,
Якіх не выкажаш у лоб…» —
І вучыць дулі слаць з заплечча
Той новаспечаны Эзоп.
О нешматпаважаны снобе,
Твой хітры трунак я не п'ю —
Падтэкстам я тваю асобу
У баязліўцах пазнаю.
А я стаю за мужнасць тэксту:
Хула — то ў вочы, бой — дык бой.
Адкрытасць слова, яснасць зместу —
Радня паэзіі маёй.
Аўтографы герояў Брэста…
Кліменка… Багачук… Пятроў…
Там просты тэкст.
А вось падтэкстам —
Праліта за Радзіму кроў!
Я не сатырык. З веку-роду
Мне з гэтым нават нелады —
На чыстую выводзіць воду
Дрэнь розную: шкада вады.
Але заўжды адкрыта й чэсна,
Пакуль гару, пакуль жыву,
Нягодніка адкрытым тэкстам
Нягоднікам і назаву.
Няхай хто, можа, і асудзіць,
Ды без зламыснасці зусім,
Калі чамусьці кепска людзям, —
Скажу: і мне баліць, як ім.
Пагарда ж скрытая к народу,
Прыхованы ў хвальбе праклён —

З пароды той, што і парода,
З якое ўзводзяць тэрыкон.
Ён звонку нават велічавы,
Равеснік сённяшняму дню,
Аднак з яго тых спраў — што чаду,
І чорта лысага — агню!

## Дуэль

Я йду… Яшчэ адна зацяжка.
Нервовы цыгарэтны дым…
Мне ясна ўсё…
Чаму ж так цяжка
Пакінуць зразу гэты дом?
Там, за вакном, нягода, вецер,
І зноў самотны сум, і зноў,
Як на цвінтар, я буду несці
Неадшуканую любоў.
Не ўпаду, не зарыдаю,
Слязу змахнуўшы ў цішы, —
Яе ціхутка пахаваю
Дзесь на ускраіне душы.
І хоць я ісцін шмат агораў,
Ды стане й гэта з імі ў рад,
Што боль няздзейсненага — горай
За гора самых страшных страт.
Я знаю, мне не раз насніцца:
Пасцель, яна, з сумленнем бой.
О, як захочацца памсціцца
За той нясцерпна востры боль!
Два крокі толькі да пасцелі,
І тыя ж крокі — да дзвярэй.

Не, не любоў — закон дуэлі
Збліжае ў гэты міг людзей,
Дзе ёсць і слава, і няслава,
Дзе нейкі ёсць яшчэ бар’ер,
І на адкрыты выстрал права,
І права гэткае ж на смерць.
Ды, як дзіця, застанься чысты
І беззаганны, нібы Лель!
Скажы «люблю» — і на злачынства
Ўраз ператворыцца дуэль.
Над Ёй навісне з гэтай даты
На цэлы год няўмольны рок.
Сумленне ж ціхім секундантам
Адыдзе, сумнае, убок…
Яшчэ, яшчэ адна зацяжка —
І ўсё растане, быццам дым…
Я йду…
Але чаму так цяжка
Было пакінуць гэты дом?
Няўжо я змог душой памерці,
Каб так са злосцю наздарма
Другому цэліцца у сэрца
За штось, чаго ў мяне няма?

## Партрэты

Прыходзіць час — вучоны ці паэт
Знаходзіць канчатковы свой партрэт…
І вось ужо ў гісторыю ўвайшло
Задумнае Тарасава чало,
Спалучаная з Марксам назаўжды
Віхрастая ільвінасць барады,

Вянец — у Дантэ, арфа — у Маснэ,
І чэхаўскае — з ланцужком — пенснэ…
І мы ужо не можам так зрабіць,
Каб іншымі іх нейкімі ўявіць.
— Прычым партрэт тут? — скрывіцца хтось з вас…
А можа, Дантэ выпала якраз
Прайсці па пекле тым з канца ў канец,
Каб заслужыць лаўровы свой вянец?
А колькі пражыта і чаго,
Каб Кабзару упала на чало
Высокая упартасць навальніц
І віднага раптоўных бліскавіц!
Якая моц ахвярнай дабраты
У павуціннай схеме барады,
У думцы той, што цераз акіян
Пераплыла цяжкіх эйнштэйніян!
Нібы равеснік, часам бачу я,
Сум у паэта чый, любоў чыя.
І вочы блізарукія ў пенснэ
Так дальназорка дзівяцца ў мяне!
І гледзячы на звыклы той партрэт,
Я думаю аб сутнасці патрэб:
Якім заўсёды трэба сталым быць,
Якім заўсёды трэба юным быць,
Якім заўсёды трэба простым быць,
Якім заўжды складаным трэба быць,
Якім заўсёды трэба розным быць,
Якім неканчатковым трэба быць,
Каб людзі зразумелі: вось паэт!
…І канчатковы выбралі партрэт.

## *Мікола Вінграноўскі*
## *(1936–2004)*

* * *

Як толькі дзіцем неўтаймоўным горад
Засне нарэшце неспакойным сном,
Яна прыходзіць — сёння, як і ўчора —
І штоначы шапоча пад вакном,

Каб я вяртаўся зноў на Украіну
Плугамі чарнакрылымі араць,
Тапаляняты ў полі палівацъ,
Зямлю, што называюць тапалінай.

Бо час імкне імклівао ступою.
Дзе завязь, дзе свячэнне пустацвету?
І той любоўю поўніцца да свету,
Хто родны грунт адчуе пад сабою.

## ***Дмытро Паўлычка***
## ***(нар. 1930)***

*** * ***

Калі памёр крывавы Тарквемада,
Пайшлі па ўсёй Іспаніі ганцы,
Доўгачаканай весткі пасланцы —
Манахаў хітрамудрыя армады.

О, як баяліся царквы айцы,
Што пахіснецца іхняя улада!
Душа ж ерэтыка той смерці рада,
Ды толькі усміхніся — і капцы!

Манахі самі ўсім распавядалі,
Што інквізітара ужо няма.
А людзі, слухаючы іх, рыдалі:

Няўжо пражыць мажліва без ярма?
І не ўсміхаліся, бо добра зналі:
Тыран падох, — але стаіць турма.

### **З цыкла «Рубаі»**

* * *

Ёсць людзі, як дубы, і ёсць дубы, як людзі,
Што пад маланкі падстаўляюць грудзі,
Каб кволую бярозку зберагчы,
Хоць знаюць добра: ім пагібель будзе.

* * *

Мінулае не зменім мы й на ёту.
У будучыні — творчая работа.
А міг між імі ўсіх імчыць нас
Ракетаю ў высоты і пустоты.

* * *

Я чуў, як сэрца жаласна крычыць,
Каб ворага ляжачага не біць.
А розум гаварыў зусім спакойна:
Заўжды — запомні! — гадзіна ляжыць.

* * *

«Пі! Міг лаві!» — вучыў Амар Хаям.
Навука гэта падыходзіць нам.
Ды беражыся: тваю песню, мову
Зруйнуе паўнаўладны п’яны хам.

* * *

Бяда, калі цябе забудзе брат.
Але бывае горш яшчэ стократ —
Калі забудзе друг. Падумай, гэта
Мо цень ад палахлівых тваіх здрад?

* * *

У студню старасці не заглядай,
Якім ты станеш заўтра, не гадай.
Калі не можаш быць заўсёды юным,
То змоладу не будзь старым бадай!

* * *

Я ўжо ў такім узросце, што якраз
Было б не блага прыпыніць свой час.
Ды час пакорны толькі нашым дзецям,
Што прагнуць пераджыць заўсёды нас.

* * *

Зямлю смерць ачышчае, і яна ж
Планетны абнаўляе экіпаж.
Каханне служыць ёй, але за кім жа
Блакітны плашч нясе яна, як паж?

* * *

О сэрца праўнука, адзнач
Тых, што смяяліся скрозь плач,
А тым, што падалі ў блюзнерства,
Плявалі ў праўду, — не прабач!

* * *

Так кажа армянін, па камені разьбяр:
Крыжоў не разбурайце, хай стаіць хачкар —
Не будзе йсці хутчэй да шчасця чалавецтва,
Калі з крыжоў сабе праложыць тратуар.

* * *

Анёл пытаўся — малады ў старога:
Ці бачыць Бог, што зла на свеце многа?
Стары з крыла свайго саскуб пяро,
Штось напісаў, ды не сказаў нічога.

* * *

Нямала ёсць на гэтым свеце дзіў:
Вунь сатана нявіннага забіў.
Ды дзіўна тое: калі быў маленькім,
Піў малако, крыві ён не любіў.

* * *

Я бачыў Амстэрдам і Сіракузы,
Ды не шукаў я там уласнай музы;
Яна — ў Стапчатаве, яе каса —
Як маладая пасма кукурузы.

* * *

Калі руку падымеш на Тараса,
Трымці, чакай такога абяртаса —
Цябе ударыць доля і змяце,
Як пыл з твайго бліскучага абцаса.

* * *

Свет гэты, як мастак (Далі, Шагал), —
Нармальны чалавек, што не ўпадае ў шал,
Але ён творыць нас шалёнымі і сочыць
Спакойна наш крывавы карнавал.

## Запозна і зарана

У якім стагоддзі
ты ні нарадзіўся б,
заўжды будзе запозна і зарана!

Запозна,
бо ўсё найважнейшае
на гэтым свеце
ўжо сталася без цябе.
Зарана,
бо ўсё найважнейшае
на гэтым свеце
яшчэ станецца без цябе.

## Зямля з Тарасавай магілы

Прыязджаюць у Канеў,
збіраюць у мяшэчкі напарсткамі
зямлю з Тарасавай магілы,
вязуць яе дадому
і думаюць, што любяць Украіну,
як *ён* яе любіў.
А іх любові не болей,
як той зямлі ў мяшэчку.
Хопіць на тое, каб заспяваць «Ще не вмерла…»,
але не хопіць на тое, каб аддаць Украіне
душу і цела (а дзе ж узяць душу?),
хопіць на тое, каб праклінаць долю,
але не хопіць на тое, каб абняць
найменшага брата.
Захаваная ў шуфлядах, пры старой пазалоце,
забытая, загорнутая ў пацяруху,
святая зямля не дапаможа плоці
перайсці ў святло, калі няма духу.

Пакіньце ж магілу Тараса
ў спакоі!

Не раскопвайце яе, ізгоі-самалюбы,
не развозьце па свеце!
Вы сваю зямлю цалуйце,
што сама ходзіць за вамі,
заглядае ў вашы вокны,
просіць працы,
пашаноты,
любові,
але не на грамы,
і сціпла чакае на тое, каб замкнуць
вашы патрыятычныя астанкі ў дамавіне,
на дне магільнай ямы.

* * *

Тыран памёр. Палац яго парожны.
Рассыпаліся слугі, як гарох.
Народ жыве. Адзін сапраўдны Бог,
Магутнатворчы, годны і ўсёможны.

Але ж і ты ў яго — не скамарох,
А дух і непаўторны і трывожны,
Што небасхілы адкрываць спраможны
І з ім палаць ў агні яго трывог.

Яму не трэба ні раба, ні блазна,
Што дробнаю душой богабаязнай
Бяссмерця лёс выпрошвае сабе.

Ён пакідае тых на неўміручасць,
Хто за яго дарэшты сваю сутнасць,
Сваё жыццё кладзе у барацьбе.

* * *

Якая ты прыгожая! Ды кроку
З табою ў лес я не зраблю й тайком,
Дзе чорт даўно ўжо не навідавоку
Чакае нас са зваблівым пітвом.

Віном і перайнакшваннем хімерным
Мы будзем адурманены удвух.
Баюся, чорт мяне ў каня аберне,
Распаліць амазонкі ў цябе дух.

Баюся, што я заіржу ад шчасця,
Калі твая мяне кранецца плоць.
Баюся, рассядлаць сябе не ўдасца,
Не ўдасца сашмаргнуць з вачэй аброць.

Аднак у свеце дзіўнай кругаверці
Мая істота ўжо канём была…
О, кліч мяне на мох! Нібыта смерці,
Баюся й прагну я твайго сядла.

* * *

Ціха яблыкам даспелым
Ты упала ў ложа траў.
Маладое тваё цела
Я ад строяў вызваляў.

Паступова разняволіў
Я цябе з усіх тканін,
Разглядаючы паволі
Кучаравы, востры клін.

На яго я наструніўся,
Райскі я адчуў матыў.
Я ўзляцеў, я нарадзіўся,
Нібы з кокана матыль.

О, як дзякаваў паклонна
Богу я ў той дзень святы,
Што свяціла тваё лона,
Нібы яблык залаты!

* * *

Я адчуваю над тваім чалом
Празрыстае матэрыі прысутнасць.
Я знаю, той нябачны арэол
Паказвае, што ты — святла крыніца.

Ты — святланосіца, а я — зямля,
Запоўненая цемрай і насеннем.
Крані мяне! З мяне і прарасце
Пшанічны колас, што імкне да сонца.

Ты ў хлебператвараеш моц маю
Цяплом ласкавым і лагодай неба.
Ды гіну я, калі ўзгарыць твой гнеў
І спаліць кроў маіх пшанічных жылаў.

Ты гневаешся. Настае зіма.
Мяне ўкрывае снегам мая Маці
І для цябе мяне аберагае,
Бо ведае: ты прыйдзеш, як вясна.

*Барыс Алейнік*
*(нар. 1935)*

## Стаю на зямлі

Мама! Гэ-гэй, чуеш мяне
 праз марозы,
 прагнозы,
 заносы,
 пакосы
 і перакосы?
Чуеш?
Можа, ты спіш?
  Вунь якая гадзіна!..
    Каліна,
      яліна
        і Украіна —
спяць…
Ды не ўсе.
  У горадзе-месце
    вачэй не звесці:
      апошнія весткі
        пра ўсё на свеце
          радыё сыпле
густа.
Паслухай:
  планы,
    «на грані»,
      ракетапланы,
        навіны экрана
й талеркі, што лётаюць;
яшчэ пра:
  зоны,

цыклоны,
патронаў тоны,
забітых, палонных
у В’етнаме;
яшчэ пра:
хунту
і футра,
кітайскіх ультра,
(укралі фуру)
і пра дэвальвацыю;
яшчэ пра:
слёзы,
пагрозы,
электравозы,
сур’ёзны сімпозіум,
«Праблемы карозіі» —
гутарка акадэміка;
яшчэ пра;
акцыі,
нацыі,
эскалацыю,
дэзынфармацыю,
экранізацыю
класічных твораў;
яшчэ пра:
сена,
даенне,
спортдасягненні,
манеўры і змены
і дзве хвіліны —
прагноз надвор’я.
Поўнач. Але:
звоняць трамваі,

у тэатрах світае,
пары блукаюць,
сон уцякае
і я пішу табе.
Ты ўжо прабач,
што так спрытна,
як спрынтар,
пятляю між літар,
каб слоў хоць якіх тых —
парожніх, няхітрых —
узяць на палітру,
бо ўсё часу няма.
Век такі, мама:
хвацкі,
вар'яцкі,
страшэнны,
шасэйны,
атамы й гены
ловяць геніі, —
адным словам, дваццаты.
А яшчэ пра вершы.
Паслухай, як выйшла:
«Белыя вішні —
як белыя вершы».
Вось так мы пішам!
Здорава выйшла,
праўда ж?
Мама чытала,
Галавою хістала,
Нават пазяхала.
Узяла аловак
Дый напісала:
«Дзень добры, сыне. Я ж табе казала,

дзіцятка, каб добра ўхутваў шыю,
бо застудзішся. Вось і дагуляўся!
Мабыць, жар у цябе, бо палавіну
з тваёй пісаніны я не ўтаропіла.
А вішні, дальбог, сапраўды белыя.
Відаць, уродзяць — што малаком аблітыя.
Дык мо прыехаў бы? Га?»
Еду!
Вагоны,
перoны,
прагоны
і
перагоны.
Нарэшце Зачапілаўка.
Выйшаў на Бабенкавай.
І адразу:
— Сыночак!!! —
Маці…
Бабы…
(Дзяды паўміралі.)
Цёткі…
Дзядзькі…
Родзічы…
— Дзень добры, мама. Вось і я. —
(Глядзі ты: загаварыў нармальна!)
Стаю на сваёй зямлі.

### *Іван Драч*
### *(нар. 1936)*

## Балада пра вядро

Я — форма бляшаная. Мой жа змест — вішні,
Агнёва-барвовыя пыльныя кулі,
Што раніцай зоры пілі на узвышшы,
Сарваныя ж — покатам потым паснулі.

Я — форма бляшаная. Мой жа змест — грушы,
Саперніцы сонца, свяцільнікі саду,
З рэспублікі сокаў вандроўныя душы,
Якіх падабралі у ноч грушападу.

Я — зрэзаны конус. А змест мой да скону —
Усё незалежнае, што я змяшчаю:
Дыні, ці дулі, ці промень зялёны
Цыбулі, ці лісце пахучае чаю.

Я — форма бляшаная. Мой жа змест розны,
Не мне падуладны, а часу, патрэбам.
Калі ж я часамі бываю парожнім,
Тады я па вечка напоўнена небам.

## Эцюд — копія запіскі

Не спалохалася дажджу,
Падаткнула спаднічку новую
І чакала цябе з бярозкамі,
Хочаш — вер, а хочаш — не вер.

Запляла ў каснікі вясёлку,
А цябе не сварыла ні крышку,
Толькі кропельку, так, для прыліку,
Хочаш — вер, а хочаш — не вер.

Мама кажа, што я застудзілася,
І вось чай п'ю цяпер я з сонцам
І выглядваю ўсё у вакно,
Хочаш — вер, а хочаш — не вер.

Я дастала табе Рэмбо,
Тата ўчора прынёс кавуноў,
І ўжо сцежка да нас прасохла.
Хочаш — вер…
Ну хоць раз павер!..

## Вячэрняя акварэль

Сядзіць хлопчык на пагорку,
Пасе вечар на руні,
Зоркі пужкаю збівае, насвіствае.
А вечар пасецца, хвастом памахвае.
Ідзе маё золатка, прытанцоўвае,
Нясе мне поўныя, неразлітыя вусны,
Нясе мне поўныя, неразлітыя персі,
Нясе вішнёвае цела дзявочае
У келіху шоўкавым сіняй сукенкі.
Спяшаецца маё золатка
Наўздагон свайму сэрцу.
Гэй ты, хлопчык на пагорку,
А прыцёхкні ты пужкаю,
Каб не бавілася маё золатка!

## Праца і Дазвол

Адзін пакой — налева,
Другі пакой — направа,
Мой пакой — пасярэдзіне.
У адным пакоі Праца
Дзень і ноч выстуквае на машынцы.
У другім пакоі Дазвол —
Бесклапотны, цалуецца, выпівае,
Сварыцца, ажно вушы слановыя вянуць.
— Госці-суседзі, да мяне завітайце! —
На адно крэсла села Праца,
На другое ўсеўся Дазвол.
— А дзе ж мне, гаспадару, сесці? —
На адным крэсле я прысеў,
На другім — Дазвол рассеўся.
— Гаспадар, дзе ж Працы ў вас прымасціцца? —
На адным крэсле прыткнулася Праца,
Я надзейна прысеў на другім.
— Сусед, дзе ж Дазвол ты ў сябе пасадзіш?
— Слухайце, а што як прынесці трэцяе крэсла?
…Яны абое ўтаропіліся ў вакно.

## Крылы

*Навагодняя балада*

Праз лясок-невысок,
Цераз мора наўскос
Новы год для людзей падарункі нёс.
(Каму — шапку смушовую,
Каму — люльку грашовую,

Каму — мадэрныя кастэты,
Каму — фатонныя ракеты,
Каму — солі да бараболі,
Каму — тры снапы ветру ў полі,
Каму — пушок на рыла,
А дзядзьку Кірылу — крылы.)
Быў дзень як дзень, і раптам — непарадак:
Фуфайку з-пад лапатак што нажом прашыла.
Прабілі вату, заблішчэлі, радыя,
На сонцы закіпелі сінія крылы.
Галодныя небам, прыўсталі для лёту.
Лавілі з неба блакіту зіхценне.
А ў дзядзькі на сэрцы — слота.
А ў дзядзькі на сэрцы — цені.
(Каму — долю шчасную,
Каму — сонца яснае,
Каму — грудзі дзявочыя,
Каму — смерць сярод ночы,
А Кірылу — каб цябе маланка скрышыла! —
Даруй Госпадзі! — крылы.)
Жонка галасіла: «Людзі як людзі,
Кожнаму прыбытак нейкі будзе:
Каму — валёнкі,
Каму — цялячыя галёнкі,
Каму — нешта ў гасподу,
А гэтаму гаспіду —
Даруй Божа! — крылы!..»
Так Кірыла да розуму йшоў.
І, каб нейкую мець свабоду,
Сякеру знайшоў, на падворак пайшоў
І крылы злажыў на калоду.
Але сярод неспакойных сноў
Насміхаліся зоры з Кірылы.

І, прабіўшы кашулю, зноў
Запружынілі молада крылы.
Ды Кірыла з сякераю жыў,
На крылах нават разжыўся:
Крыламі хату абабіў,
Крыламі абгарадзіўся.
А тыя крылы раскралі паэты,
Каб іхні радок быў не бяскрылы.
На іх маліліся доўга эстэты,
І снілася неба пасечаным крылам.
(Каму — замок на вароты,
Каму — язык даўжэй рота,
Каму — кулеш са смакам,
Каму — кукіш з макам.
А Кірылу — каб цябе маланка скрышыла! —
Не пашанцуе ж так чалавеку! —
Крылы!..)

## Бог

*Жарт*

…І прыйшоў да яго Бог, і пагартаў яго кніжкі,
і спытаўся ў яго: «А калі ж ты, сыне,
жыцімеш? Хіба ў гэтым жыццё?»
— Я прамоўчу, мой Божа, — сказаў ён. —
Толькі паведай,
як Табе ўдалося запусціць
такі велізарны махавік — нашу планету,
дзясяткі і мільярды іншых? Як Ты жывеш
без планетарных крызісаў і страйкаў,
як у Цябе хапіла энергіі — бо ж спраўна
і бесперабойна працуюць усе зорныя механізмы,

і галоўнае, мой Божа, як Цябе не запамарочылі
людзі і анёлы культам Тваёй асобы?
Бог адказаў яму:
— Я заўсёды сумняваўся, сыне мой.

***Раман Лубкіўскі***
***(нар. 1941)***

## Карта Украіны

Знайшоў я старую карту
У антыкварным кіёску
На самым беразе Сены.
Добра відаць на ёй
Еўрапейскія краіны,
А маёй няма!

— Нічога, — кажа француз, —
Ёсць яшчэ карта свету.
Вось яна тут, месье,
Толькі дзе Украіна?

Доўга я разглядаў
Старажытны пергамент.
Ёсць усе кантыненты —
Украіны няма!

— Як жа так? —
Мне
Кіяскёр спачувае: —
Вось карта Сусвету,
Гэта, пэўна, што трэба!
Ды маўчаў той Сусвет
У сузор'ях галактык.
Толькі дзесьці на ўскрайку
Зорачка мігацела…

— О, вітаю, месье,
Вось яна, вось яна!

І хоць мой прапрадзед Баплан
Даўно адкрыў Украіну,
Ды дасюль яе
Адкрываць яшчэ трэба…

— О, так, так! — пацвердзіў паляк,
А затым — італьянец, немец,
Нават нейтральны чэх,
І швед, і амерыканец.
Японччык малы падбег,
Планету занёс у камп'ютар.
А іншых я й не пытаў,
Дзе яна, Украіна…

## Баль у оперы

*(амаль як у Юліяна Тувіма)*

Элегантныя мардавароты
Жлукцяць віскі, каўтаюць шпроты.
Па амурах шпокаюць коркамі,
Выдыгаюць халяўна апоркамі.
Як жа крута ім пад плафонамі,
Ўсе — з мабільнымі тэлефонамі.

Як цудоўна ўсё! Як жа класна!
«Мы — улада! Каму не ясна?
Мы — эліта! Каб нам — наліта!..
Вы, артыстыкі, вы, художнічкі,
Склаўшысь ножычкам, нам — у ножачкі!
Вы, пісьменнікі, вы, паэтыкі,
Жыць вам з нашае арыфметыкі!

Вам — ідэю? Падаць Тадэя!
Мы вам — нацыянальная ідэя!
Мы паклічам сюды гаранта —
Ён за Бацьку й Афіцыянта, —
Ён, панятна і бедуіну,
Пабудуе нам Украіну»…

Покуль дзесь шафёры трубілі,
Засвяціліся казачна вілы
(А найлепшая з лепшых віла —
У дэбільнейшага дэбіла!)
Доўга ў саунах млелі госці,
На распараным жа памосце
Рызыкоўна з лакейскай злосцю
Большым — меншыя парылі косці…
Сталі чыстыя ўсе, без плямы,
«Каралевы» з «каралямі».

Ды нават з грашамі,
Як былі — засталіся «нулямі».

## З нізкі «Сучасныя катрэны»

### Прыстасаванцам

Добра помню з даўняга й нядаўняга:
Вамі не адна душа расколата,
Людаловы з-пад сярпа і молата,
Душаловы з-пад стырна Дзяржаўнага!

### Здзіўленне

Здзіўляюся я з мар тваіх бязмежнасці,
Такіх патрыятычных і такіх здаровых!
Ты выдаіў усё ад Незалежнасці,
Прыватнае свяшчэннае каровы!

### Стан спраў

Хапіла б нам праблем экалагічных,
А тут — гурма турбот філалагічных:
У чыстых водах мовы не скупацца,
Атручаных «двухмоўнай» акупацыяй.

### Масонства

О колькі саноўных масонаў!
І кожнай — падай сальцісон!
Масоны. Масоны. Масоны.
Мой сон: я — найбольшы масон.

### P. S.

Дапісваю апошні свой катрэн
І думаю пры гэтым мімаволі:
Не будзе ён сумотны, нібы трэн:
Са строфаў птахі — ўжо даўно на волі…

## Сітуацыя

Міфічна-маленькія партыі гучныя ладзяць хартыі,
Універсалы і мемарандумы творачы пад святых…
Святыя — грашыць не баяцца, а грэшнікі —
мнагавартыя:
Шэлегам — не падкупіш, давай мільён за іх!
Якая ты цуд-краіна! Элітныя ўзводзяцца замкі,
Куды да іх панскім палацам, збудованым коштам
сваім!
Князі крыві пралетарскай, наменклатурныя клямкі
Уладкоўваюць сабе вечнасць. І хто перашкодзіць ім?!
Старыя заворваюць могілкі. Што ім народу калыска?
Скіфскіх бабаў гвалтуюць: прыватны стэп аслупеў!
Дарога — проста да рою — ад саўнаў іх зусім блізка,
А грэх замаліць захочуць — поп тут жа да іх
прыспеў!
Прыгожаць свае інтэр’еры — хто бараной,
хто стальніцай,
Хто бавіцца ў Наваросію, хто лепіць сабе П’емонт…
Замянілі хрушчоўскі шыфер новай металачарапіцай,
А павалены сталінскі мур не адолее еўрарамонт!

## Кіеўская тройца

Вінграноўскі, Дзюба і Драч
Гасцінны наведалі Львоў —
Сеялі зерне дабра,
Надзеі і непакоры.
Між тым хітрамудры Амур
Дыбаў за імі цішком.

Грымелі высокія словы
Радасна і заўзята,
Як маладыя грамы
Там, над Высокім Замкам.
Хмельнае славы віно
Не зашкодзіла хлопцам
Найлепшых
Львоўскіх дзяўчат
З сабою забраць у сталіцу.
Калі ачомаўся Львоў,
Адсправаздачыліся сексоты,
Жрацы ад ілжэалтароў
Адмахалі кадзіламі,
Кіеў іншы, чым быў,
Пераможцам юным адкрыўся,
Ён ажывіў Украіну,
Ледзь толькі вясельныя брычкі
Храшчатыкам загрукаталі.

## Ка́даўб

…Здаецца мне, што я жыла заўсёды.
*Леся Украінка. «Лясная песня»*

Пакланяймася лесу,
Пакланяймася ветру,
Пакланяймася хвалі,
Што лёд не скаваў,
І ўзіраймася сэрцам
У палескага неба вохру,
Дзеці,
Унукі

І праўнукі
Племені дзядзькі Льва.
Гэта зямля
Развінула сцягі лясоў,
Гэта зямля
Не скарылася сіле ка́та.
Кат хацеў
Задушыць яе смагі ласом,
А яна —
Лесю паіла з ка́даўба!
Кат хацеў
Замуціць сінізну азёр,
У багне ўтапіць
І мару, і сонца.
Ды ўзнялася дзяўчына,
Кранулася зрокам зор —
І стала Украіне
Рыцарам-абаронцам.
Над зямлёй узнялася
Страйней за бярозу,
Агонь у вачах
Запалымнеў святы,
І калола няпраўду
Словамі-лёзамі,
І дасветным агнём
Вырывала людзей з цемнаты.
І заводзіла песню,
Не змаўкала ні на хвілінку,
Навеяную ў дзяцінстве
Лесам і полем.
Уся —
Вачыма ўкраінка,
Сэрцам украінка,

Украінка нянавісцю,
Украінка болем.
А ўпала ў чужыне
Грудзямі збалелымі,
Зарыдалі азёры, кроны завялі
І бярозы крыламі,
Як буслікі белыя,
Біліся горка ў тузе пахавальнай.
Пакаленням наступным
На шчасце, на славу
Забіралі лясы яе слова прарочае,
А вятры узялі яе подых ласкавы,
А азёры глыбокія —
Блакітныя вочы.
Дык пакланяймася лесу,
Пакланяймася ветру,
Пакланяймася хвалі,
Што лёд не скаваў,
І ўзіраймася сэрцам
У палескага неба вохру,
Дзеці,
Унукі
І праўнукі
Племені дзядзькі Льва!

*Мікола Рабчук*
*(нар. 1953)*

## Ненапісаны ліст турэцкаму султану

Ах, султане, выбач гэтым рагатунам,
яны не ведаюць, што чыняць, яны
думаюць, што ўвесь свет — гэта суцэльная гулянка,
жыццё — забаўка, смерць — забаўка,
драбноцце, абыштоцце;
яны й не знаюць, што заўтра іх пасадзяць на пáлі
ў Бахчысараі,
а паслязаўтра ад іхняй Сечы не застанецца й следу
і іх беспрытульныя стагрэшныя душы засквірчаць
у пекле;
ты ўсё гэта ведаеш, султане, і пасміхаешся,
перачытваючы ліст, куплены ў стамбульскім
антыкварыяце,
ліст, які з кожным годам становіцца ўсё даражэйшым
і даражэйшым.

# З сербскай, харвацкай і баснійскай паэзіі

## *Дэсанка Максімавіч (1898–1993)*

### У буру

Увесь вечар на голым пагорку
Нехта стаіць.
Пусці мяне, мамачка, паглядзець:
Чалавек гэта ці дрэва?
Пусці мяне, маці, зірнуць:
Чаго гэта ён увесь вечар
На наш белы і сціплы падворак
Глядзіць?
Пусці мяне, хутка
Вярнуся назад:
Пагорак жа блізка ля дому.
Я ўбачу, ці будзе мне рады
Той чалавек ці дрэва,
Што цэлы вечар ля самага грому
Стаіць і глядзіць у наш бок!
Бачыш, як хмар караван,
Злавесны, вялікі, цяжкі,
Над ім праплывае
І смерць рассявае?
Не хочаш пусціць, то сама
Ідзі і хутчэй пакліч у наш дом
Таго чалавека ці дрэва,

Што ўвесь вечар стаіць і глядзіць
На наш белы і сціплы падворак.
На пагорку пустым ён застыў,
І, як хлапчук той, рукі свае
На збалелых грудзях скрыжаваў.
Пусці мяне, я бяду
Ад яго адвяду.
Такая глухая
Вялізная хмара
Навісла над ім!

## *Антуан Бранка Шыміч (1898–1925)*

### Паэты

Паэты —
Гэта здзіўленне свету.
Яны праходзяць па зямлі,
І іх вочы,
Вялікія і нямыя,
Перад рэчамі вырастаюць.
Вось яны навастрылі вушы,
Каб выслухаць,
Што іх акаляе і мучыць, —
Паэты —
Вечная непаседлівасць свету.

### Смерць і я

Смерць не пасля мяне.
Ад самага пачатку
Яна ўва мне.
Са мной штохвілі
Расце у пабрацімцах.
Вось аднойчы
Я застаюся,
А яна расце —
Ўва мне,
Пакуль не прарасце ўсяго
І раптам не кульне.

Маё сканчэнне —
Яе першапачатак.
Бо далей
Царуе ўжо адна.

***Весна Парун***
***(1922–2010)***

## Ты, чые рукі...

Ты, чые рукі больш нявінныя, чым мае,
Ты, мудрая, як бесклапотнасць,
Ты, што ўмееш чытаць на ягоным чале
Лепш за мяне яго самоту
І праганяеш павольныя цені
Няўпэўненасці з яго твару,
Як праганяе вясенні вецер
Цені воблакаў над узгоркам;

Калі твой абдымак адсмельвае сэрца,
А сцёгны твае боль супыняюць,
Калі таваё імя — пачатак
Думак ягоных, і шыя твая —
Прахалода ягонай пасцелі,
І ноч твайго голасу — сад,
Навальніцай яшчэ не крануты, —

Тады ля яго застанься.
Свяцейшаю стань за ўсіх тых,
Хто яго цалаваў да цябе.
Бойся рыданняў, што набліжаюць
Нявінныя ласкі любові.
Пяшчотай атульвай ягоны сон
Пад нябачнай гарою
На ўскрайку бурлівага мора.

Жалем прайміся яго. Не бойся
Асенніх дажджоў абложных.
Блукай па лесе ягоным. Яшчаркі

Зла ніколі табе не ўчыняць.
Нават гадзюкі, якіх прыручыла я,
Сцішацца перад табою.

Хай спяваюць табе тыя птушкі, якіх я
Сагрэла ў марозныя ночы.
Хай цешыць хлапчына, якога
Я ад грабежніка ўратавала.
Хай кветкі запахнуць, што я палівала
Сваімі слязьмі.

Я не прычакала найлепшай пары
Ягонай мужчынскасці. Плод ягоны
Не прыняла ў сваё лона,
Якое спапялялі позіркі
Розных рыначных гандляроў
І сквапных рабаўнікоў.

Я ніколі не буду вадзіць за рукі
Ягоных дзяцей. І ўсе казкі,
Што для іх даўно нарыхтавала,
Стану расказваць, плачучы,
Няшчасным медзведзянятам,
Пакінутым у глухім лесе.

Ты, чые рукі больш нявінныя, чым мае,
Атульвай пяшчотай ягоны сон,
Які застаўся безабаронным.
Толькі прашу: дазволь хоць зрэдку
Бачыць ягоны твар, пакуль на ім будуць
Асядаць незнаёмыя годы.

І часамі расказвай мне пра яго,
Каб не стала распытваць я ў стрэчных,

Чужых мне, людзей, у суседзяў,
Якія цярпенне маё шануюць.

Ты, чые рукі больш нявінныя, чым мае,
Застанься ў яго ў галавах,
Пяшчотай атульвай ягоны сон!

*Ёсып Пупачыч*
*(1928–1971)*

## Трое маіх братоў

Калі я быў
Трыма маімі братамі
І сабой,
Калі я быў,
Чатырма намі,
Быў у мяне голас, што вецер,
Рукі, як скалы,
Сэрца, бытта ачаг.
Азёры мяне малявалі,
Таполі мяне ўзнімалі,
Рака ўмывалася мной.
Хвалі навыперадкі лавілі
Мой воблік.
Калі я быў
Трыма маімі братамі
І сабой,
Калі я быў
Чатырма намі,
Сенажаці мяне мілавалі,
Бавіліся маім голасам,
Шпурлялі яго праз патокі.
Я радаваўся
Сам за сябе.
Меў трох братоў
(Хадзіў па зямлі горда).

Гэта былі
Мае тры браты:
Мой брат,
Мой брат
І мой брат.

## *Ізет Сарайліч*
## *(нар. 1930)*

### Сярэдняя генерацыя

Сярэдняя Азія.
Сярэдні род.
Сярэдняе гора.
У сярэднім
Дзесяць тысяч дзён да старасці.

Мы пісалі:
Сярэдняя генерацыя загінула ў вайну.
Цяпер самі —
Сярэдняя генерацыя.
Сярэдняя генерацыя,
Як Сярэдняя Азія,
Як Сяродземнамор’е.

Учора —
гімназія.
Учора —
нашы шумныя вечарынкі.
Учора —
ўсеагульная маладосць зямлі.
Учора —
тры гадзіны пасля вайны.
Учора —
світанне без фарбавання.
Учора —
чаканне таго світання.

Гэта апошняе,
Што магу я сабе дазволіць:

Да канца жыцця,
Да краю кахання
Застацца
Сярэдняй генерацыяй.

## Немцы ля Ленінграда ў чэрвені 1943 года

І яны абавязкова ўсё гэта зрабілі б:
Спалілі б Эрмітаж і Ісакіеўскі сабор,
На Адміралцейскі шпіль
Пачапілі б свой крыж крукаваты,
У гатэлі, дзе паэт напісаў «До свидания»,
Адчынілі б салдацкі бардэль,
Адвялі б у сваю стайню
Яго жывых і бронзавых дрыкгантаў,
Пазабівалі б Гамлетаў
Усіх яго шаснаццаці тэатраў,
Тых, хто пеў «Катюшу»,
Кулямётамі прымушалі б пець «Лілі Марлен»…

Яны абавязкова ўсё гэта зрабілі б.
Ці не бачыце:
У маёй песні валасы ўстаюць дыбам?

Яны абавязкова ўсё гэта зрабілі б!

# Са славацкай паэзіі

***Петэр Штыліха***
***(нар. 1947)***

## Адзіны сябар

Адзіны мой сябар — тваё каханне.
Ружа, што дыхае ў цябе пад персямі, —
З сябрыны тых ружаў,
Што асляпляюць надоўга.

Яна мяне ўразіла,
Як нязнанае месца,
Дзе вырастала і здзіўляла
Чыстым дотыкам.

Калі ж прыбудзе мой катафалк,
Я буду абсыпаны ружамі, якімі
Я дыхаў,
Пад якімі марыў,
Пад якімі стагоддзямі ловяць рыбакі
Свае шкляныя вуды.

Калі ж прыбудзе мой катафалк —
І ў змроку знайду тыя персі,
У якіх я дажыў і дадыхаў.

## *Рудальф Чыжмарык*
## *(1949–2008)*

### Жыццё вады

Дарослы чалавек
Спасцігне любую замежную мову,
Ці хаця б некалькі найпашыраных слоў і фраз.
Дарослы чалавек
Забывае, аднак, простую дзіцячую мову,
Нягледзячы на тое,
Што яна яму — свая ад нараджэння.

Ён часта не разумее жэсты яе,
Словы,
Што дзеці, хадзіць прывучаючы,
Туды-сюды тузаюць
І цвёрда ставяць на ножкі.

Дарослы чалавек
Не хоча мець аніводнай дзіцячай думкі,
Пазбягае яе,
Быццам ганьбы.
Але толькі датуль,
Пакуль яна
Не прыкуе яго позіркам,
Не паказыча словам,
Не адолее жэстам.

Потым ён спасцігне не толькі дзіця,
Але і сябе самога.

Тата, ты любіш мяне?
Так.

І мама?
Так.
І дзедзя?
Так.
І бабка?
Так.
А хто ж тады мяне не любіць?
Толькі той, у каго не пытаўся.

Дык я буду яшчэ пытацца, добра?

***Любамір Фелдэк***
***(нар. 1936)***

## Паэт, які служыць

Паэт, які служыць, праседжвае ў журы,
На сходах, курсах, выбарах,
Дзе ўсюды імкнецца ўхапіць прызнанне, славу,
Тытулы, высокія тыражы, паўторныя выданні,
Удзел у загранкамандзіроўках,
У экспартных анталогіях,
Такі паэт
(Божа, ці часам гэта не я?)
Таксама аднойчы прычакае,
Калі пад ягоным сэрцам
Тарганецца верш.

Паэт, які служыць,
Нагадвае рыбака,
У якога клюнула рыба,
А ён зматвае вудачкі
І бяжыць на новае паседжанне
З думкай-надзеяй:
Заўтра
Яе падчаплю.

## Ужо і яшчэ

Ужо надышла раніца, яшчэ не адышоў вечар.
Ужо я адзеўся, яшчэ не памыўся.
Ужо я пішу гэты верш, ты яшчэ спіш.

Ужо муж.
Яшчэ жонка.

Ужо сядзіць і піша верш.
Яшчэ спіць.

Але Яшчэ была на нагах, калі Ужо спаў,
Карміла грудзямі немаўля.

Часамі Яшчэ не хоча ўставаць ноччу,
І тады яна ўдае, што спіць.

Немаўля плача. Ужо прачынаецца,
Але і ён удае, што спіць, спіць…

Немаўля плача, і абое ўдаюць, што спяць,
Ажно пакуль адзін не здаецца.

Аднойчы ўстае Ужо.
Тройчы ўстае Яшчэ.

Яшчэ ўжо жонка.
Ужо яшчэ муж.

Ужо зноў ты спіш, а я яшчэ пішу гэты верш.
Ужо памыўся, яшчэ не адзеўся.
Ужо надышла старасць.
Яшчэ не адыходзь, маладосць!

***Юла Збораўян***
***(1921–1974)***

## **На матыў збойніцкай балады**

*Героям*

Любы, даражэнькі,
Грудзі лёд асіліў,
Дай агню на хвілю…

Хай сагрэе сэрца —
Полымя ў ім б’ецца.

Збойніка злавілі.

Першы дзень к абеду
Вадой смагавалі.
А другі дзень з ночы
Шчэ галадавалі.

А на трэці з рана
Вешалі надзеі
За турэмнай брамай…

Пасля пахавання —
Роспачы літанне:
«Не змяніў нічога ж…»

Не змяніў нічога?!
Сынку даражэнькі,
Нас навек разлучаць?..

*Мікулаш Касандра*
*(нар. 1925)*

## Нарэшце ўжо...

Нарэшце, нарэшце, нарэшце ўжо жнівень
Камбайн падбірае з зямлі каласы

Прыбітыя бурай на стоптанай ніве
І кожны той ніве не пасынак — сын

Каторы быў смелы і хто баязлівы
Усіх прывітаюць цапы як сваіх
А там іх сваяк — зернятрус хапатлівы
Палову ад зерня адвее уміг

### *Густаў Гупка*
### *(нар. 1939)*

## Надзённае

Абыходжу дамы і хаты…
Добра жывецца на нашай Радзіме,
Аж занадта добра…
Ды хтосьці на вуха шэпча:
«Толькі каму, каму?..»
Радзіма — гэта магніт любові,
Гэта цэлы сусвет у душы,
Гэта ўзаемнае прыцягненне
Чалавека і роднага кута,
Гэта музыка шчырых пачуццяў…
Радзіма — гэта дзівоснае дрэва,
Што галініцца з нашай энергіі.
Радзіма — гэта мы,
Сэрцы, якія ў нас б'юцца,
І — якія надарваліся,
Носячы ў змроку фашызму
Цяжар адвагі і страху…
Радзіма — гэта рэвалюцыйныя ідэалы
І рабочыя крокі гісторыі,
Гэта забастоўкі і маніфестацыі.
Радзіма — гэта нашы надзеі,
Нашы намеры і нашы планы,
Якія ў нас і якія перад намі…
Але на Радзіме — і ворагі нашы,
Што дыхаюць тым жа паветрам
І ходзяць упобачкі з намі.
Бюракратычнымі кіпцямі
Яны разграбаюць памылачкі,

А буйныя хібы не заўважаюць;
Яны дудняць
Пра таталітарызм і дэмакратыю
І адначасова з дрэва
Латошаць разам з пладамі
І лісце
І разам з галінамі хочуць
Зламаць і нашу моц…
Яны яшчэ ў генах
Прынеслі нянавісць да нас,
Цяпер жа з прытворствам
Хваляць і недахопы,
І пра перавагі ладу
Пяюць свае оды й тады,
Калі ўсім ужо бачны памылкі,
Што шлях наш тармозяць…
Але лад служыць і ім,
Гэтым псотнікам ладу.
Ды псота іх не відна адразу.
Кожны з іх быццам блошка:
Тут кусне, там засвярбіць трошку.
А мы церпім заразу
І на хібы шукаем лекі ўпарта…
Відаць, у запале змагання
Мы забыліся пра гэтага ворага,
Які, нібы жук-тачыльшчык,
Утачыўся пад кару жыцця
І пранік да самае сарцавіны.
То нас ён падчас
Некуды шалёна гоніць,
То раптам крадзе дарагі час,
То іншых заражае зайздрасцю
Да нас,

То прышчапляе нам грашаманію,
То абразае крылы творчай фантазіі —
Перацінае дых дзяржаве
(Ён, што правей правага
І лявей левага…).
То ён, каб угнявіць рабочых,
Жыве ў мяшчанскай раскошы
І даказвае, што так і трэба,
То нешта выдумляе і прымушае
Паверыць у выдумкі,
То ён наўмысна завышае
Цэны на тавары,
Каб сеяць незадавальненне,
То прычыны не выкрывае,
А толькі на вынікі ўвагу звяртае
І ўносіць хаос у жыццё,
То плюе праўдзе ў вочы,
То замяняе мастацтва рамяством,
То прыкідваецца богападобным
І зваблівае фантасмагорыяй,
То грабе пад сябе, купляе
І грошай не лічыць,
То — у вобразе гадзюкі —
Грэецца на грудзях дзяржавы…
Такі ён цяпер.
А які будзе потым?
Дык давайце выкараняць
Гэты ўсюдыісны чартапалох,
Не даваць яму рассявацца,
Будзьма ж пільнымі,
Не пабаімся праўды,
Нават і жорсткай,
Станем думаць пра будучыню,

Будзем збіраць плады,
Моцна трымацца
На роднай зямлі,
І не дамо жыцця ворагам!
Давайце ж любіць
Сваю краіну
І зорка яе пільнаваць,
Каб нашай Бацькаўшчыне
Ніхто не перашкодзіў,
Ніхто не падсек карані дрэву,
Каб у нас справядліва жылося,
Каб шчасце свяцілася
У кожным акне
Кожнага дома,
Кожнае хаты!

# З літоўскай паэзіі

## *Марцэліюс Марцінайціс (нар. 1936)*

### Балада пра пяцярых палонных

Памерці патрэбна было аднаму.
Хвіліна сышла не скора.
Кат рэвальверам пацацкаўся: «Ану!
Каторы?..»
Маўчалі пяцёра.

Быў ранак.
Ён пах сырадоем і кмінам.
Ля выкапанай магілы сядзеў у задуме салдат.
Стары селянін, ён бачыў,
Як коні прайшлі канюшынай,
І ведаў, калі ён памрэ,
То ніколі не прыйдуць назад.

Другому раптам пачулася:
Бразгае маці фаеркай,
Убачыў, як кожная жылка ў яе
На босых нагах адсвечвае.
І так яму захацелася
Вярнуцца ў старое, закуранае люстэрка,
Дзе пахне мышамі і старасвеччынай!

Знаў трэці —
Калі памірае салдат, паміраюць

Дрэвы, жанчыны, воблакі і трава.
Дзіцячыя ручкі ўміраюць,
Зоркі дагараюць.
Памерці —
Паціху травой узысці
І так увесь век трываць.

Чацвёртага, баязліўца,
Уява гняла неадчэпна:
Ён бачыў, як тут, на пустэчы,
Дзе не будзе ні помніка, ні магілы,
Плуг сялянскі праз многа гадоў падчэпіць
Чэрап пусты прагнілы.

Пяты ўстаў — наймалодшы.
Між чатырма свае рэчы —
Боты, тытунь, шынялёк — раздзяліў.
Здымак на памяць аддаў.
Са здымка дзяўчына ўсміхалася —
Цяпер зусім недарэчы —
Любаму, што сягоння гэты свет пакідаў.

Чацвёра не вытрывалі, падняліся,
Чакалі хмура, панура,
Калі ён апусціцца ў ноч,
Дзе ні сырадою,
Ні кміну —
Ні радасці і ні гора.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
А пасля ўсяго
Паволі
Рэвальвер свой, яшчэ гарачы,
Кат зашпіліў у кабуры.
І назад ужо не вярнуліся

Коні на канюшыне.
Маўчалі пяцёра.

## Ля дальняга лесу...

Ля дальняга лесу
Ёсць недзе старая хаціна,
У моры штодзённых турбот —
Нібы адзінокая крыга,
Мой дом адпачынку
У водары траў і язміну,
Дзе чыстае неба такое,
Як музыка Грыга.

Там проста усё.
Плот у лішайніку.
Лісце на плоце тым петрае.
Босым хаджу там.
Купаюся радасна ў ставе.
А вочы людскія блакітныя,
Быццам паветра.
Ціха.
Здаецца, што ціша імхом абрастае.

Няма там газет.
Там пасуцца бязгучныя статкі.
Там моўчкі працуюць.
Без стогну раджаюць там маці.
Адзіныя гукі —
У садзе стукочуць ападкі.
І сенам прывялым там пахнуць
Ўсю ноч сенажаці.

Ўладараць дубы там.
Стаяць у задуме, што ў скрусе.
Там вёсны і восені
Рэй свой вядуць гэтак чынна.
А ў той цішыні —
Побач з яблыкам нож на абрусе.
На ганку вада ўсё дрыжыць
У вядры несупынна.

Няўжо пачалося?.. Няўжо?..
І каго ў тым зацішку
Ты дазавешся?
Імшарная ціша, самотнасць ялін…
Слухаю, як на паліцы
Пазвоньваюць лыжкі,
Быццам на свеце на ўсім
Я застаўся адзін…

* * *

Нібыта ля хат стройных ліп,
Сыноў мацяркам нестае.
Сініх азёраў — зямлі.
Сініх паглядаў — вясне.

Звонкіх вяснянак — палям.
Ног маладых — бальшакам.
На помніках — столькі імён! —
І кожнае раніць, як стогн.

Болей сынам не ўміраць,
Не сеяць, не жаць, не араць —

Ходзяць над імі вятры,
Хіляць траву на двары.

А там, дзе бацькоўскі парог,
Далёка ад страшных дарог
Маці люляюць у сне
Дзяцей, што зляглі на вайне.

# З грузінскай паэзіі

*Шата Нішніанідзэ*
*(1929–1999)*

## Хлопчыкі Гаўрош, Паата*, Алег і іншыя

Каб чалавецтва не састарэла,
Не забурэла,
Не стала горшым, —
Уроплеч з бацькамі становяцца смела
Алегі,
Пааты,
Гаўрошы.
Хлопчыкі!
Божа, зусім яшчэ дзеці!
(Як сведчаць паданні куцыя.)
— Вы, дзеці, з агнём — не смейце!..
Ні з гісторыяй!..
Ні з рэвалюцыяй!..
Ідзіце, дзеці, дамоў бяжыце,
Чытайце кнігі, карагод вадзіце…
Яны ж
На іншае
Скорыя:
Выносяць прысуд гісторыі!

---

* Паáта — сын грузінскага палкаводца Георгія Саакадзэ, заложнік у Шах-Абаса, які і сцяў хлопчыку галаву.

Дай, лёс, праявіць мне гуманнасць паэта:
Ва ўяве, што свет абдымае,
Я
Легендарным хлопчыкам гэтым
Дарогу
Ў смерць
Супыняю.

Парыжскія барыкады
Дымам гарматным спавіты.
Хтосьці весела, быццам рады,
Пераскоквае цераз забітых.
Хутчэй на падмогу! Бо смерць не міне
Хлопчыка-абадранца.
— Я Гаўрош! —
Адштурхнуў ён мяне. —
Я мушу памерці
За Францыю!
. . . . . . . . . . .

За коннікам юным, якога
У Персіі смерць чакае,
Ад матчынага парога
Імчуся я —
Даганяю.
Мая рука ўжо ў яго на спіне.
Рэальнасць гэта?
Ілюзія?..
— Я Паата…
Не выручай мяне.
Я мушу памерці
За Грузію!..
. . . . . . . . . .

Зіма сорак трэцяга…
Снегам сінім
Усё замяло, горад спіць пад завеяй.
Не спіць толькі хлопчык,
Як і Расія,
Якая глядзіць на яго з надзеяй.
— Гэй! Прыпыніся! Не трэба паспешліва!..
Здрада хаваецца
Й звычнымі лазамі…
— Я Алег… —
Сказаў ён усмешліва.
І гэтай усмешкай
Усё было сказана.
. . . . . . . . . . . . . . .

Хтосьці з разбегу скочыў праз тын
І дзот асляпіў — не пускаў ён да горада…
Глянь:
Вечнабронзавы
Ў Тыянеці* застыў
Наш хлопчык,
Сівы і горды.
. . . . . . . . . . .

Не, нашы хлопчыкі не паміраюць!..
Хоць іх забіваюць,
Хоць іх караюць.
Усе надзеі пекла і раю
Яны на дзіцячых плячах трымаюць.
Сумленне іх рана,
Кожнага,
Стрэла,

---

* Тыянеці — горад у Грузіі, радзіма паэта Мірзо Гелавані, які загінуў, вызваляючы Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Ніхто небяспеку з іх
Не абыходзіў.
. . . . . . . . . . . .

Каб чалавецтва не састарэла,
Гэй! —
Хто там з будучыні
На падыходзе?

## Маскі

Каб нейчая зайздрасць мяне не ўракла,
Душу маю
Каб не абмацвалі, —
Як тая скала, што хаваецца ў плюшч,
Я
Закрываюся
Маскамі.

Каб чэрствасць людскую распазнаць
Пад хітрыкамі скупога,
Пад маскаю крыюся бедняка,
Не грэбую маскай сляпога.

Я часам магу бессаромнасць сыграць,
Зазнайства
Або геройства.
Каб лепей сапраўдную ўведаць цану
Ісціннага сяброўства, —

То баязлівец я,
То прастак,
То невук,

Які пра ступені мроіць.
Мне добра відно праз забрала маё.
Хто рыцар,
А хто з сябе рыцара строіць.

Мо нехта падумае:
Злыдзень які!
А я ў гэты час зберагаю
Ва ўласнай душы
Дзіця дабрыні,
Што апякунства благае.

Я і з табою сваруся не раз,
Каб выцяць душу сваю болем,
Каб вернасці
І кахання смак
Спазнаць яшчэ болей…

Той, хто людзям ролі раздае,
Для абранцаў падбірае маскі, —
Той вартуе вартасці мае.
Апякун, ён знае абавязкі…

Мне б тых клятых масак век не знаць!
Надаелі мне яны што верад!
Ды без іх
Як
Твар уратаваць,
Жыць, пісаць і рухацца наперад?

Перад сконам я жыццю вярну
Ўсе пазыкі на дарогах бойкіх
І на маскі
Знятыя
Зірну,

Як на шлемы,
Што бывалі ў бойках.

## Ода крэпасцям-храмам

**1**

Што параўнаецца з імі?
Уплаўлены-ўліты
Крэпасці-храмы
у неба маё,
як малітвы.

Грузія песціцца ў сонцы на тыгравай шкуры.
Сочыць ваколле Эльбрус праз свае амбразуры.

Ён усявышняму мольбы шле, рукі ўзносіць:
Доўгага веку для Грузіі роднае просіць.

Голас цячэ аксамітны.
Світальнай парою
Свецяцца ціха магілы святых і герояў.

**2**

Кожная крэпасць характар свой мае і воблік:
Вокрык — адна,
а другая плыве, нібы воблак.

Гэта — кулак і пагроза,
а тая што выстрал,
Кожны зубец яе ў бітвах змагаўся і выстаяў.

Гэта — як песня, што гонарам стала і лёсам.
Там — паглядзі! — быццам ва́гі зямлі і нябёсаў.

Годы, вякі павялі на муры наступленне
Мохам, грачынымі гнёздамі і запусценнем.

Льецца на камні металам расплаўленым сонца.
О, колькі вы, грабяні гэтых вежаў бяссонных,

Хмар прачасалі, варожых сцягоў растрапалі,
Што, нібы хмары, над краем маім праплывалі!

Грузія — крэпасць!
                                        Ў яе — тая самая доля:
Хто яе толькі ні браў, ды ніхто не адолеў!

**3**

Слава навекі вам, латнікі — пімены-старцы!
Нацыю вы захавалі, і мову, і царства.

Ноч… фаліянты… пергаменты… Вашыя словы
Ранкам лазой вінаграднай прачнуцца гатовы.

І адступае ад сэрцаў і цемра і холад,
І наліваешся сілай, мой край, нібы волат.

Маці святыя, што сховы знайшлі на іконах,
Лёс ваш няхай не спасцігне на свеце нікога!

Долю малю, каб імёны заўжды зіхацелі
Тых, хто узвёў Нікарцмінда і Свеціцхавелі*!

* Нікарцмінда і Свеціцхавелі — грузінскія храмы, выдатныя помнікі старажытнай архітэктуры.

Будзь блаславёны, хто думкай скалу сек для Вардзіі*!
Скалы усталі вакол тваёй славы на варце.

Верным рабом я аратага тога быць варты,
Хто ўпершыню склаў пра хлопца і тыгра баладу.

Жыць таму вечна, хто сее, малюе, будуе!
Хто з вас калі й саграшыў — няхай Бог вам даруе!

**4**

О туманы па-над крэпасцю, — думкі мае вы!
Вільгаць на сценах — ад слёз маіх частых залевы.

О непадкупны, маланкай пакрышаны камень,
Ты — мая плоць, што ірвалі, драбілі вякамі!

Вежы-апоры, о, хто ад вас толькі ні драпаў!
О, як баліць ўва мне ваша й найменшая з драпін!

Крэпасці-храмы, вы — талент мой, гонар, сумленне,
Вузел, што вяжа з мінулым маё пакаленне.

Мне праваліцца б, як здраджу я вам калі-небудзь!
Грузіі панцыр вы, шчыт ад зямлі і да неба.

Гэй! Ваш пясняр, я пяю вас, абраннiц свабоды!
Край мой па фрэсцы й лазе пазнавалі заўсёды.

Крэпасці Грузіі, вас, як саму чалавечнасць,
З сонечным кап'яносцам
ахоўвае вечнасць!..

---

* Ва́рдзія — высечаны ў скале старажытны пячорны горад (IX ст.).

## Хеўсур

*Памяці трохсот арагвінцаў,*
*якія загінулі ў бітве з персамі*

### 1

Неяк летам на Арагві ля карчмы вясковай
Грукаў бубен, вытанцоўваў мядзведзь адмыслова.

Сонца бубен залаціўся над суседняй вежай,
І тапталася спякота зусім па-мядзведжы.

Тут хеўсуры балявалі… Тлустыя хінкалі —
А вялікія, што вымя, — у ратах знікалі.

Твары воінаў у шрамах палымнелі макам.
Жнівень спелы проста ў глоткі залівалі махам.

Раптам выскачыў з-за рэчкі велікан-вярзіла.
Увапрэла пад асілкам рыжая кабыла.

Нібы вол той, коннік мажны — і вагой, і ростам.
А кабыла — каб ты спрахла! — спудзілася моста.

Велікан з каня саскочыў, што дрыжэў ад страху,
І, пад чэрава ўхапіўшы, запіхнуў пад паху.

Перадыбаў мост драўляны. І хеўсуры хорам
Яму «Ваша!»* закрычалі — задрыжэлі горы.

Да стала — ніжэй каленяў — ён прысеў ахвоча.
Зашыпелі ў поўнай чашы валовіны вочы!

---

* Ва́ша! — ура (*груз.*).

Стол умомант апрастаў ён ад усіх прыпасаў
І мядзведзя напалохаў грамавержным басам.

…Твары воінаў у шрамах палымнелі макам.
Жнівень спелы проста ў глоткі залівалі махам.

Кожны з іх размахваў вершам, нібыта кінжалам.
Тут і пропаведзь і споведзь з вуснаў іх злятала.

Сонца бубен залаціўся над суседняй вежай,
І тапталася спякота зусім па-мядзведжы.

Даў віна хеўсур кабыле, ухапіў вуздэчку
Ды прышпорыў, ды праскочыў… ўброд Арагві-рэчку.

**2**

Як, бывала, наплывала чужакоў навала,
Вінаграднікі згрызала, Куру выпівала, —

Тут жа з гор валы збягалі (вораг быў не рады)
І — з рагамі на арэны Крцанісі, Марабды*.

З гор збягалі, каб прышэльцаў кроў папіць мячамі,
І… ў далінах застывалі горкімі крыжамі.

З гор зляталі хлопцы-зухі, быццам вецер весні,
А вярталіся у горы — казкаю і песняй.

Падавілася нарэшце смерць у краі горным,
Бо навекі шчыт хеўсурскі ёй засеў у горле.

Замкаў, крэпасцяў грузінскіх не скрышылі буры,
Бо ў іх сценах заімшэлых — косці, кроў хеўсура.

---

* Крцанісі, Марабда — гістарычныя месцы баявой славы Грузіі.

Перад смерцю не пасмелі стаць мы на калені,
Бо яго заўсёды з намі гонар і сумленне.

Шабляй шлях тарыў Айчыне ён, магутны, горды.
Ад яго прыпевак — іскры, што ад гордай горды*.

Бачу: ў вобліку хеўсура з будучыні светлай
Родны край грузінскі крочыць волатна і смела!

---

* Горда — шабля з асаблівай, «франкскай» сталі, якой славілася Хеўсурэція.

# З казахскай паэзіі

*Сагінгалі Сяітаў*
*(1917–2007)*

## Мая анкета

Жыццё сваё ў анкету я пішу.
Гады, імёны, даты варушу.
Адкрыю вам шматлікія падзеі,
Ды як адкрыць мне вам сваю душу?
У той анкеце маці, жонка, сын,
Прафесія і праца — жумысым.
Але скажыце, як занатаваць мне
Надзеі і тугу маіх сівін?
І там, дзе шлях жыццёвы — нібы дым,
Дзе лічбамі, бы ў арміі, стаім,
Скажыце, ці магчыма на паперы
Змясціць мае жаданні — арманым?
Анкеты… Божа, як жа многа іх!
На здымках бесклапотна я прыціх.
Ды жарсць маёй душы шукайце, людзі,
Ў залатаносных жылах строф маіх!

## Брэст

Гэты горад я ў сэрцы сваім берагу,
Я дагэтуль забыць пра яго не магу.
Помню, як баранілі мы родныя сцены,
Як па ворагу цэліўся я з трыснягу.

Грукаталі грамы, выў шалёна метал.
Помню добра фашыста звярыны аскал,
Помню прысак, што клікаў да помсты, і помню,
Як стаялі насмерць мы за кожны квартал.

Я астыць ад агню, супакоіць свой гнеў
Не магу і дасюль ні наяве, ні ў сне.
І ляцяць з тых пажараў пякучыя іскры,
Паляць сэрца і ярасць зноў будзяць ўва мне.

## Канстанцін Заслонаў

Мой любы сабрат, беларускі Каўпак,
Не веру, — жыццё не спыняецца так:
Сцяною разбуранай, зрэзаным дрэвам,
Патушаным воклічам даўніх атак.

Душа не згаджаецца з чорнай каймой.
Заслонаў, ты зноў узнімаешся ў бой!
Прарваўшы блакаду жалобнае рамкі,
На Оршу і Гомель вядзеш за сабой.
Усюды — сябры. Дык вядзі ж, камандзір!
Пра подзвіг твой песні гайдаюць эфір,
І нават у сне нашы ворагі помняць,
Як біўся Заслонаў, народны батыр.
У скверыку тым, дзе спакой, цішыня,

Ты свет азіраеш з граніту штодня.
І хоць ты застыў з неўзарванай гранатай —
Асколкі ад выбуху й сёння звіняць…

## Узгорак

Ты не значыўся ў зводках ніколі.
Не сяло і не горад ты,
А ўсяго толькі ўзгорак у полі,
Дзе раслі трава і кусты.
Не заўважыш цябе на карце,
І не мог пра цябе я знаць.
Ні адзін журналіст не страціў
І хвіліны — цябе апісаць.
Толькі ты даражэй мне стакратна
Многіх вёсак, што з ходу ўзялі.
Кроў мая і сяброў маіх ратных —
У тваёй,
У свяшчэннай зямлі.

## Маё імя

Не моўк тры дні артылерыйскі хор.
К зямлі агнём прыпаяна пяхота.
Нарэшце уляцела, як віхор,
У беларускі горад наша рота.
Мы з боем здабывалі кожны дом,
Гула наўкол атака штыкавая.
І тут з руін, знявечаных суздром,
Да нас дзяўчына выбегла сівая.
Ад радасці заплакала наўзрыд

І раптам чайкай мне на грудзі ўпала.
О, колькі болю і пякучых крыўд
У выцвілых вачах яе палала!
Свіціўся кос яе бялявы шоўк,
Іскрылася на твары слёз шрапнеля.
— О родны мой!
Нарэшце ты прыйшоў! —
Шаптала мне, прыпаўшы да шынеля.
Скрозь грукат бою, перасыкі куль
Яна казала, тулячы салдата:
— Хоць я не знаю, хто ты і адкуль,
Ты брат мне сёння, й застанешся братам!
Калі зямля ў пажарах і крыві,
Становяцца мацней братэрства ніці.
Прашу: імя сваё мне назаві,
Мой браце,
Мой заступнік,
Мой збавіцель! —
Вайна дарэшты надаела мне,
Салдацкі лёс дашчэнту перамучыў,
Ды глянуў на дзяўчыну ў сівізне —
Вінтоўку сціснуў і сказаў рашуча:
— Фашысцкі звер спаліў твой родны дом.
За кроў і слёзы нашага народа
Мы звера ў берлагу яго даб’ём!
А як завуць?
Мяне завуць… Свабода!

* * *

Там, дзе, здавалася б, смерць не міне —
Смерці кажу: «Пастой!..»
Дзесьці пад Мінскам дагнаў мяне
Канверцік трохкутны твой.
Колькі трывогі за долю маю
У кожным радку пісьма!..
Смерць сцеражэ салдата ў баю,
Ты разумееш сама.
Фронт і вайна — не святочны той.
А я не змяніўся, не!
Я ім застаўся — самім сабой —
Нават тут, на вайне.
Праўда, дзе ўсмешка была,
На твар
Лютасць лягла таўром.
Ды не счарсцвела душа, як сухар,
І пад пякельным агнём.
Толькі пабачу трохкутны канверт —
І на душы кветабой.
Любая! Я адгароджан ад бед
Каханнем тваім.
Табой.

## Мінск

Дарога з Мінска на Маскву.
І шлях прамы, не коўзкі.
Але не хутка наяву
Я ўбачу край бацькоўскі.
Сасна махае мне здаля,

Бягуць прысады цугам —
Так беларуская зямля
Развітваецца з другам.
Я думкаю — дзе гэта шыр.
Тут пáлі ў бітве смела
І Ескаліеў — наш батыр,
І беларус Гастэла.
З казахскім іменем Джакып —
У сэрцы верш Якуба.
Ягонай мовы кожны зык,
Як і маёй,
Мне любы.
Краіна вольная пяе.
Напевы ў даль марскую
Адносіць Свіслач.
Пра яе,
Яе салдат,
Сумую.
О Мінск!
Я ў мужнасці тваёй —
І памяццю, і верай.
Ты ў біяграфіі маёй —
Радок, вайной завераны.
Каб красаваў сягоння ты,
Ішоў у бой крывавы я.
Відаць мне нат з Алма-Аты
Тваё начное зарыва.

## *Леся Украінка*
## *(1871–1913)*

# Лясная песня

*Драма-феерыя ў 3 дзеях*

**Дзейныя асобы:**

| | |
|---|---|
| Пралог | «Той, што грэблі рве». |
| | Пацярчаты (двое). |
| | Русалка. |
| | Вадзянік. |
| Дзея I | Дзядзька Леў. |
| | Лукаш. |
| | Русалка. |
| | Лесавік. |
| | Маўка. |
| | Пералеснік. |
| | Трасца (без слоў). |
| | Пацярчаты. |
| | Куц. |
| Дзея II | Лукашова маці. |
| | Лукаш. |
| | Дзядзька Леў. |
| | Маўка. |
| | Русалка Палявая. |
| | Кіліна. |
| | Русалка. |
| | «Той, што ў скале сядзіць». |
| | Пералеснік. |
| Дзея III | Маўка. |
| | Лесавік. |

Куц.
Злыдні.
Лукашова маці.
Кіліна.
Хлопчык.
Лукаш.
Кілініны дзеці (без мовы).
Доля.
Пералеснік.

## Пралог

Стары, густы, дрымучы лес на Валыні. Сярод лесу — прасторная паляна з плакучаю бярозаю і старым магутным дубам. Паляна па краях пераходзіць у куп'ё і чараты, а ў адным месцы ў ярказялёную дрыгву — гэта берагі ляснога возера, што ўтварылася з лясной крыніцы. Крыніца тая выбягае з лясной гушчэчы, упадае ў возера, потым, з другога боку возера, зноў выцякае і губляецца ў хмызняку. Само возера ціхаводнае, пакрытае раскаю і лотаццю, але з чыстым плёсам пасярэдзіне.

Мясціна ўся дзікая, таямнічая, але не панурая, — поўная задуменнай палескай красы.

Прадвесне. На ўзлессі і на паляне зелянее першы муражок і цвітуць пралескі ды сон-трава. Дрэвы яшчэ бязлістыя, але пупышкі ўжо набрынялі, вось-вось распусцяцца. На возеры туман то ляжыць пеляною, то хвалюецца пад ветрам, то расступаецца, адкрываючы бледна-блакітную ваду.

У лесе нешта загаманіла, крыніца зашумела, зазвінела, і разам з яе патокам з лесу выбег «Той, што грэблі рве» — малады, бялявы, сінявокі, з шырокімі і адначасна плаўнымі рухамі; вопратка на ім пераліваецца рознымі колерамі, ад каламутна-жоўтага да светла-блакітнага, і паблісквае вострымі залацістымі іскрамі. Кінуўшыся з патоку ў возера, ён пачынае кружыцца па плёсе, узбурваючы яго сонную ваду; туман разбягаецца, вада сінее.

«Той, што грэблі рве»

З гор у лагчыну
імчуся без спачыну!
Масты змываю,
зрываю, разбіваю,
што колісь хто запрудзіў,
што загацілі людзі, —
вясноваю вадой,
як воля, маладой!

*(Хвалюе ваду яшчэ мацней, ныpae і выплывае, нібы шукаючы нечага ў вадзе.)*

Двое маленькіх, бледных дзетак-пацярчат у белых кашульках усплываюць сярод лотаці.

Першае Пацерчаня

Чаго ты зноўку блудзіш?

Другое Пацерчаня

Чаго ад сну нас будзіш?

Першае Пацерчаня

Маці спаці нас паклала
і пасцельку нам паслала:
на карэннях, на каменнях —
сеннічок з лістоў асенніх,
цёплай цінай паўкрывала
і ціхенька заспявала:
«Люлі-люлі-люляткі,
засніце, немаўляткі!»

Другое Пацерчаня

Чаго ты тут шугаеш?

Першае Пацерчаня

Каго ты тут шукаеш?

«Той, што грэблі рве»

Тую Русалку,
што пакахаў я змалку.
Для вадзяной царэўны
я самы блізкі, крэўны!
Аббегаў навакола
яры, паляны, долы,
ды не сустрэў каханкі
мілей ад азяранкі.
Ваду ўсю скалачу,
красуню ж залучу!

*(Моцна каламуціць ваду.)*

Пацярчаты

Авоя! Не жартуй!
Хацінкі не руйнуй —
маленькае пячоры,
збудованай на горы.
Бядовая ў нас хатка:
не знаем, дзе наш татка…

*(Чапляюцца яму за рукі, просяць.)*

Мы спусцімся на дно,
у цемру і багно,
на дне ляжыць рыбалка,
над ім сядзіць Русалка…

«Той, што грэблі рве»

То хай яго кідае,
хай да мяне ўсплывае!

*(Пацярчаты ныраюць у возера.)*

Выплыві ж, мілая!

Русалка выплывае і зваблівa ўсміхаецца, радасна пляскаючы ў далоні. На ёй два вянкі — адзін большы, зялёны, другі маленькі, як карона, жамчужны, з-пад яго спадае вуаль.

Русалка

Ты гэта, мой паночаньку?!

«Той, што грэблі рве»
*(грозна)*

Ты што рабіла?

Русалка
*(кідаецца быццам бы да яго, але праплывае міма)*

Я выплакала вочанькі
ўсё праз цябе, харошанькі!
І слёзы недарэмна я
ў вядро збірала срэбнае:
палічана, запомнена,
вядзерца ў край напоўнена…

*(Пляскае ў ладкі, раскрывае абдымкі, зноў кідаецца да яго і зноў мінае.)*

Кінь ты ў вядро чырвонца,
дык не дастане донца!

*(Звонка смяецца.)*

«Той, што грэблі рве»
*(з’едліва)*

Няўжо і вы, з балота,
так ласыя на злота?

Русалка набліжаецца да яго, ён крута адварочваецца ад яе, вірам закруціўшы ваду.

Найлепей для Русалкі
сядзець каля рыбалкі,
ахоўваць небарака
ад сома ды ад рака,
каб не адгрызлі чуба…
Вось гэта табе люба!

Русалка
*(падплывае блізенька, хапае за рукі, заглядае ў вочы)*

Разгневаўся, няйначай?

*(Хітравата.)*

А што я знаю, любчык,
славуты душагубчык!

*(Ціха смяецца, ён бянтэжыцца.)*

Дзе ты бадзяўся?
Змяніў мяне, паночку,
на мельнікаву дочку!
Узімку доўгі ночы,
а ў дзеўкі зоры-вочы, —
не дарма панічы
ёй носяць дукачы!

*(Пагражае яму пальцамі і залівіста смяецца.)*

Ты думаеш, не бачу
тваю такую ўдачу?
Але табе прабачу,
бо я ж цябе люблю!

*(З жартоўным пафасам.)*

Ажно на цэлы міг табе я вернай буду,
на момант — ласкавай, на хвілю не забуду,
а здраду я ўтаплю!
Вада ж усё стрывае,
слядоў не пакідае,
так, як любоў твая
альбо журба мая!

«Той, што грэблі рве»
*(парывіста працягвае да яе рукі)*

Ну, мір-мірам!
Памчымся па-над вірам!

Русалка
*(бярэцца з ім за рукі і хутка кружыцца)*

На віру-вірочку,
на жоўтым пясочку
ў жамчужным вяночку
закружу ў таночку!
Ух! Ух!

Вухкаюць, пырскаюць, плешчуцца. Вада б’ецца ў берагі, ажно асака шуміць і птушкі гуртам зрываюцца з чаратоў. Пасярод возера вынырвае Вадзянік. Ён стары, сівы дзядуля, доўгія валасы і доўгая белая барада ўперамежку з багавіннем звісаюць ажно да пояса. Адзенне на ім — колеру ілу, на галаве карона з ракушак. Голас глухі, але моцны.

В а д з я н і к

Хто воды ціхія тут каламуціць?

Русалка з напарнікам спыняюцца і кідаюцца ў розныя бакі.

Саромся, дочка! Вадзяной царэўне
з чужынцам вытанцоўваць?! Як не брыдка!

Р у с а л к а

Ён, тата, не чужы. Ты не пазнаў
«Таго, што грэблі рве»?

В а д з я н і к

Пазнаў, не бойся!
Не родны ён, хоць вадзянога роду.
Здрадліўца і зламысніка я знаю!
Вясною ён бушуе, грае, рве,
зрывае з возера вянок шыкоўны,
што цэлы год выпешчваюць русалкі,
знянацку птаха мудрага пужае,
вярбе-удоўцы корань падмывае
і бедным сірацінкам-пацярчатам
вадою залівае каганцы,
мне берагі раўнюткія псуе
і старасці маёй не паважае.
А ўлетку дзе ён? Дзе тады гайсае,
калі няўмольна сонца п’е ваду
з майго каўша, як ненасытны цмок,
калі ад смагі курчацца чароты,
што засталіся на сухім узвышшы,
калі лілеі перад смерцю хіляць
да цёплае вады свае галоўкі?
Дзе ён тады?

Пры гэтых словах «Той, што грэблі рве» цішком ківае Русалцы, вабіць яе ўцячы з ім па лясной крыніцы.

«Той, што грэблі рве»
*(з прыхаванаю насмешкаю)*

Тады я, дзед, у моры.
Мяне на помач кліча Акіян,
бо чашу і яго парожніць сонца.
А цар марскі пакліча — трэба слухаць.
На тое ж служба, — сам ты добра знаеш.

Вадзянік

Ага, тады ты ў моры… А вось мне,
Калі б не памагаў мой сябар даўні,
Мой шчыры прыяцель — асенні дожджык,
прыйшлося б згінуць з параю!

«Той, што грэблі рве» непрыкметна хаваецца ў ваду.

Русалка

Татуля!
Не можа пара згінуць, бо з той пары
вада зноў стане.

Вадзянік

Мудрая якая!
Ідзі на дно! Даволі тут плявузгаць!

Русалка

Ды зараз, тата! Тут яго няма ўжо.
Я зачашу паблытаны сітнёг.

*(Вымае з-за пояса грэбень з ракавіны, расчэсвае прыбярэжную траву.)*

В а д з я н і к

Ну, зачашы, я сам люблю парадак.
Чашы, чашы, я ж пачакаю тут,
пакуль работу скончыш. Ды папраў
гарлачыкі, каб слаліся раўнютка,
кілім жа з раскі пасшывай уважна,
што прайдзісвет парваў той.

Р у с а л к а

Добра, тата!

Вадзянік зручна ўмошчваецца ў чароце, сочачы за працай Русалкі; вочы яго паволі заплюшчваюцца.

« Т о й, ш т о г р э б л і р в е »
*(вынырнуўшы, ціха да Русалкі)*

Схавайся за вярбою!

Русалка хаваецца, азіраючыся на Вадзяніка.

Мы паплывём з табою
на млынавыя рыны,
на плыткія быстрыны,
і у віры шыкоўным
утопім мельнікоўну!

Хапае Русалку за руку і шпарка імчыцца з ёю цераз возера. Непадалёк ад другога берага Русалка ўскрыквае і спыняецца.

Р у с а л к а

Ой, зачапілася за корч нагою!

Вадзянік прачынаецца, кідаецца напярэймы і перахоплівае Русалку.

В а д з я н і к

Ты за старое зноў?! Ах, баламут,
яшчэ пазнаеш, як русалак зводзіць!
Паскарджуся я Горнай Завірусе, —
знай, маці не пагладзіць па галоўцы!

«Т о й, ш т о г р э б л і р в е»
*(рагочучы)*

Пакуль там тое будзе — пагуляю!
Бывай, Русалка, напаўняй вядзерка!

*(Кідаецца ў лясную крыніцу і знікае.)*

В а д з я н і к
*(да Русалкі)*

Ідзі на дно! І каб ты мне не смела
тры ночы месячныя усплываць!

Р у с а л к а
*(супраціўляючыся)*

З якога часу тут русалкі сталі
нявольніцамі ў возеры лясным?
Я вольная, як і вада!

В а д з я н і к

У маёй уладзе
вада павінна ведаць берагі!
Ідзі на дно!

Р у с а л к а

Я не хачу!

В а д з я н і к

Не хочаш?
Тады аддай вянец жамчужны!

Р у с а л к а

Не!
Яго мне падарыў марскі царэвіч.

В а д з я н і к

Насіць вянец табе не давядзецца:
цябе ухопіць за непаслушэнства
«Той, што ў скале сядзіць».

Р у с а л к а
*(з жахам)*

Не, любы тата,
я буду слухацца!

В а д з я н і к

То йдзі на дно.

Р у с а л к а
*(паволі апускаючыся ў ваду)*

Іду, іду… А забаўляцца можна
мне з тым рыбалкам?

В а д з я н і к

Калі ўжо надта хочаш…

Русалка апусцілася ў ваду па плечы і, тужліва ўсміхаючыся, пазірае ўгору на бацьку.

Я ж пра цябе адно, дачка, і дбаю.
Цябе б зняважыў гэты ліхадзей:
пашараваў бы па калючым ложы
лясной крыніцы тваім белым целам,
набыўшыся, пакінуў бы самотнай
дзесь на бязводдзі.

Р у с а л к а

Але ж ён прыгожы!

В а д з я н і к

Ты за старое зноў?

Р у с а л к а

Не, не! Не буду!

*(Нырае.)*

В а д з я н і к
*(пазіраючы ўгору)*

А сонца веснавое прыпякае…
Ух, душна як! Ахаладзіцца трэба!

*(Нырае і сам.)*

## Дзея I

Тая самая мясціна, адно толькі вясна больш заваладарыла; узлессе ўсё роўна як пакрыта пяшчотнай зялёнай вуаллю, дзе-нідзе ўжо і вершаліны дрэваў пацягнуты зялёнаю фарбаю. Возера стаіць поўнае, у зялёных берагах, як у руцвяным вянку.

З лесу на паляну выходзяць дзядзька Леў і яго пляменнік Лукаш. Леў ужо стары чалавек, паважны і дужа добры з выгляду; па-палеску доўгія валасы белымі хвалямі спадаюць на плечы з-пад сівой ваўнянай шапкі-рагаткі; апрануты Леў у палатнянае адзенне і ў светла-шэрую, амаль белую світку; на нагах пасталы, у руках клоўня (малая рыбацкая сетка), каля пояса на папружцы сцізорык, цераз плячо — сплецены з лыка кашэль на шырокім рамяні. Лукаш — вельмі малады хлопец, прыгожы, чарнабровы, стройны, у вачах яшчэ нешта дзіцячае; апрануты таксама ў палатнянае адзенне, толькі з танчэйшага палатна; кашуля навыпуск, мярэжаная беллю, з адкладным каўняром, падпяразаная чырвоным поясам, каля каўняра і на манжэтах — чырвоныя засцежкі; світкі ён не мае; на галаве брыль; на поясе сцізорык на матузку і конаўка з лыка. Дайшоўшы да берага возера, Лукаш спыніўся.

Дзядзька Леў

Чаго ж ты прыпыніўся? Тут не зможам
дайсці да рыбы. Іліста і гразка.

Лукаш

Ды я хацеў бы выразаць жалейку —
чарот на гэта тут у самы раз.

Дзядзька Леў

Жалеек тых да ліха ты ўжо маеш!

Л у к а ш

Ну, колькі ж іх? — З вярбы, каліны
ды з ліпы — вось і ўсё! А трэба
зрабіць яшчэ з чароту, бо найлепей грае.

Д з я д з ь к а   Л е ў

Ат, пазабаўляйся,
на тое свята Бог даў. Заўтра ж прыйдзем
хаціну ставіць тут. Бо час ужо
скаціну выганяць у лес. Вунь бачыш,
як навакол трава зазелянела?

Л у к а ш

Няўжо на гэтым месцы мы асядзем?
Мясціна, кажуць людзі, тут ліхая…

Д з я д з ь к а   Л е ў

Як для каго. Я ведаю, нябожа,
каля чаго і як з чым абысціся:
дзе крыж паставіць, дзе ўвагнаць асіну,
дзе проста тройчы плюнуць, ды і годзе.
Пасеем ля хаціны мак-відук,
пасля пасадзім цёран ля парога
і не дамо злой сіле падступіцца.
Ну, я пайду, а ты сабе як хочаш.

Расходзяцца. Лукаш ідзе да возера і знікае ў чароце. Леў ідзе па беразе і паступова знікае за вербамі.

Р у с а л к а
*(выплывае на бераг і крычыць)*

Дзядуля! Лесавік! Бяда! Ратуйце!

Л е с а в і к
*(малы, барадаты дзядок, рухавы, з сур'ёзным выглядам; у рудой вопратцы колеру кары, у валахатай шапцы з куніцы)*

Чаго табе? Чаго крычыш?

Р у с а л к а

Там хлопец
чарот на дудкі рэжа!

Л е с а в і к

Ая-ёй!
Каб той бяды! Якая ты скупая!
Вось тут хаціну будуць будаваць —
я й то не бараню, абы не секлі
сырое дрэва.

Р у с а л к а

Аё-ечкі! Хаціну?!
Дык людзі ж будуць тут?! Ой, тыя людзі
з-пад саламяных стрэх! Я не цярплю іх!
Саломеннага духу не трываю!
Я іх таплю, каб вымыць у вадзе
той ненавісны дух. Заласкачу
тых набрыдзяў насмерць!

Л е с а в і к

Не гарачыся!
Бо дзядзька Леў паселіцца ў хаціне,
а ён нам сябар. Гэта жартам ён
асінаю ды цёрнам нас пужае…
Люблю старога! Бо калі б не ён,
даўно, даўно ўжо гэты дуб сканаў бы,

што столькі бачыў нашых сходак, танцаў
і лесавых вялікіх таямніцаў.
Яго ўжо немцы мералі, наўкола
утрох пасталі, ўзяўшыся за рукі, —
і ледзьве абнялі. Давалі грошы,
ды дзядзька Леў запрысягнуў жыццём,
што дуб не дасць нікому спілаваць.
Тады ж і я на бараду пакляўся,
што дзядзька Леў і ўся яго радня
век не сустрэнуць крыўды ў гэтым лесе.

Р у с а л к а

Ого! А бацька мой ўсё роўна іх патопіць!

Л е с а в і к

Няхай не мерыцца! Бо завалю
я возера да дна апалым лісцем!

Р у с а л к а

Ой, ліханька, як страшна! Ха-ха-ха!

*(Знікае ў возеры.)*

Лесавік нешта бурчыць, закурваючы люльку, потым сядае на калоду. З чаратоў выплывае ціхі голас жалейкі — мілагучны, пералівісты. І па меры таго як ён ажыўляецца, ажывае ўсё ў лесе. Спачатку на вярбе і вольхах задрыжэлі завушніцы, затым бяроза лісцем залепятала. На возеры распусціліся белыя лілеі і пазалацелі кветкі лотаці. Шыпшына паказала далікатныя бутоны.

З-за камля старой, напалову ўсохлай, расшчэпленай вярбы выходзіць М а ў к а, у светла-зялёным адзенні з распушчанымі чорнымі, з зялёным адлівам, косамі, распраўляе рукі і праводзіць даланёю па вачах.

М а ў к а

Ой, як я доўга спала!

Л е с а в і к

Доўга, дочка!
Ледзь сон-трава не адцвіла зусім.
Вось-вось зязюля маселка саб’е,
чырвоныя пантофелькі абуе
і распачне лічыць гадочкі людзям.
Папрылятаалі з выраю ўжо госці:
вунь жоўтыя пушынкі-качаняткі
на чыстым плёсе бавяцца гульнёй.

М а ў к а

А хто мяне збудзіў?

Л е с а в і к

Відаць, вясна.

М а ў к а

Вясна яшчэ ніколі не спявала
так, як цяпер. Ці гэта, можа, сон?

Чуваць, як Лукаш іграе на жалейцы.

Не… чуеш? Во! Няўжо вясна спявае?

Лукаш іграе тую самую мелодыю, толькі ўжо бліжэй.

Л е с а в і к

Не, гэта хлопец грае на жалейцы.

М а ў к а

Які хлапец? Мо «Той, што грэблі рве»?
Вось не чакала ад яго такога!

Л е с а в і к

Не, ён чалавек, пляменнік Льва,
Лукаш завецца.

М а ў к а

Я яго не знаю.

Л е с а в і к

Бо ён упершыню тут. Не тутэйшы,
здалёку сам, аж з тых бароў сасновых,
дзе наша баба зімаваць так любіць;
асірацеў ён з маці-удавою,
дык дзядзька Леў прытулак даў абоім…

М а ў к а

Хацела б паглядзець я на яго.

Л е с а в і к

Нашто табе ён?

М а ў к а

Пэўна, ён прыгожы!

Л е с а в і к

Ты на хлапцоў людскіх на заглядайся.
Лясным дзяўчатам гэта небяспечна…

М а ў к а

Які ж, аднак, дзядуля, стаў ты строгі!
Няўжо мяне ты так трымаць уздумаў,
як Вадзянік Русалку?

Л е с а в і к

Не, дзіцятка,
цябе я не трымаю. Гэта той,
як толькі можа, у дрыгву гнілую
жывое ўсё засмоктвае. А я
звык волю шанаваць. Гуляй з вятрыскам,
пабаўся з Пералеснікам. А хочаш,
то сілы вод, лясоў, паветра, гораў
прываблівай к сабе і прычароўвай,
але старонься сцежак чалавечых,
бо там не ходзіць воля — там журба
цяжар свой носіць. Абмінай іх, доня:
раз толькі ступіш — і прапала воля!

М а ў к а
*(смяецца)*

Ну як жа так, каб воля — ды прапала?
Так некалі і вецер прападзе!

Лесавік хоча штосьці адказаць, але выходзіць Л у к а ш з жалейкай. Лесавік і Маўка хаваюцца. Лукаш хоча надрэзаць нажом бярозу, каб спусціць сок. Маўка кідаецца і хапае яго за руку.

Не руш! не руш! не рэж! не забівай!

Л у к а ш

Ды што ты, дзеўчына? Ці ж я разбойнік?
Я толькі захацеў пакаштаваць
бярозавіку.

М а ў к а

Гэта ж кроў яе!
Не пі, не пі крыві маёй сястрыцы!

Л у к а ш

Бярозу ты сястрою называеш?
Хто ж ты такая?

М а ў к а

Я — лясная Маўка.

Л у к а ш
*(не так здзіўлена, як уважліва прыглядаецца да яе)*

А, вось ты хто! Я ад старых людзей
не раз пра мавак чуў, але ад роду
яшчэ не бачыў.

М а ў к а

А хацеў бы ўбачыць?

Л у к а ш

Чаму б і не?.. А ты зусім такая,
нібы дзяўчына… не, хутчэй як панна,
і рукі белыя, і стройная надзіва,
і неяк так убрана не па-наску…
Адно — вачэй зялёных я не бачу.

*(Прыглядаецца.)*

Ды не, цяпер зялёныя… былі ж,
як неба сіняе… О! пацямнелі,
як тая хмара… чорныя цяпер,
ці карыя… Ты дзіўная усё ж!

М а ў к а
*(усміхаючыся)*

Ці даспадобы я табе?

Л у к а ш
*(засаромеўшыся)*

Не знаю…

М а ў к а
*(смеючыся)*

Хто ж ведае?

Л у к а ш
*(зусім прысаромлены)*

Пра гэта не пытаюць…

М а ў к а
*(шчыра здзівіўшыся)*

Чаму ж пра гэта запытаць не можна?
Вунь пра сябе пытаецца шыпшына:
«Ну, як дзяўчына?»
А зверху ясень веццем ёй ківае:
«Лепш не бывае!»

Л у к а ш

Я і не знаў, што так яны гавораць.
Нямое дрэва, думаў я, дый годзе.

М а ў к а

Нямога ў лесе ў нас няма нічога.

Л у к а ш

Няўжо ўвесь час ты ўсё сядзіш у лесе?

М а ў к а

З яго я не выходзіла ад роду.

Л у к а ш

А ты даўно жывеш на свеце?

М а ў к а

Прызнацца,
ніколі я не думала пра гэта…

*(Задумваецца.)*

Здаецца мне, што я жыла заўсёды…

Л у к а ш

І ўсё была такая, як цяпер?

М а ў к а

Здаецца, што такая…

Л у к а ш

Хто ж твой род?
Ці ты яго зусім не знаеш?

М а ў к а

Знаю.
Ёсць Лесавік. Заву яго «дзядуля»,
а ён мяне «дзіцятка» або «доня».

Л у к а ш

То хто ж ён — дзед ці бацька?

М а ў к а

Я не знаю.
Ці не ўсё роўна?

Л у к а ш
*(смяецца)*

Дзіва, ды і годзе,
з вас, лесавых! А хто ж табе за маці,
ці бабка, ці ўжо як у вас завуць?

М а ў к а

Здаецца мне, што тая вунь вярба,
сухенькая, старая — мая мама;
яна мяне зімою прытуліла
і мяккім лісцейкам сама заслала
маю пасцельку.

Л у к а ш

Там і зімавала?
А што ж ты там рабіла ўсю зіму?

М а ў к а

Нічога. Спала. Хто ж зімой што робіць?
Спіць возера, спяць дрэвы і чарот.
Вярба парыпвала: «Засні, засні…»
І сніла сны я, белыя ўсё сны:
на срэбры ззялі самацветаў горы,
бялелі травы, кветкі. Ціха зоры
прыветлівыя, белыя, спадалі
і азаралі белізною далі.
Святочна, бела, чыста і ўрачыста
было навокал. Яркія маністы
гарэлі скрозь — і блізка і далёка.
Я спала. Грудзі дыхалі так лёгка!
Ружовай ніццю у тых белых снах
узор свой ткалі мроі. Ні вясна,
ні лета мрояў не саткуць такіх —
спакойных і блакітна-залатых…

Л у к а ш
*(заслухаўшыся)*

Як ты гаворыш…

М а ў к а

Праўда, даспадобы?

Лукаш сцвярджальна ківае галавою.

Лепш за маю — тваёй жалейкі мова.
Пагойдаюся я, а ты зайграй.

Маўка сплятае доўгае вецце бярозы, сядае ў яго і гойдаецца ціха, нібы ў калысцы. Лукаш іграе, прысланіўшыся да дуба і не зводзячы вачэй з Маўкі. Ён іграе вяснянкі. Маўка, слухаючы яго, міжволі адклікаецца на той самы голас.

Як соладка грае,
глыбока сягае,
расцінае белы грудзі, сэрцайка вымае!

На голас вяснянкі адгукаецца зязюля, потым салавейка, ярчэй расцвітае шыпшына, бялее цвет каліны, глод сарамліва ружавее, нават чорны бязлісты дзёран паказвае пяшчотныя кветкі. Маўка, зачараваная, ціха гойдаецца, усміхаецца, а ў вачах нейкая туга ледзь не да слёз. Лукаш, заўважыўшы гэта, перастае іграць.

Л у к а ш

Ты плачаш, дзеўчына?

М а ў к а

Хіба я плачу?

*(Праводзіць рукою па вачах.)*

Дапраўды… Не! — вячэрняя раса…
Заходзіць сонца… Глянь, ужо ўстае
на возеры туман…

Л у к а ш

Не, яшчэ рана!

М а ў к а

Ты б не хацеў, каб скончыўся ўжо дзень?

Лукашківае галавою, што не хацеў бы.

Чаму?

Л у к а ш

Бо дзядзька пазавуць у вёску.

М а ў к а

А ты пабыць са мною хочаш?

Лукаш ківае сцвярджальна галавою.

Бачыш,
і ты нібы той ясень размаўляеш.

Л у к а ш
*(смеючыся)*

Ды трэба ж па-тутэйшаму наўчыцца,
бо летаваць я буду тут.

М а ў к а
*(радасна)*

Папраўдзе?

Л у к а ш

Мы заўтра і пачнём тут будавацца.

М а ў к а

Шалаш паставіце?

Л у к а ш

Відаць, халупу, можа нават хату.

М а ў к а

Вы — як птушкі,
будуеце, будуеце гняздо,
каб потым кінуць.

Л у к а ш

Не, будуюць людзі
навекі.

М а ў к а

Як навекі? Ты ж казаў,
што толькі тут пралетаваць павінны.

Л у к а ш
*(ніякавата)*

Ды… я не знаю… Дзядзька Леў казалі,
што мне дадуць тут і зямлю і хату,
бо хочуць ажаніць мяне увосень…

М а ў к а
*(з трывогаю)*

З кім?

Л у к а ш

Я не знаю. Дзядзька не казалі,
а мо й не напыталі яшчэ дзеўкі.

М а ў к а

Хіба ты сам сабе не знойдзеш пары?

Л у к а ш
*(пазіраючы на яе)*

Я б, можа, і знайшоў, ды…

М а ў к а

Што?

Л у к а ш

Нічога…

*(Найгравае на жалейцы нешта дужа жаласнае, потым апускае руку з жалейкай і задумваецца.)*

М а ў к а
*(памаўчаўшы)*

Ці у людзей паруюцца надоўга?

Л у к а ш

Ды ўжо навек!

М а ў к а

Нібыта галубы…
Я часам ім зайздрошчу: так пяшчотна
кахаюцца яны… А я не знаю
нічыйнай ласкі, акрамя бярозы,
якую я сястрыцай называю;
ды толькі надта смутная яна
і бледная, усё аб нечым тужыць —
без слёзаў глянуць на яе няможна.
А вольхі не люблю — такой шурпатай!
Асіна нешта ўсё мяне пужае,
ды і сама баіцца — ўсё трымціць.

Дубы паважныя. А вось шыпшына
задзірыстая, гэткая, як цёран.
Клён, ясень, явар гонару не просяць.
Каліна так мілуецца сабою,
што нічагуткі навакол не бачыць.
Такой і я была, здаецца, летась,
успомніць сёння гэта нават прыкра…
Калі разважыць шчыра, то я ў лесе
самотная зусім…

*(Тужліва задумваецца.)*

Л у к а ш

Ну, а вярба?
Нядаўна ты яе матуляй звала?

М а ў к а

Вярба?.. Ды што ж… у ёй зімою добра,
а летам… бачыш, высахла яна,
і ўсё рыпіць, нагадвае зіму…
Не, я самотная зусім, зусім…

Л у к а ш

Хіба ж у лесе гэтым толькі дрэвы, —
у ім жа ёсць багата розных сілаў.

*(Крыху з'едліва.)*

Не трэба прыбядняцца, бо й мы чулі
пра вашы танцы, жарты і залёты!

М а ў к а

Ат, гэта ўсё такое, нібы віхар —
закружыць, патармосіць ды пакіне.
У нас не так, як у людзей, — навекі!

Л у к а ш
*(падступаючыся бліжэй)*

А ты б хацела?..

Раптам чуецца голаснае гуканне дзядзькі Льва.

Д з я д з ь к а  Л е ў

Гэй, Лукаш! Гэй, гэй!
Ого-го-го! Ты дзе?

Л у к а ш
*(адгукаецца)*

Я тут, іду!

Д з я д з ь к а  Л е ў

Ідзі хутчэй!

Л у к а ш

Ды што за нецярплячка!

*(Адклікаецца.)*

Іду, іду ўжо!

*(Намерваецца ісці.)*

М а ў к а

Вернешся?

Л у к а ш

Не знаю.

*(Ідзе ў прыбярэжны хмызняк.)*

З лясной гушчэчы вылятае П е р а л е с н і к — прыгожы хлопец у чырвоным адзенні, з чырванаватымі, разветранымі валасамі, чорнымі брывамі, з бліскучымі вачыма. Ён хоча абняць Маўку, яна ўхіляецца.

М а ў к а

Не руш мяне!

П е р а л е с н і к

Чаму ж гэта?

М а ў к а

Ідзі,
зірні, ці ў полі рунь зазелянела.

П е р а л е с н і к

Нашто мне тая рунь?

М а ў к а

А там жа
твая Русалка Палявая ў жыце.
Яна табе вянок ярка-зялёны
пляце, а ты вось швэндаешся тут.

П е р а л е с н і к

Я ўжо забыў яе.

М а ў к а

Забудзь мяне.

П е р а л е с н і к

Ну, не падтруньвай! Лепей паляцім!
Да гор зялёных панясу цябе я —
хацела ж ты так глянуць на смярэкі!

М а ў к а

А зараз не хачу.

П е р а л е с н і к

Скажы, чаму?

М а ў к а

Бо расхацелася.

П е р а л е с н і к

Чаму раптоўна гэтак расхацела?

М а ў к а

Няма ахвоты.

П е р а л е с н і к
*(лісліва ўеццца каля яе)*

Гэй, ляцім у горы! Там мае сястрыцы,
горныя русалкі, кралі-Летавіцы,
панясуцца ў танцы кругам па травіцы,
быццам бліскавіцы!
Мы з табою знойдзем папараці кветку,
з неба знімем зорку — нашай ласкі сведку,

а на снезе горным крамную сурвэтку
выбелім улетку!
Каб здабыць лясную для цябе карону,
мы Змяю-Царыцу хутка скінем з трона,
з гораў непрыступных зробім абарону!
Пакахай мяне ты!
золата, саеты,
камні-самацветы
шлюць табе прыветы!
Буду ў танец весці,
і вяночак плесці,
і на крылах несці
аж на тыя моры, дзе багачка-сонца
золата хавае, скончыўшы свой дзень.
Потым мы заглянем да зары ў ваконца,
зоркі-папрадухі срэбным валаконцам
распачнуць мярэжыць аксамітны цень.
Потым на світанні, як сівыя хмары
стануць з краю неба, нібыта атары
ля вады халоднай на лагодным бродзе,
мы спачынем разам на квяцістым…

М а ў к а
*(нецярплівa)*

Годзе!

П е р а л е с н і к

Ох, з якою злосцю ты мяне спыніла!

*(Сумна і разам з тым хітра.)*

Што было тым летам, ты хіба забыла?

М а ў к а
*(абыякава)*

Леташняе лета так даўно мінула!
Што тады спявала, то зімой заснула.
Я ўжо й не згадаю!

П е р а л е с н і к
*(таямніча нагадваючы)*

А ў дубовым гаі?..

М а ў к а

Што ж там? Я шукала ягадак, грыбкоў…

П е р а л е с н і к

І не заўважала там маіх слядкоў?

М а ў к а

У гаі зрывала кучарыкі з хмелю…

П е р а л е с н і к

Каб было не мулка на маёй пасцелі?

М а ў к а

Не, каб іх уплесці ў свае косы чорныя!

П е р а л е с н і к

І чакала: можа, міленькі прыгорне?

М а ў к а

Не, мяне бяроза любая гайдала.

П е р а л е с н і к

І усё ж… здаецца… ты кагось кахала?

М а ў к а

Ха-ха-ха! Не знаю!
Папытай у гаю.
Я пайду пралескі заплятаць у косы…

*(Падаецца ў лес.)*

П е р а л е с н і к

Хоць бы іх не змыла стынь халодных росаў!

М а ў к а

Вецярок павее,
сонейка прыгрэе,
то й раса спадзе!

*(Знікае ў лесе.)*

П е р а л е с н і к

Пачакай хвіліну!
Без цябе я гіну!
Дзе ты? Дзе ты? Дзе?

Бяжыць і сам у лес. Сярод дрэваў нейкую хвіліну маячыць яго чырвонае адзенне і, нібы рэха, адклікаецца: «Дзе ты? Дзе?..» У лесе грае чырвоны захад сонца, потым гасне. Над возерам устае белы туман. Д з я д з ь к а  Л е ў  і  Л у к а ш  выходзяць на паляну.

Д з я д з ь к а   Л е ў
*(зласліва бурчыць)*

Пракляты Вадзянік! Бадай ты спрах!
Я рыбы налавіў, і толькі выплыў
на плёсы душагубкаю й хацеў
на той бок перабрацца,— калі ён
за днішча лапай цупкаю ўхапіўся,
што ані руш! Траха — і затапіў бы!
Дый я не дурань, ухапіў рукою
за бараду і нанатаў, як смычку,
ды ножычак з-за пояса, — дальбог,
так і адцяў бы! Ды аднекуль пара —
штурхель! — і перакінула чаўнок!
Я ледзьве выбраўся жывым на бераг,
і рыбу разгубіў… А каб ты скіс!

*(Да Лукаша.)*

А тут яшчэ цябе ўсё ліха носіць, —
крычу, гукаю, клічу — хоць бы што!
І дзе ты дзеўся?

Л у к а ш

Я ўвесь час быў тутка,
жалейку выразаў.

Д з я д з ь к а   Л е ў

Ты нешта доўга,
пляменнічак, жалейкі выразаеш!

Л у к а ш
*(ніякавата)*

Хіба ж я, дзядзька…

Д з я д з ь к а  Л е ў
*(усміхнуўся і падабрэў)*

Эх! Маніць вучыцца
не гожа, не да твару ў тваім веку!
Вось лепей пашукай галля у лесе
ды распалі агонь, — хоць абсушуся,
бо як яно такім ісці дадому?
Яшчэ і тая возьме нападзе —
не тутка спамінаючы — цьфу-цьфу! —
ды стане з цела вытрасаць душу…

Лукаш ідзе ў лес; неўзабаве чуваць, як ён трашчыць сухім голлем.

*(Сядае пад дубам на тоўсты корань і спрабуе выкрасаць агонь, каб прыкурыць люльку.)*

Нягож! Тут выкрашаш! І губка змокла…
І трут згубіўся… Каб жа на цябе
ліхая трасца!.. Ці не нарасла
на дубе свежая?

*(Абмацвае дуб, шукаючы губку.)*

З возера, з туману, праступае б е л а я  ж а н о ч а я  п о с т а ц ь, больш падобная да паласы туману, чым да чалавека; прасцёртыя доўгія белыя рукі заграбаста варушаць тонкімі пальцамі, калі яна набліжаецца да Льва.

*(Схамянуўшыся.)*

Ой, што за відма?
Ага, ўжо знаю! Добра, што пабачыў!..

(*Супакоіўшыся, дастае з кашаля нейкія карэньчыкі і зелле і працягвае насустрач здані, быццам баронячыся ад яе.*)

Здань трохі адступае.

*(Шэпча, замаўляючы, штораз шпарчэй.)*

Шыпля-дзявіца,
Трасца-Трасавіца!
Ідзі сабе на куп’ё, на балоты,
дзе людзі не ходзяць, пеўні не спяваюць,
куды мой голас не даходзіць.
Тут табе не хадзіць,
белага цела не сушыць,
жоўтых касцей не ламаць,
чорнай крыві не співаць,
веку не ўкарачаць.
Вось табе палын —
згінь, згінь, згінь!
Амінь!

Здань адступае назад да возера і зліваецца з туманам. Прыходзіць Лукаш з ахапкам галля, кладзе перад дзядзькам, дастае з-за пазухі крэсіва і губку і распальвае агонь.

Лукаш

Вось наце, дзядзька, грэйцеся.

Дзядзька Леў

От дзякуй!
От угадзіў свайму старому дзядзьку!

*(Прыкурвае ад вогнішча люльку.)*

Цяпер зусім інакш!

*(Кладзецца насупраць агню на траве, падклаўшы кашэль пад галаву, пыхкае люлькаю і жмурыцца ад вогнішча.)*

Л у к а ш

Калі б вы, дзядзька,
успомнілі якую казку…

Д з я д з ь к а   Л е ў

Бачыш,
які маленькі!.. А якую хочаш?
Пра Оха-Цудатворца? Пра Тромсына?

Л у к а ш

Такія чуў! Вы ўмееце інакшых,
якіх ніхто не ўмее.

Д з я д з ь к а   Л е ў
*(падумаўшы)*

Ну, то слухай:
я пра Царэўну-Хвалю раскажу.

*(Пачынае спакойным, пявучым, размераным голасам.)*

Калі б нам хата цёплая
ды людзі добрыя,
казалі б мы казку,
баялі байку
да самай зары…
За цёмнымі барамі,
ды за глыбокімі марамі,
ды за высокімі гарамі
ёсць дзівосны край,
дзе пануе Урай.
У тым краі сонца не сядае,
месяц не пагасае,
а ясныя зоркі па полі ходзяць,

карагоды водзяць.
Вось у найпрыгажэйшай зоркі
ды знайшоўся сын —
Белы Палянін.
З твару белы,
мужны, смелы,
залаты волас вецер развявае,
а срэбная збруя ў ручаньках ззяе…

Л у к а ш

Хацелі ж пра Царэўну вы…

Д з я д з ь к а   Л е ў

Чакай!..
Вось як пачаў Белы Палянін гады набіраці,
стаў ён сабе думаці-гадаці,
пра сваё жыццё разважаці:
«З усіх я, кажа, красою ўдаўся,
а яшчэ долі не прычакаўся.
Парадзь мне, зарніца-маці,
дзе мне пару дабраці:
ці сярод баярства,
слаўнага рыцарства,
ці сярод княжатаў,
ці між простых дзяўчатаў?
Ці, можа, царэўна якая
долі сваёй чакае…»

*(Пачынае драмаць.)*

Вось і пайшоў ён да сіняга мора,
і расклаў на беразе жамчужныя маністы…

Л у к а ш

Відаць, вы, дзядзька, нешта прамінулі.

Д з я д з ь к а  Л е ў

Хіба?.. Ды ты ўжо не перашкаджай!..
…Вось разбеглася па моры вялізная хваля,
а з той хвалі вылецелі коні,
як жар, чырвоныя,
у чырвоную каляску запрэжаныя…
А на той калясцы…

*(Замаўкае, зможаны сном.)*

Л у к а ш

Ды хто ж на той калясцы быў? Царэўна?

Д з я д з ь к а  Л е ў
*(праз сон)*

Га?.. Дзе?.. Што за Царэўна?..

Л у к а ш

Ужо й заснулі!..

*(Нейкі час глядзіць задуменна на агонь, потым устае, адыходзіць далей ад вогнішча, прахаджваецца па паляне, ціха-ціхенька, ледзь чутна іграе на жалейцы.)*

У лесе вечарэе, але цемра не густая, а празрыстая, як бывае перад узыходам месяца. Вакол вогнішча водбліскі святла, і звівы ценю ўсё роўна як водзяць хімерны танец; блізкія да агню кветкі то паблісквають колерамі, то гаснуць у цемры. На ўскрайку лесу бялеюць таемна камлі асінаў і бярозаў. Вясновы вецер нецярпліва ўздыхае, абабягаючы ўзлессе і расхінаючы голле плакучай бярозы. Туман на возеры белымі хвалямі наплывае на чорныя хмызы;

чарот перашэптваецца з асакою, схаваўшыся ў імгле. З гушчару выбягае М а ў к а. Бяжыць хутка, быццам уцякаючы; валасы яе развеяліся, адзенне расхрыстана. На паляне яна спыняецца, азіраючыся, прыкладае рукі да сэрца, потым кідаецца да бярозы і яшчэ раз спыняецца.

М а ў к а

Шчыры дзякуй табе, ночка-чараўнічанька,
што прыкрыла мяне ты ад ліханька!
І вам, сцежачкі, і вам, зоранькі,
што вялі мяне да бярозанькі!
Ой, схавай мяне ты, сястрычанька!

*(Хаваецца пад бярозу, абдымаючы яе камель.)*

Л у к а ш
*(падыходзіць да бярозы, ціха)*

Ты, Маўка?

М а ў к а
*(яшчэ цішэй)*

Я.

Л у к а ш

Ты бегла?

М а ў к а

Як вавёрка.

Л у к а ш

Ты ўцякала?

М а ў к а

Так.

Л у к а ш

А ад каго ж?

М а ў к а

А ад такога, нібы сам агонь.

Л у к а ш

Дык дзе ж ён?

М а ў к а

Тсс!.. Бо зноўку прыляціць.

Маўчанне.

Л у к а ш

Як ты дрыжыш! Я чую, як бяроза
уздрыгвае і лісцем шапаціць.

М а ў к а
*(адхіляецца ад бярозы)*

Ой, ліха! Я баюся прытуліцца,
а так не ўстою.

Л у к а ш

Да мяне тулісся.
Я дужы, калі што — абараню.

Маўка прытульваецца да яго. Яны стаяць разам. Месячнае святло пачынае хадзіць па лесе, сцелецца па паляне і пракрадваецца

пад бярозу. Лес напаўняецца салаўінымі спевамі і ўсімі галасамі вясновай ночы. Вецер парывіста ўздыхае. З празрыстага туману выходзіць Р у с а л к а і цішком назірае за маладой парай. Лукаш, тулячы да сябе Маўку, усё бліжэй нахіляецца да яе і раптам цалуе.

М а ў к а
*(ускрыквае з болем шчасця)*

Ой!.. Зорка ў сэрца ўпала!

Р у с а л к а

Ха-ха-ха!

*(Са смехам і ўсплёскам кідаецца ў возера.)*

Л у к а ш
*(зжахнуўшыся)*

Што гэта?

М а ў к а

Не палохайся, — Русалка.
Сяброўкі мы, яна нас не зачэпіць.
Яна свавольніца, пакпіць умее,
ды мне ўсё роўна… мне ўсё роўна зараз
усё на свеце!

Л у к а ш

Я таксама?

М а ў к а

Не,
ты сам мой свет цяпер наймілы, лепшы,

чым той, што знала я дасюль, дый той —
як заручыліся — пахарашэў.

Л у к а ш

Мы заручыліся?

М а ў к а

А ты не чуеш,
як салаўі вясельным спевам звоняць?

Л у к а ш

Я чую… І яны ўжо не шчабечуць,
не цёхкаюць, як колісь, а спяваюць:
«Цалуй! цалуй! цалуй!»

*(Цалуе яе доўгім, пяшчотным, трапяткім пацалункам.)*

Я зацалую
цябе насмерць!

Усхадзіўся вецер, белы цвет мяцеліцаю кружыцца па паляне.

М а ў к а

Я не магу памерці… а шкада…

Л у к а ш

Што ты гаворыш? Не хачу я!
Нашто сказаў я гэта?!

М а ў к а

Не, так добра —
памерці хутка, нібы знічка…

Л у к а ш

Годзе!

*(Гаворыць, абдымаючы.)*

Не гавары! Я не хачу такога!
Не гавары нічога!.. Не, кажы!
Гаворыш дзіўна ты ўсё, але неяк
так добра слухаць… Ну, чаго ж маўчыш?
Разгневалася?

М а ў к а

Слухаю цябе…
тваё каханне…

*(Бярэ ў рукі ягоную галаву, паварочвае насупраць месяца і ўважліва глядзіць у вочы.)*

Л у к а ш

Што ты так? Аж страшна,
як ты ў душу вачыма заглядаеш…
Я не магу так! Гавары, жартуй,
спытай мяне, кажы, што любіш, смейся…

М а ў к а

Твой голас чысты, нібыта крыніца,
а вочы — непразрыстыя.

Л у к а ш

Мо месяц
няярка свеціць?

М а ў к а

Можа…

*(Нахіляе галаву да яго сэрца і замірае.)*

Л у к а ш

Ты самлела?

М а ў к а

Тсс!.. Хай гаворыць сэрца… Невыразна
яно гаворыць, як вясною ночка.

Л у к а ш

Нашто так прыслухоўвацца? Не варта!

М а ў к а

Не варта, кажаш? То не трэба, мілы!
Не трэба, любы! Я не буду, родны,
не стану прыслухоўвацца, харошы!
Я буду пеставаць цябе, каханы!
Пяшчоты любіш ты?

Л у к а ш

Я не любіўся
яшчэ ні з кім. Не ведаў я дасюль
такіх салодкіх любашчаў!

Маўка лашчыць яго, ён ускрыквае з мукаю ўцехі.

О Маўка!
Душу з мяне дастанеш!

М а ў к а

І дастану!
Вазьму тваю пявучую душу,
а сэрца словамі завараджу…
Вусны твае зацалую прыгожыя,
каб заяснеліся,
каб загарэліся,
быццам бы кветачкі цёмна-ружовыя!
Я буду вабіць блакітныя вочы,
хай яны граюць,
хай яны ззяюць,
яркім агнём палымнеюць і ўночы!

*(Раптам пляскае ў ладкі.)*

Ды чым жа я прываблю вочы ўночы?
Дасюль жа я не ўквечана!

Л у к а ш

Дарма!
Красуня ты й без кветак.

М а ў к а

Не, мой любы,
я кветкамі ўпрыгожуся і стану
не горш лясной царэўны.

*(Бяжыць на другі бок паляны, далей ад возера, да квітнеючых кустоў.)*

Л у к а ш

Пачакай!
Сам кветкі я ўпляту.

*(Ідзе да яе.)*

М а ў к а
*(сумна)*

Уночы кветкі
знепрыгажэлі… бо паснулі фарбы…

Л у к а ш

Тут светлячкі ў траве, я назбіраю,
яны засвецяцца ў цябе у косах,
дый будзе нібы зоркавы вянок.

*(Кладзе некалькі светлячкоў ёй на валасы.)*

Дай палюбуюся… Краса якая!

*(Не стрымліваючыся ад шчасця, моцна абдымае яе.)*

Яшчэ я назбіраю… Упрыгожу
цябе, як каралеўну, ў самацветы!

*(Шукае ў траве пад кустамі светлячкоў.)*

М а ў к а

А я з каліны цвету наламаю.
Яна не спіць, бо салавейка будзіць.

*(Ламае белыя кветкі і ўпрыгожвае імі сваё адзенне.)*

Р у с а л к а
*(зноў выходзіць з туману; шэпча, павярнуўшыся да чароту)*

Пацярчаткі, падыдзіце,
аганёчкі запаліце!

У чароце замільгалі два блукаючыя агеньчыкі. Затым выходзяць П а ц я р ч а т ы, трымаючы ў руках каганцы, якія то міргаюць, то ярка ўспыхваюць, а то зусім згасаюць. Русалка туліць іх да сябе і шэпча, паказваючы здалёк на белую постаць Лукаша, што віднеецца ў змроку сярод кустоў.

Глядзіце, той, што там блукае,
такі, як бацька ваш, што вас пакінуў,
што вашую матулю загубіў.
Яму не трэба жыць.

П е р ш а е  П а ц е р ч а н я

То і ўтапі!

Р у с а л к а

Мне нельга. Лесавік забараніў.

Д р у г о е  П а ц е р ч а н я

А мы ж маленькія, нам не падужаць.

Р у с а л к а

Вы маленькія
ды ўдаленькія,
аганькі ў вас ясненькія,
вы як ласачкі ціхенькія, —
калі пойдзеце ў трыснік,
не пачуе й Лесавік,
а заўважыць ён —
быў агонь і знік,
быў і знік!
Упадзіце, як іскрынкі,
на сцяжынкі.
Мільганіце над вадою,

пасвяціце над дрыгвою, —
дзе ён стане,
там і кане,
там дастане дна балота…
А далей — мая турбота!
Ну, блісь-блісь!

П а ц я р ч а т ы
*(адыходзячы адзін за другім)*

Ты сюдою, я тудою,
а збяжымся над вадою!

Р у с а л к а
*(радасна)*

Го! Пайшлі!

*(Падбягае да балота, зачэрпвае ваду і пырскае праз плечы.)*

З-за купіны выскоквае К у ц, маладзенькі чорцік-панічок.

Куц, не пудлуй,
у ручку цалуй!

*(Свавольным рухам працягвае яму руку, ён цалуе.)*

К у ц

За што ж, васпане?

Р у с а л к а

Я табе сняданне
смачнае згатую, толькі б не праспаў.

*(Паказвае здалёку на Лукаша.)*

Бачыш?.. Што? Прывык жа ты да гэткіх страў?

К у ц
*(махнуў рукою)*

Пакуль не ў балоце —
суха ў маім роце!

Р у с а л к а

Хлопец будзе твой,
радасць будзе маці і радні тваёй!

Куц скача цераз купіну і знікае. Русалка ў чароце сочыць за Пацярчатамі, якія снуюць, перабягаюць, мільгаюць агеньчыкамі, бліскаюць, свецяцца.

Л у к а ш
*(шукаючы светлячкоў, заўважае агеньчыкі)*

Якія светлячкі! Глядзі, лятаюць!
Яшчэ такіх вялікіх я не бачыў!
Павінен іх злавіць я!

*(Ганяецца то за адным, то за другім, яны незаўважна вабяць яго да дрыгвы.)*

М а ў к а

Не лаві!
Каханы, не лаві ты Пацярчатаў!
Яны цябе загубяць!

Лукаш не чуе, захоплены пагоняю, і адбягаецца далёка ад Маўкі.

Л у к а ш
*(раптам ускрыквае)*

Гіну! Гіну!
Я трапіў у дрыгву!
Ой, смокча! Цягне!

Маўка прыбягае на ягоны крык, але не можа дастаць яго, бо ён уграз далёка ад цвёрдага берага. Яна кідае яму адзін канец свайго пояса, трымаючыся за другі.

М а ў к а

Лаві!

Пояс не дастае да рук Лукаша.

Л у к а ш

Не дастаю! Што ж гэта будзе?

М а ў к а
*(кідаецца да вярбы, што стаіць, нахіліўшыся над дрыгвою)*

О, вербанька-матуленька, ратуй!

Хутка, як вавёрка, узлазіць на вярбу, спускаецца па канцавым суку, кідае зноў пояс — на гэты раз ён дастае — Лукаш хапаецца за канец, Маўка цягне яго да сябе, потым падае руку і дапамагае ўзабрацца на вярбу. Русалка ў чароце глуха стогне з роспачы і знікае ў тумане. Пацярчаты таксама знікаюць.

Д з я д з ь к а  Л е ў
*(прачнуўся ад крыку)*

Га?.. Што такое? Можа, зноўку відма?
Чур-чур! Знікай!

*(Аглядаецца.)*

Лукашка, дзе ты? Гоў!

Л у к а ш
*(адгукаецца з вярбы)*

Я тутка, дзядзька!

Д з я д з ь к а   Л е ў

А ты тут чаго?

*(Падыходзіць і заглядае на вярбу.)*

Залез на дрэва, ды яшчэ і з дзеўкай!

Лукаш спускаецца з вярбы. Маўка там застаецца.

Л у к а ш

Ой, дзядзька, я ў дрыгве ледзь не прапаў,
натрапіў на «вакно», ды вось яна

*(паказвае на Маўку)*

адратавала неяк.

Д з я д з ь к а   Л е ў

А чаго ты
туляешся тут поначы, нібыта
патароча!

Л у к а ш

Я светлячкі лавіў…

*(Змаўкае.)*

Д з я д з ь к а  Л е ў
*(заўважае светлячкі на Маўцы)*

Го! Так бы і сказаў, то я ж бы ведаў!
Цяпер я бачу сам, хто ў гэтым вінен.

М а ў к а

Я ж, дзядзечка, яго уратавала.

Д з я д з ь к а  Л е ў

Глядзі ты — «дзядзечка»! Пляменніцу
знайшоў! А хто ж яго паслаў у пастку лезці?

*(Дакорліва ківае галавою.)*

Лясное кодла! Гэткая ў вас праўда!
Ну, упалюю я Лесавіка,
то ўжо не вырвецца — у пень дубовы
ўшчамлю я барадзішча-памялішча,
то будзе ведаць! Бачыш, падсылае
сваіх дзяўчат, а сам — і я не я!

М а ў к а
*(хуценька збягае з вярбы)*

Не, ён не вінен! Хай Змяя-Царыца
мяне скарае, калі я ілгу!
І я не вінавата!

Д з я д з ь к а  Л е ў

Зараз веру,
бо гэта ў вас найбольшая бажба.

Л у к а ш

Яна мяне уратавала, дзядзька,
дальбог, загінуў бы тут без яе!

Д з я д з ь к а   Л е ў

Ну, дзеванька, хоць ты душы не маеш,
ды сэрца добрае ў цябе. Прабач мне,
што згарача тут выпаліў…

*(Да Лукаша.)*

Чаго ж ты
па светлячкі палез ажно ў балота?
Хіба ж яны на купінах сядзяць?

Л у к а ш

Палез, бо там лятаючых убачыў.

Д з я д з ь к а   Л е ў

Эге! Я знаю! Гэта Пацярчаты!
Ну-ну, чакайце ж, прывяду я заўтра
сюды заядлых шчанюкоў, пабачым,
хто заскуголіць тут!

Г а л а с к і   П а ц я р ч а т а ў
*(абзываюцца жаласна, накшталт жабінага крумкання)*

Не, не, дзядуля!
Не, мы не вінны!
Мы ў дрыгавінні
ягадкі рвалі.
Мы ж і не зналі,
што прыйшлі госці,

мы б не ўсплывалі
з той глыбакосці…
Ой, мамачка, мам!
Горачка нам!

Д з я д з ь к а   Л е ў

Ты бачыў, як яны ўжо запішчэлі,
чартоўскае насенне?! Пачакай,
я разбяруся, хто тут вінаваты!..

*(Да Лукаша.)*

А што, нябожа, ці не час дадому?
Хадзем памалу.

*(Да Маўкі.)*

Будзь здарова, дзеўка!

М а ў к а

Вы заўтра прыйдзеце? Я пакажу,
дзе добрае тут дрэва на будоўлю.

Д з я д з ь к а   Л е ў

Я бачу, распыталася пра ўсё ты.
Ну што ж, прыходзь, да вас даўно я звык,
дый вам да нас прывыкнуць давядзецца.
Хадзем. Бывай!

*(Адыходзіць.)*

М а ў к а
*(больш да Лукаша, чым да Льва)*

Чакаць я заўтра буду!

Лукаш адстае ад дзядзькі, моўчкі цісне абедзве Маўчыны рукі, нягучна яе цалуе і, дагнаўшы дзядзьку, ідзе з ім у лес.

Каб жа ты, ночка, хутчэй мінала!
Выбач мне, выбач! Яшчэ я не знала
гэткай часінкі, светлай і шчаснай
так, як і ночкі, — яснай, прыўкраснай!
Што ж ты, бяроза, журыцца стала?
Глянь, мяне раптам шчасце спаткала!
Слёзаў не лі ты, вярба, над вадою,
будзе, матулечка, любы са мною!..
Татка мой родны, цёмненькі гаю,
як жа я гэтую ноч пратрываю?
Скончыцца стрэча — прыйдзе разлука…
Што ж напаткаю — шчасце ці муку?

Месяц схаваўся за цёмную сцяну лесу, цемра наплыла на паляну, чорная, быццам аксамітавая. Нічога не стала відаць, толькі чырванее на зямлі жар, што застаўся ад вогнішча, ды па вянку са светлячкоў заўважаецца, дзе ходзіць Маўка сярод дрэваў: вянок той зорыць то цэлым сузор’ем, то асобнымі іскрамі, потым цемра і яго паглынае. Глыбокая паўночная цішыня, толькі часам лёгкі пошум чуецца ў гаі, быццам уздыханне скрозь сон.

## Дзея II

Позняе лета. У гаі на цёмным матавым лісці дзе-нідзе прабіваецца асенняя прозалаць. Возера абмялела, берагавая кайма пашырэла, чарот суха шалясціць скупою лістотаю. На паляне ўжо збудавана хата, пасаджаны агарод. На адной ніўцы пшаніца, на другой — жыта. На возеры плаваюць гусі. На беразе сушыцца бялізна, на кустоўі тырчаць гаршкі, гладышы. Трава на паляне чыста выкашана, пад дубам — складзены стажок. У лесе звоняць званочкі — дзесьці пасецца жывёла. Непадалёку чуецца жалейка, на якой іграюць нейкую жвавую танцавальную мелодыю.

Лукашова маці
*(выходзіць з хаты і гукае)*

Лукашка, гэй! Ты дзе?

Лукаш
*(выходзіць з лесу з жалейкаю і разным кійком у руках)*

Я тутка, мама.

Лукашова маці

А ці не досыць гэтага іграння?
Ты граеш, граеш, а работа — стоп!

Лукаш

Работа? А якая?

Лукашова маці

Як «якая»?
А хто ж загон хацеў загарадзіць?

Лукаш

Чаго вам, некалі загараджу.

Лукашова маці

Калі там тваё «некалі» настане?
Табе б дык толькі гойсаць па равах
з прыблудай гэтай, з гэтым прыбышом!

Лукаш

Хто гойсае! Скаціну я пасу,
а Маўка памагае.

Лукашова маці

Адчапіся
з памочніцай такой!

Лукаш

А вы ж казалі,
калі яна скаціну даглядае,
то сырадою больш.

Лукашова маці

Вядома ж — ведзьма!

Лукаш

Не знаю я ўжо, як вам дагадзіць!
Як хату ставілі, ці ж не насіла
яна жардзіны? Хто, скажыце, з вамі
гарод садзіў і нівы засяваў?
Хіба ў нас так, як сёлета, радзіла?
А вунь яшчэ і кветак насадзіла
пад вокнамі, аж люба паглядзець!

Л у к а ш о в а   м а ц і

Патрэбны тыя кветкі! Мо ў мяне
у хаце сёння дзеўка на выданні?..
Яму ўсё кветкі, спевы ў галаве!

Лукаш пацепвае нецярпліва плячыма і намерваецца ісці.

Куды ты?

Л у к а ш

Ды загон той гарадзіць!

Ідзе за хату, неўзабаве адтуль чуецца стук сякеры. М а ў к а выходзіць з лесу ўся ў кветках, з распушчанымі валасамі.

Л у к а ш о в а   м а ц і
*(няветліва)*

Чаго табе?

М а ў к а

Дзе, цётачка, Лукаш?

Л у к а ш о в а   м а ц і

Чаго ты ўсё за ім? Нядобра дзеўцы
самой за хлопцам гэтак улягаць.

М а ў к а

А мне ніхто такога не казаў.

Л у к а ш о в а   м а ц і

Тады хоць раз паслухай — не зашкодзіць.

*(З непрыязнасцю глядзіць на Маўку.)*

Чаго ты распатланая такая?
Няма, каб зачасацца акуратна, —
усё як ведзьма ходзіш. Непрыстойна!
А лахманы якія на табе!
Яны у працы толькі замінаюць.
Штось засталося ад дачкі памерлай,
ідзі адзенься — там вісіць на жэрдцы.
А гэта ў скрыню лепей пакладзі.

М а ў к а

Ну што ж, магу і пераапрануцца.

Ідзе ў хату. Адтуль выходзіць д з я д з ь к а Л е ў.

Л у к а ш о в а м а ц і

Хаця б падзякавала!

Д з я д з ь к а Л е ў

Ты што, сястра,
ўсё поедам ясі дзяўчыну гэту?
Ці завініла чым перад табой?

Л у к а ш о в а м а ц і

А ты, брат, памаўчаў бы лепш, калі
не цягнуць за язык! Мо ты б яшчэ
сюды ўсіх ведзьмаў з лесу пазбіраў…

Д з я д з ь к а Л е ў

Калі б, сястра, пра тое ты казала,
што ведаеш, то слухаў бы, а то…
«Ўсіх ведзьмаў з лесу!» — дзе ж у лесе ведзьмы?
Яны жывуць па сёлах…

Л у к а ш о в а  м а ц і

Ого, ты
на гэтым знаешся… Ну што ж, прынаджвай
лясную погань, мо яшчэ дакджэшся
калісь дабра!

Д з я д з ь к а  Л е ў

А што ж? І дачакаю!
Усё, што ў лесе, — то, сястра, не погань,
усякі скарб ідзе адсюль…

Л у к а ш о в а  м а ц і
*(насмешліва)*

А як жа!

Д з я д з ь к а  Л е ў

З такіх дзяўчатаў могуць быць і людзі!

Л у к а ш о в а  м а ц і

Якія людзі? Ці ты ўпіўся? Га?

Д з я д з ь к а  Л е ў

Ды што ты знаеш? Вунь нябожчык дзед
казалі: трэба толькі слова ведаць,
то увайсці і ў лесавічку можа
душа зусім такая, як і наша.

Л у к а ш о в а  м а ц і

Ну, а куды тады вядзьмарскі дух
падзенецца?

Д з я д з ь к а  Л е ў

Ты зноўку за сваё!
Пайду я лепей што зраблю, чым тут
ваду таўчы у ступе.

Л у к а ш о в а  м а ц і

То ідзі!
Ці ж я трымаю?

Леў ідзе за хату, злосна страсянуўшы галавою. М а ў к а  выходзіць з хаты пераапранутая: на ёй цесная палатняная, палатаная на плячах кашуля, вузкая спаднічка з набіванкі і паліналы фартух з дымкі, валасы гладка заплецены ў дзве касы і закручаны вакол галавы.

М а ў к а

Гляньце, як цяпер?

Л у к а ш о в а  м а ц і

Вось так зусім іначай. Ну, пайду —
упраўлюся тым часам з драбнатою.
Хацела да канопляў завінуцца,
дык тут яшчэ не скончана работа,
а да яе не надта ты…

М а ў к а

Чаму ж?
Што толькі ўмею — рада памагчы.

Л у к а ш о в а  м а ц і

У тым вось і бяда, што мала ўмееш:
пalольшчыца няўдалая з цябе,

на сенаванні — галава балела…
Як так і жаць мне будзеш…

М а ў к а
*(са страхам)*

Як? Жаць жыта?
Вы хочаце, каб я сягоння жала?

Л у к а ш о в а  м а ц і

Чаму б і не? Хіба сягоння свята?

*(Бярэ за дзвярыма ў сенцах серп і падае Маўцы.)*

Бяры вось серп — спрабуй. Як скончу
сваё, то падмяню цябе…

*(Ідзе за хату, узяўшы з сяней падсітак з зернем. Неўзабаве чуваць, як яна кліча: «Ціпанькі! Ціпанькі! Ціп-ціп-ціп!»)*

Л у к а ш  выходзіць з сякераю і падступае да маладзенькага граба, каб ссекчы яго.

М а ў к а

Не руш, мой любы,
яно ж сырое, бачыш?

Л у к а ш

Ай, адстань!
Няма мне часу!

Маўка тужліва глядзіць яму ў вочы.

Ну, то дай сухога…

М а ў к а
*(хуценька выцягвае з гушчару доўгую сухадрэвіну)*

Яшчэ знайду, калі патрэбна болей.

Л у к а ш

А што? Я тым адным загараджу?

М а ў к а

І ты ўжо стаў чамусьці непрыветны…

Л у к а ш

Ды бачыш… маці за цябе грызуць!..

М а ў к а

Чаго ёй трэба? Што яе ўкусіла?

Л у к а ш

Ды як жа? Я ж ім сын…

М а ў к а

Ну, сын, — дык што?

Л у к а ш

Бач… ім, як ты, нявестка непамысна…
Ім род лясны зусім не даспадобы.
Яны табе свякрухай кепскай будуць!

М а ў к а

У лесе ў нас няма свякрух ніякіх.
Нашто свякрухі тыя і нявесткі —
не разумею!

Л у к а ш

Ім нявесткі трэба,
бо трэба памагаць — яны старыя.
Чужога да работы прымушаць
не выпадае… Наймічкі — не дочкі…
На жаль, ты гэтага не зразумееш…
Каб чалавечы клопат зразумець,
вядома, трэба вырасці не ў лесе.

М а ў к а
*(шчыра)*

Ты мне ўсё раскажы, я зразумею,
бо я цябе люблю… Я ж зразумела
тваёй жалейкі спевы, ці не так?

Л у к а ш

Яшчэ не ўся навука — тыя спевы!

М а ў к а

Сваёй душы не зневажай ты квету,
бо вырасла з яго каханне наша!
Той квет чароўней папараці-кветкі —
ён скарбы творыць, а не адкрывае.
Нібы затахкала другое сэрца
ў маіх грудзях, калі яго спазнала.
Са мною цуд стаў…

*(Раптам змаўкае.)*

Няўжо ты смяешся?

Л у к а ш

Дапраўды, неяк надта смешна стала…
Адзета па-будзённаму, а мовіш
такое, як на свята у царкве!

*(Смяецца.)*

М а ў к а
*(тузае вопратку на сабе)*

Спалю я ўсё!

Л у к а ш

Каб маці болей грызлі?

М а ў к а

Калі ж я ў тым убранні для цябе
нібы інакшай стала…

Л у к а ш

Так і ведаў!
Цяпер пачнуцца новыя дакоры…

М а ў к а

Не, любы, я цябе не дакараю,
мне толькі горка, што не можаш ты
сваім жыццём з сабою дараўняцца.

Л у к а ш

Не разумею, што ты тут гаворыш.

М а ў к а

Бач, я цябе найбольш люблю за тое,
чаго ў сабе ты сам не разумееш,
хоць і душа твая пяе пра тое
выразна-шчыра голасам жалейкі…

Л у к а ш

А што ж яно такое?

М а ў к а

Прыгажэй
за твой увесь прывабны, мілы воблік,
ды выказаць яго і я не ў стане…

*(Тужліва-закахана пазірае на яго і маўчыць хвіліну.)*

Зайграй жа мне, каханы, на жалейцы,
няхай яна ўсё ліха зачаруе!

Л у к а ш

Ай, мне цяпер зусім не да іграння!

М а ў к а

То абнімі мяне, каб я забыла
размову гэту.

Л у к а ш
*(азіраецца)*

Тсс!.. пачуюць маці!
Яны і так ужо ўвесь час гавораць,
што ты прыблуда…

М а ў к а
*(успыхнула)*

Так! Хто у вас не вырас,
не зразумее вас! Бо што такое
«прыблуда» тая? Што цябе кахаю?
Што першая прызналася? Ці ж ганьба,
што сэрца не скупое свае скарбы
не затаіла, але шчодрай мерай
каханага багаццем адарыла,
не патрабуючы ўзамен нічога?

Л у к а ш

Была надзея, што аддзячу потым.

М а ў к а

Ты зноўку нешта дзіўнае гаворыш —
«аддзячу»… Даў ты мне дары, якія
нямераны, нялічаны…

Л у к а ш

То й добра,
калі адзін другому мы не вінны.
Сама прызнала гэта — памятай.

М а ў к а

Чаму павінна гэта я запомніць?

Л у к а ш о в а  м а ц і
*(выходзіць з хаты)*

То ты так жнеш? А ты вось так гародзіш?

Лукаш паспешліва павалок жэрдку за хату.

Калі ты, дзеванька, не хочаш жаць,
то я не прымушаю. Ужо неяк
сама упраўлюся, а там на восень,
дасць Бог, знайду памочніцу-нявестку.
Тут ёсць адна рухавая ўдавіца,
сама напытвалася праз людзей,
то я сказала, што абы Лукаш
не супярэчыў… Ну, вяртай жа, любка,
мне серп — нямашака у нас другога.

М а ў к а

Я буду жаць. Ідзіце да канопляў.

Маці ідзе цераз паляну да возера і хаваецца за чаротам. Маўка нахіляецца да жыта і заносіць серп. З жыта раптам выскаквае Р у с а л к а  П а л я в а я; зялёнае адзенне на ёй прасвечваецца сям-там скрозь плашч залатога валосся, што пакрывае ўсю яе невялічкую постаць; на галаве сіні вянок з васількоў, у валасах заблыталіся ружовыя кветкі з кукалю, рамонку, бярозкі.

Р у с а л к а  П а л я в а я
*(з мальбою кідаецца да Маўкі)*

Сястрыца, пашкадуй!
Красу маю ты не руйнуй!

М а ў к а

Я мушу.

Р у с а л к а   П а л я в а я

І так мяне знявечылі,
ўсе кветачкі скамечылі,
скамечылі-скалечылі,
пшанічаньку палешылі!
Мак мой жарам чырванеў,
а цяпер ён пачарнеў,
бы крывінка пралілася,
ў баразёнцы запяклася…

М а ў к а

Сястрыца, мушу я! Твая краса
налета яшчэ болей забуяе,
а шчасцейка маё калі завяне,
то ўжо не ўстане!

Р у с а л к а   П а л я в а я
*(ламае рукі і хістаецца ад гора, як ад ветру колас)*

Ой, горачка! Каса мая!
Каса мая залатая!
Ой, ліхачка! Краса мая!
Краса мая маладая!..

М а ў к а

Тваёй красе не суджан доўгі век,
бо яе доля — вырасці, каб злегчы.
Дарэмна так упрошваеш мяне, —
не я, то іншы хтось яе сажне.

Р у с а л к а  П а л я в а я

Глянь жа, сястрыца, як хваля гуляе
з краю да краю.
Не пазбаўляй нас вясёлага раю,
бо яшчэ лецейка ззяе,
бо яшчэ жыцейка не палягло, —
і немінучае к нам не прыйшло!
Хвільку! Хвіліначку! Міг адзін зведаю!
Потым убачыш красу маю бедную —
схіліцца долу сама…
Годзе! Не будзь, як зіма,
што аніяк і ніхто не умоліць!

М а ў к а

Рада б ад смерці я зволіць,
толькі ў самой — ані долі, ні волі!

Р у с а л к а  П а л я в а я
*(шэпча, нахіліўшыся да пляча Маўкі)*

Ці ж не здараецца часам на полі
вострым сярпом разануць сабе руку?
Родная, ўваж маю муку!
Кроплі крыві для ратунку даволі.
Хіба красе дарагая цана?

М а ў к а
*(чыркае сярпом сабе па руцэ, кроў пырскае на залатыя косы Русалкі Палявой)*

Вось табе, на!

Русалка Палявая схіляецца нізка перад Маўкаю, дзякуе і знікае ў жыце. Ад возера набліжаецца маці, а з ёю маладая паўнацелая маладзіца ў чырвонай хустцы з аблямоўкаю, у бурачковай спадніцы

з дробнымі і роўнымі зборкамі; у такіх жа зборках і фартух з нашытых на ім белымі, чырвонымі ды жоўтымі стужкамі; кашуля густа вышыта чырвоным і сінім, маністы са срэбных манетак звіняць на белай, пульхнай шыі, моцная жычка туга перацінае стан — і ад гэтага круглая, поўная постаць здаецца яшчэ больш пышнаю. Маладзіца ідзе спораю хадою, ажно старая ледзьве паспявае за ёй.

Лукашова маці
*(да маладзіцы ласкава)*

Сюды, Кілінка, вунь каля бярозы
паўнютка зелля. Вось расце крываўнік,—
збаны свае папарыць вы хацелі?
Ён добры, любачка, да малака.

Кіліна

Ды малака ў мяне хоць ты залíся!
Хутчэй бы той кірмаш — набуду посуд.
Карова ў мяне турскага заводу, —
яшчэ нябожчык мой прыдбаў, — о Божа,
малочная якая! Я ўжо неяк
управілася ў полі, дык патрэбна
рабоце хатняй рады даць. Ой, цётка,
удоўцы — хоць ты напал разарвіся.

*(Прыгаруньваецца, сцяўшы губы.)*

Лукашова маці

Ой, рыбанька, няўжо вы ўсё пажалі?
Гавораць праўду: хто як папрацуе,
той мае так… У нас — адна палоска,
і то Бог спору не дае…

К і л і н а
*(глядзіць на ніву, дзе стаіць Маўка)*

А хто ж у вас
за жнейку будзе?

Л у к а ш о в а  м а ц і

Ды адна сіротка…

*(Ціха.)*

Такая, што, крый Божа, ні да чога…

К і л і н а
*(падыходзіць з маці да Маўкі)*

Дзень добры, дзеванька! Ці добра жнецца?

Л у к а ш о в а  м а ц і
*(усплёсквае рукамі)*

Ой, ліхачка! Яшчэ не пачынала!
О Божачка, дык што ты тут рабіла?
Няўдаліца! Нягодніца! Гультайка!

М а ў к а
*(глуха)*

Я раніла руку…

Л у к а ш о в а  м а ц і

Было калі!

К і л і н а

Ану, дай серп сюды — спрабую я.

Маўка хавае серп за спіну і варожа глядзіць на Кіліну.

Лукашова маці

Давай жа серп, як просяць! Ён не твой!

Вырывае серп з рук Маўкі і падае Кіліне, тая кідаецца да жыта і жне, як агнём паліць, аж салома свішча пад сярпом.

*(Задаволена.)*

Вось яна, работа!

Кіліна
*(не адрываючыся ад працы)*

Калі б хто
пярэвяслы вязаў мне, я б уміг
палоску гэту выжала.

Лукашова маці
*(гукае)*

Лукаш!

Лукаш
*(падыходзіць да Кіліны)*

Дапамагай Бог!

Кіліна
*(жнучы)*

Дзякую!

Л у к а ш о в а   м а ц і

Лукашка,
вязаць пасобіць трэба маладзіцы.
«Памочніца» ж, глядзі, калекай стала.

Лукаш пачынае вязаць снапы.

То жніце, мае дзеткі, я пайду
на полудзень вам кісяльку згатую.

*(Ідзе ў хату.)*

Маўка адышлася да бярозы, прытулілася да яе і скрозь доўгае вецце глядзіць на жнеяў. Кіліна нейкі час заўзята жне, потым разгінаецца, выпростваецца, глядзіць на схіленага над снапамі Лукаша, усміхаецца, у тры шырокія крокі падскоквае да яго і звонка пляскае даланёю па плечуку.

К і л і н а

Хутчэй, хлапец! Паўзеш, як той слімак!
Работнічак мне!

*(Заліваецца смехам.)*

Л у к а ш
*(таксама выпростваецца)*

Быстрая якая!
Не замінай мне лепей — павалю!

К і л і н а
*(кідае серп, бярэцца рукі ў бакі)*

Ану, давай! Пабачым — хто каго!

Лукаш кідаецца да яе, яна перахоплівае ягоныя рукі; яны «мераюцца сілай», упёршыся далонямі ў далоні; нейкі час не могуць

перасіліць адно аднаго, затым Кіліна трохі падаецца назад, натужна смяецца і грае вачыма; Лукаш, разгарачыўшыся, шырока разводзіць ёй рукі і хоча яе пацалаваць, але ў той час, калі ягоныя губы дакранаюцца да яе губ, яна падстаўляе падножку, і ён падае.

К і л і н а
*(стаіць над ім, смеючыся)*

А што? Хто паваліў? Не я цябе?

Л у к а ш
*(устае, цяжка дыхаючы)*

Падножка — не па правілах!

К і л і н а

Няўжо?

У хаце стукнулі дзверы. Кіліна зноў кінулася жаць, а Лукаш вязаць снапы. Хутка загон зацямнеў іржэўнікам і пакрыўся снапамі; некалькі кулёў жыта ляжаць на раскладзеных пярэвяслах, як пераможаныя і яшчэ не звязаныя палонныя.

Л у к а ш о в а   м а ц і
*(з парога сенцаў)*

Хадзеце, жнейкі! Полудзень гатовы.

К і л і н а

Сваё я скончыла, ды вось Лукаш
усё ніяк не ўправіцца.

Л у к а ш

Я зараз.

Л у к а ш о в а   м а ц і

Ну, то канчай. Кіліначка, хадзеце!

Кіліна ідзе ў хату. Дзверы зачыняюцца. М а ў к а   выходзіць з-пад бярозы.

Л у к а ш
*(трохі збянтэжыўся, убачыўшы яе, але тут жа супакоіўся)*

А, гэта ты? Вось давяжы снапы,
а я пайду.

М а ў к а

Я не магу вязаць.

Л у к а ш

Ну, то чаго тады ты тут віжуеш,
калі не хочаш памагчы?

*(Вяжа сам.)*

М а ў к а

Лукашка,
жанчына гэта хай больш не прыходзіць, —
я не люблю яе — яна хітрэй
за выдру.

Л у к а ш

Ты ж яе не знаеш.

М а ў к а

Не, знаю! Чула смех яе і голас.

Лукаш

Го, мала гэтага!

Маўка

Ды не, даволі!
Яна драпежная, нібыта рысь.

Лукаш

Яшчэ што!

Маўка

Хай да нас яна не ходзіць.

Лукаш
*(выпрастаўся)*

А ты хіба лясной царыцай стала,
каб вырашаць, хто можа ў лес хадзіць,
хто не?

Маўка
*(сумна, з пагрозаю)*

У лесе ёсць такія ямы,
пакрытыя ламаччам, бураломам, —
ні чалавек, ні звер іх не заўважыць,
аж покуль не ўпадзе…

Лукаш

Яшчэ гаворыць
пра хітрасць, пра драпежніцтва, — маўчала б!
Я бачу, што не знаў тваёй натуры!

М а ў к а

Я, можа, і сама яе не знала…

Л у к а ш

Дык вось жа слухай: калі я павінен
пытацца кожны раз твайго дазволу —
каму, калі прыйсці ка мне у госці,
то лепш у вёску з лесу зноў я з’еду.
Там, між людзей, як-небудзь пражыву,
Тут у цябе, нібыта ліс у пастцы,
сядзець не стану.

М а ў к а

Пастак на цябе
я не стаўляла. Ты прыйшоў самохаць.

Л у к а ш

Самохаць і пайду, як захачу,
ніхто нічым мяне тут не прывяжа.

М а ў к а

Ці ж я цябе калі вязаць хацела?

Л у к а ш

Ну, то даволі языком мянціць!

Давязаў апошні сноп і, не гледзячы на Маўку, пайшоў у хату. Маўка села ў баразне пад іржэўнікам і схілілася ў самотным одуме.

Д з я д з ь к а   Л е ў
*(выходзіць з-за хаты)*

Чаго ты зажурылася, нябожа?

М а ў к а
*(ціха, сумна)*

Мінае лета, дзядзечка…

Д з я д з ь к а   Л е ў

Вядома,
не соладка табе. Ды мне здаецца,
што й без вярбы ты ўзімку абышлася б.

М а ў к а

А дзе ж мне прытуліцца?

Д з я д з ь к а   Л е ў

Як па мне,
то не зацесная з табой і хата…
Ды у сястры такая ўжо натура,
што з ёй не згаварыцца… Я ўжо браўся
і так, і гэтак… Калі б гэта я
быў тут гаспадаром, то й не пытаўся б;
а то аддаў ім і зямлю і хату,
дык воля не мая. Я сам пайду
зімой у вёску, у сваю гасподу…
Калі б прыжыцца ў вёсцы ты магла,
то я б цябе прыняў.

М а ў к а

Не, не магу я…
Калі б магла, пайшла б. Вы, дзядзька, добры.

Д з я д з ь к а  Л е ў

Хлеб, дзеткі, добры, а не чалавек.
Але пароду вашую лясную
я ўпадабаў. І калі смерць надыдзе,
нібыта звер, у лес прывалакуся, —
пад дубам гэтым хай і пахаваюць…
Гэй, дубе, ці тады яшчэ стаяцьмеш,
як звяне галава мая сівая?..
Ды дзе там! Не такія велiканы
і тыя не ўстаялі… Зеляней жа
хоць да марозу, кучаравы дружа,
а там… ці дасць Бог прычакаць вясны?..

*(Стаіць, сумна абаперышыся на кій.)*

Маўка паволі выбірае прывялыя кветкі з пажатага жыта і складае іх у пучок. З хаты выходзяць Л у к а ш о в а  м а ц і, К і л і н а і  Л у к а ш.

Л у к а ш о в а  м а ц і
*(да Кіліны)*

Чаго спяшаецеся так? Пабудзьце!

К і л і н а

Ой, дзякуй, цётачка, я ўжо пайду.
Не ранняя гадзіна, — я баюся.

Л у к а ш о в а  м а ц і

Лукашка, ты правёў бы.

Л у к а ш

Што ж, магу.

К і л і н а
*(пазірае на яго)*

Ды, можа, ёсць работа…

Л у к а ш о в а   м а ц і

Ат, работа
ў лес не ўцячэ! Ідзі, сынок, ідзі!
Ды правядзі Кіліну да дарогі.
Адной увечары у лесе страшна,
ды йшчэ такой харошай маладзіцы, —
каб не напаў хто!

К і л і н а

Цётачка, дальбог,
мяне цяпер зусім вы запужалі!
Хадзем, Лукаш, пакуль не звечарэла,
а то і ўдвух баяцца будзем!

Л у к а ш

Я?
Збаюся ў лесе? Ого-го! Дажджэшся!

Л у к а ш о в а   м а ц і

Ён у мяне сапраўдны малайчына,
вы ўжо, Кілінка, так яго не ганьце.

К і л і н а

Не, я пажартавала…

*(Заўважае Льва.)*

О! І дзядзька!
То вы ўжо дома?

Дзядзька Леў
*(робіць выгляд, што недачувае)*

Га? Ідзіце з Богам!

*(Ідзе ў лес.)*

Кіліна

Ну, дык бывайце, цётачка, здаровы!

Хоча пацалаваць старую ў руку, тая не даецца, выцірае рот фартухом і тройчы «з цырымоніяй» цалуецца з Кілінаю.

*(Ужо на хаду.)*

Бывайце здаровы, жывіце багата!

Лукашова маці

А вы не мінайце нашае хаты!

*(Ідзе ў хату і запірае за сабою дзверы.)*

Маўка ўстае і ціхаю, усе роўна як стомленаю хадою крочыць да возера, сядае на пахілую вярбу, апускае галаву на рукі і нягучна плача. Пачынае накрапваць дробны дождж, густою сеткаю засцілае паляну, хату і гай.

Русалка
*(падплывае да берага і ўглядаецца ў Маўку, здзіўлена і зацікаўлена)*

Ты плачаш, Маўка?

М а ў к а

Хіба ты ніколі
не плакала, Русалачка?

Р у с а л к а

О, я!
Калі заплачу на якую хвілю,
то мусіць нехта рагатаць да смерці!

М а ў к а

Русалка! Ты ніколі не кахала…

Р у с а л к а

Я не кахала? Гэта ты забыла,
што за яно, сапраўднае каханне!
Каханне — як вада на быстрыні:
імкне, нясе, іграе, лашчыць, топіць.
Дзе жарсць — яно кіпіць, а стрэне холад—
закамянее. Вось маё каханне!
А што тваё? — З душою саламянай
нягеглае дзіця. Ад ветру гнецца,
пад ногі сцелецца. Іскру спаткае —
згарыць пакорліва, пасля сябе
пакіне толькі прысак, толькі попел.
Калі ж яго зняважаць і пакінуць,
яно ляжыць і кісне, як салома,
ў вадзе халоднай горычы дарэмнай,
пад пакаяльным спозненым дажджом.

М а ў к а
*(падымае галаву)*

Пад пакаяльным? Ты спытай бярозу,
ці каецца яна за тыя ночы,
калі вясновы вецер расплятаў
яе касу?

Р у с а л к а

Чаго ж яна сумуе?

М а ў к а

Што любага свайго абняць не можа,
навекі прытуліць ласкавым голлем.

Р у с а л к а

Чаму?

М а ў к а

Бо любы той — вясновы вецер.

Р у с а л к а

Чаму ж яна такога пакахала?

М а ў к а

Бо ён пяшчотны быў, юнак вясновы,
спяваючы, ёй развінаў лісточкі,
мілуючы, ёй расплятаў вяночак,
пястуючы, крапіў расой касу…
Ён быў што трэба, той вясновы вецер,
ды іншага яна б не пакахала.

Р у с а л к а

Ну, то цяпер жалобу хай апусціць
да самае зямлі, бо як ты вецер
абняць здалееш — ён узнік і знік?!

*(Ціха, без усплёску, адплывае ад берага і знікае ў возеры.)*

Маўка зноўку пахілілася, доўгія чорныя косы ўпалі да зямлі. Уздымаецца вецер і гоніць сівыя хмары, а разам з імі чорныя ключы птушак, што адлятаюць у вырай. Потым ад моцнага парыву ветру дажджавыя хмары расступаюцца і відаць лес — ужо ў ядвабным асеннім уборы на фоне густа-сіняга вечаровага неба.

М а ў к а
*(ціха, з глыбокай журбою)*

Так… знік ён… назусім…

Л е с а в і к выходзіць з гушчару. Ён у доўгай мантыі колеру старога золата з цёмна-чырвонаю паласою ўнізе, шапка абвіта галінкай даспелага хмелю.

Л е с а в і к

Дачушка! Доня!
Як цяжка ты караешся за здраду!..

М а ў к а
*(падымае галаву)*

Каму я здрадзіла?

Л е с а в і к

Самой сабе.
Пакінула густыя вершаліны,
спусцілася на вузкія сцяжынкі.

Ты на каго падобная? На служку,
на парабчанку, што нялёгкай працай
акрайчык шчасця зарабіць хацела
і не змагла, і толькі горкі сорам
ёй не дае жабрачкаю зрабіцца.
Згадай, якой была ты ў тую ноч,
калі тваё каханне расквітнела:
была сапраўднаю лясной царэўнай
у зоркавым вянку на цёмных косах, —
самое шчасце рукі прасцірала,
тады к табе і зносіла дары!

М а ў к а

Дык што ж рабіць мне, калі болей зоркі
ані ў вянку не свецяцца, ні ў сэрцы?

Л е с а в і к

Яшчэ не ўсе вянкі твае завялі.
Ты азірніся, паглядзі на свята!
Плашч залаты прымераў ясень-князь,
рубінавыя пацеркі — шыпшына.
Каліна, што табе дарыла кветкі,
дзе салавей вясну кахання славіў,
свой белы вэлюм на пурпур змяніла.
Бяроза сумная, вярба старая —
і тыя кармазынна зазіхцелі
на свяце восені. А толькі ты
жабрачае рыззё не хочаш скінуць,
бо ты, відаць, забыла запавет:
туга красы адолець не павінна.

М а ў к а
*(парывіста ўстае)*

То дай, дзядуля, мне убор святочны!
Я закрасуюся лясной царэўнай,
і шчасце зноў спадзе да ног маіх,
і літасці ў мяне папросіць!

Л е с а в і к

Доня,
даўно гатовы строі для царэўны,
але яна забавілася дзесьці,
адзеўшыся для жарту пад жабрачку.

Расхінае сваю мантыю і дастае прыхаваную пад ёй шыкоўную, золатам расшытую багранiцу і срэбную вуаль; накiдае багранiцу на Маўку паверх адзення; Маўка iдзе да калiны, хутка ламае чырвоныя гронкi ягад, звiвае вянок, распускае косы, упрыгожваецца вянком i схiляецца перад Лесавiком, — ён надзявае ёй на галаву срэбную вуаль.

Цяпер я за цябе ўжо не баюся.

*(Паважна кіўнуўшы ёй галавою, шпарка ідзе ў гушчар і знікае.)*

З лесу выбягае П е р а л е с н і к.

М а ў к а

Зноў ты?

*(Наважваецца ўцякаць.)*

П е р а л е с н і к
*(зняважліва)*

Не бойся, не к табе. Хацеў
праведаць я Русалачку, што ў жыце,
ды бачу, што яна заснула. Эх, шкада!..
Змарнела нешта ты…

М а ў к а
*(горда)*

Табе здаецца!

П е р а л е с н і к

Здаецца, кажаш? Дай я прыгляджуся.

*(Падыходзіць да яе, Маўка адступае.)*

Чаго ты так старонішся? Я знаю,
што ты заручана — не зачаплю.

М а ў к а

Прэч! не блазнуй!

П е р а л е с н і к

Ды не сярдуй ты, — што ж,
калі я памыліўся… Слухай, Маўка,
давай пабратаемся.

М а ў к а

Мы з табою?

Пе р а л е с ні к

Чаму б і не? Глядзі, цяпер жа восень,
цяпер пахаладзела нават сонца,
і ў нас астыла кроў. А мы ж з табою
калісь былі таварышы, а потым
дружылі ці кахаліся — хто знае? —
цяпер пабратацца пара. Руку дай!

Маўка нерашуча падае яму руку.

Дазволь пакласці братні пацалунак
на бледны тварык твой.

*(Маўка адхіляецца, ён усё-такі яе цалуе.)*

О, кветы, кветы
на тварыку адразу зацвілі! —
цнатлівыя, асеннія, без паху…

*(Не выпускаючы яе рукі, аглядае паляну.)*

Зірні, як там лятае павуцінне,
віруе й карагодзіць у паветры…
вось так і мы…

*(Раптам пачынае кружыць яе ў танцы.)*

Гэтак і мы,
кінемся, рынемся
ў танец і мы!
Зоры зарністыя,
іскры іскрыстыя,
вогнішчы чыстыя і прамяністыя —
тое, што ззяе,
спакою не знае,
ўсё віратлівага руху жадае!

Гэтак і я…
Гэтак і я…
Будзь жа іскрою, каханка мая!

Хутка віруе танец. Срэбная вуаль на Маўцы бліскучаю змейкай узляцела ўгору, чорныя косы расплялiся і сплялiся з вогненнымі кучарамі Пералесніка.

М а ў к а

Годзе ўжо!.. годзе!..

П е р а л е с н і к

У згодзе, лагодзе
будзем, каханая, дружна кружыць!
Шчасце — то здрада,
будзь таму рада, —
тым яно й міла, што вечна ляціць!

Танец робіцца шалёным.

Скружымся!
Здружымся!
Віхрам закружымся!
Будзьма!
Здабудзьма
агністага раю!

М а ў к а

Годзе!.. пусці мяне… Млею… ўміраю…

Галава яе падае яму на плячо, рукі апускаюцца, ён нясе яе ў танцы, самлелую. Раптам з-пад зямлі з’яўляецца цёмны, вялізны, страшэнны П р ы в і д.

П р ы в і д

Аддай ты мне маё. Пусці яе.

Пералеснік спыняецца і выпускае Маўку з рук, яна аслабела апускаецца на траву.

П е р а л е с н і к

Хто ты такі?

П р ы в і д

Ці ж ты мяне не знаеш? —
«Той, што ў скале сядзіць».

Пералеснік уздрыгнуў, вокамгненна кінуўся прэч і знік у лесе. Маўка ачнулася, шырока расплюшчыла вочы і з жахам глядзіць на Прывіда, які працягвае рукі, каб узяць яе.

М а ў к а

Не, не хачу я!
Я не хачу к табе! Я… я жывая!

« Т о й ,  ш т о  ў  с к а л е  с я д з і ц ь »

Я павяду цябе ў далёкі край,
нязнаны край, дзе цёмныя азёры
спакойна спяць, як вочы мерцвякоў,
прымоўкла скалы там стаяць над імі
нямымі сведкамі падзей мінулых.
Спакойна там: ні дрэва і ні зёлка
не шалахнуцца, не навеюць мар,
здрадлівых мар, што сон з вачэй зганяюць;
пра волю песняў вецер не заносіць
туды; агонь сляпуча-ненажэрны
там не гарыць; кінжалы бліскавіцаў

аб скалы крышацца й ніяк не могуць
прабіцца ў замак цемры і спакою.
Цябе вазьму я. Там ты быць павінна:
бляднееш ад агню, ад руху млееш,
ты нежывая, тваё шчасце — цень.

М а ў к а
*(устае)*

Не! я жывая! Буду жыць я вечна!
Бо ў сэрцы маю, што не памірае.

П р ы в і д

Адкуль ты ведаеш?

М а ў к а

Адтуль, што муку
сваю люблю і ёй даю жыццё.
Калі б магла я толькі захацець
яе забыць, тады б пайшла з табою,
ды ад мяне ніколі і нікому
не прычакаць жаданне забыцця.

У лесе чуецца тупат чалавечых ног.

Вось той ідзе, што даў мне тую муку!
Згінь, Прывід, згінь! Ідзе мая надзея!

«Той, што ў скале сядзіць» адступае ў цёмны гушчар і там прытойваецца. З лесу выходзіць Л у к а ш. Маўка ідзе насустрач Лукашу. Твар яе смяртэльна бялеецца на фоне ядвабнага адзення, канаючая надзея расшырыла яе вялікія цёмныя вочы, рухі яе парывістыя і аслабелыя, быццам нешта ў ёй абрываецца.

Л у к а ш
*(убачыўшы яе)*

Якая страшная! Чаго ты хочаш?

Спяшаецца да хаты, стукае ў дзверы, маці адчыняе, не выходзячы.

*(Да маці на парозе.)*

Хутчэй рыхтуйце, мама, хлеб сватам, —
іду я заўтра ў сваты да Кіліны!

*(Ідзе ў хату, дзверы зачыняюцца.)*

«Т о й, ш т о ў с к а л е с я д з і ц ь» выходзіць і набліжаецца да Маўкі.

М а ў к а
*(зрывае з сябе багравіцу)*

Бяры мяне! Хачу я забыцця!

«Той, што ў скале сядзіць» дакранаецца да Маўкі; яна, ускрыкнуўшы, падае яму на рукі, ён накідае на яе сваю чорную мантыю. Абое правальваюцца скрозь зямлю.

## Дзея III

Хмарная, ветраная асенняя ноч. Апошні жоўты водбліск месяца гасне ў хаосе голых вершалінаў. Стогнуць пугачы, рагочуць совы, назойліва крычаць сычы. Раптам усё пакрываецца працяжным сумным ваўчыным выццём, якое разлягаецца ўсё мацней, мацней і ўраз абрываецца. Наступае цішыня.

Пачынаецца хворы досвітак позняе восені. Бязлісты лес ледзьве шарэе на попельным небе чорнаю шчацінаю, а долу на ўзлессі снуецца разбэрсаны туман. Лукашова хата пачынае святлець сценамі; пры адной сцяне чарнее нейкая постаць, што зняможана прысланілася да дзвярнога шула, у ёй ледзьве можна пазнаць М а ў к у; яна ў чорным адзенні, у шэрай непразрыстай вуалі, толькі на грудзях красуецца маленькая калінавая гронка.

Калі развідняецца, на паляне становяцца бачнымі вялікі пень, там, дзе стаяў калісьці стагадовы дуб, а недалёка ад яго — нядаўна насыпаная, яшчэ не парослая мурагом магіла. З лесу выходзіць Л е с а в і к у шэрай світцы і ў шапцы з ваўчынай шкуры.

Л е с а в і к
*(прыглядаючыся да постаці пад хатаю)*

Ты, донечка?

М а ў к а
*(крыху набліжаецца да яго)*

Так, я.

Л е с а в і к

Няўжо пусціў
цябе назад «Той, што ў скале сядзіць»?

М а ў к а

Ты вызваліў мяне сваім злачынствам.

Л е с а в і к

Злачынствам помсту ты назваць пасмела,
і помсту справядлівую, якую
твайму каханку я ўчыніў за здраду?
Хіба ж не справядліва, што адчуў ён
адчай нялюдскі горкае самоты,
блукаючы у вобліку ваўчыным?
Вось так! Цяпер ён ваўкалака дзікі!
Няхай скавыча, хай галосіць, вые,
хай прагне чалавечае крыві, —
злой мукі не ўталіць яму!

М а ў к а

А ты
не радуйся, бо я яго ўратую.
У сэрцы я знайшла такое слова,
што й азвярэлых робіць зноў людзьмі.

Л е с а в і к
*(тупае са злосці нагою і ламае з трэскам свой кій)*

Дачкою лесу ты не варта звацца!
Бо дух твой не свабодны лесавы,
а хатні рабскі!

М а ў к а

О, калі б ты знаў,
калі б ты знаў, як страшна мне было…
Я спала сном каменным у пячоры,
глыбокай, чорнай, мокрай і халоднай,
калі зыначаны прабіўся голас
скрозь скалы непрыступныя, й выццё
працяжна, сумна, дзіка разляглося

па цёмных, мёртвых водах і збудзіла
даўно памерлае між скалаў рэха…
І я прачнулася. Агнём падземным
мой палкі жаль скрышыў пячорны склеп,
і зноў на свет я вырвалася. Слова
мае нямыя вусны ажывіла,
і здарылася дзіва… Я спазнала,
што забыццё не суджана мне больш.

Л е с а в і к

Дзе ж ён цяпер? Чаму ён не з табою?
Мо неўміручая яго няўдзячнасць,
як і тваё каханне?

М а ў к а

Ой, дзядуля!
калі б ты бачыў!.. Нібы сцяты ясень,
у вобліку людскім упаў да ног…
І з долу ўгору на мяне узвёў ён
такі балючы погляд, поўны жалю,
раскаяннем працяты, без надзеі!..
Глядзець так можа толькі чалавек!..
Я шчэ й апамятацца не паспела,
як ён на ногі ўскочыў, ад мяне
дрыжачымі рукамі засланіўся
і кінуўся, не кажучы ні слова,
у яр цярновы, там і знік з вачэй.

Л е с а в і к

І што ж рабіць ты думаеш цяпер?

М а ў к а

Не знаю… Я цяпер, як цень, блукаю
ля гэтай хаты. Я не маю сілы
яе пакінуць, бо я сэрцам чую —
ён вернецца сюды…

Лесавік моўчкі журботна ківае галавою. Маўка зноў прысланяецца да сцяны.

Л е с а в і к

Мая ты дзетка!
Чаго пайшла ад нас у край пануры?
Няўжо няма спачынку ў гаі родным?
Глядзі: твая вярба цябе чакае,
яна даўно паслала табе ложа
і журыцца, што ты ўсё не ідзеш.
Ідзі, спачні.

М а ў к а
*(ціха)*

Я не магу, дзядуля.

Лесавік, моцна ўздыхнуўшы, памалу падаўся ў лес. У лесе чуецца вар'яцкі тупат, быццам хтосьці стрымгалоў імчыцца на кані, потым спыняецца.

К у ц
*(выскаквае з-за хаты, паціраючы рукі, і спыняецца, убачыўшы Маўку)*

Ты, Маўка, тут?

М а ў к а

Табе чаго тут трэба?

К у ц

Я ім каня прыцёг за грыву ў стайню.
Ну й павазіў мяне ён напаследак,
цяпер нікога больш не павязе!

М а ў к а

Ты, ненавісны, зноўку зганьбіў лес!
Трымаеш так ты ўмову з дзядзькам Львом?

К у ц

Памерла наша ўмова разам з ім!

М а ў к а

Як? Дзядзька Леў памёр?

К у ц

Вунь і магіла.
Пад дубам пахавалі, а прыйшлося
старому спачываць паблізу пня.

М а ў к а

Абодва паляглі… Ён прадчуваў,
што сёлета яму не зімаваць…

*(Падыходзіць да магілы.)*

О, як жа плача сэрца па табе,
адзіны дружа мой! Калі б магла я
слязой жывучай арасіць магілу
і ўзгадаваць барвінак неўміручы!
Ды ўбогаю цяпер я надта стала,
мой жаль спадае, нібы мёртвы ліст…

К у ц

Мне смутак не да твару, а ўсё ж мушу
прызнацца я, шкада і мне старога,
бо ён умеў цудоўна з намі ладзіць.
Бывала, чорнага казла трымаў
пры конях, каб было на чым мне ездзіць.
Бывала, я маланкай — на казле,
а конікі стаяць сабе у стайні.
А бабы дык зусім не ўмеюць жыць
у згодзе з намі — прадалі казла,
дуб зрэзалі. Парушылі умову.
Ну ж адплаціў я ім! Найлепшых коней
насмерць заездзіў; купяць — зноў заезджу.
Яшчэ і ведзьму, павітуху д'ябла,
нядаўна упрасіў, каб ім каровы
дарэшты папсавала. Ведай нашых!
І Вадзянік стагі ім прамачыў,
а Пацярчаты збожжа пагнаілі.
Дасюль іх Ліхаманка б'е за тое,
што возера канаплямі сапсулі.
Не будзе ім дабра цяпер у лесе!
Ужо і Злыдні каля хаты шараць.

Малыя, замораныя істоты — З л ы д н і — у лахманах, з выразам вечнага, пакутлівага голаду, з'яўляюцца з-за хатняга кута.

З л ы д н і

Мы тут! А хто нас кліча?

М а ў к а
*(кідаецца да дзвярэй ім напярэймы)*

Прэч! Знікайце!
Ніхто не клікаў вас!

А д з і н  З л ы д з е н ь

Зляцела слова, —
назад не вернецца.

З л ы д н і
*(абсядаюць парог)*

Мы згаладнелі,
хутчэй бы дзверы ў хату адчынілі!

М а ў к а

Я не пушчу туды!

З л ы д н і

То дай нам есці!

М а ў к а
*(з жахам)*

Нічога я не маю…

З л ы д н і

Дай каліну,
вунь тую, што ля сэрца носіш! Дай!

М а ў к а

Дык гэта ж кроў мая!

З л ы д н і

Мы любім кроў!

Адзін Злыдзень кідаецца ёй на грудзі, смокча каліну, іншыя тузаюць яго, каб і самім пакаштаваць, грызуцца між сабою і гыркаюць, як сабакі.

К у ц

Гэй, Злыдні, прэч! — яна ж не чалавек.

Злыдні спыняюцца, ляскаюць зубамі і свішчуць ад голаду.

З л ы д н і
*(да Куца)*

Дык дай нам есці, бо й цябе з’ямо!

Кідаюцца да Куца, той адскоквае.

К у ц

Ну-ну, асцеражней!

З л ы д н і

Дык дай нам есці!

К у ц

Чакайце, зараз баб я разбуджу,
вам будзе ежа, ну а мне забава.

*(Бярэ камяк зямлі, кідае ў акно і разбівае шыбу.)*

Л у к а ш о в а  м а ц і
*(у хаце)*

Ой! Што за насланнё нячыстай сілы!

К у ц
*(да Злыдняў шэптам)*

Вось бачыце — прачнулася. Няйначай,
пакліча вас. Цяпер сядзіце ціха,
а то старая так вас пракляне!
Угоніць у зямлю — яна умее.

Злыдні скурчваюцца пад парогам цёмнай кучай. З хаты скрозь разбітую шыбіну чуваць, як устае маці, потым яе голас, а затым і голас Кіліны.

Л у к а ш о в а м а ц і

Світае ўжо, а гэта спіць і спіць.
Кіліна! Гэй, Кіліна! Ну і спіць жа!
Каб ты навек заснула!.. Уставай,
каб ты зусім не ўстала!

Г о л а с К і л і н ы
*(заспаны)*

Ды чаго там?

Л у к а ш о в а м а ц і
*(з'едліва)*

Даўно пара табе даіць карову,
пародзістую, турскага заводу,
што са сваім нябожчыкам прыдбала.

К і л і н а
*(ужо прачнуўшыся)*

Я лепей падаю, што тут застала,
ды нацаджу тры кроплі малака —
фунт масла будзе…

Л у к а ш о в а   м а ц і

Вось жа не змаўчыць!
Хто ж вінен, што надою ў нас не стала?
З такою гаспадыняю… Ой, гора!
Ну ўжо нявестачка! І дзе ўзялася
на нашу галаву?

К і л і н а

А хто прасіў
у сваты ехаць да мяне? Вы ж мелі
задрыпанку тут нейкую, — няхай бы
тут прынялі яе, адзелі добра, —
вось і была б нявестачка па сэрцы!

Л у к а ш о в а   м а ц і

А, думаеш, і не? Была б, канечне!
Дурны Лукаш, што замяніў табою;
была яна такой слухмянай, добрай,
хоць прыкладай да раны… Называеш
яе задрыпанкаю, а сама
зялёную сукенку перашыла,
яе сукенку, дый дагэтуль носіш!

К і л і н а

Ды ўжо ж, у вас тут новае што справіш!..
Вунь мужа зноўку недзе вецер носіць,
а ты гаруй з праклятаю свякрухай, —
ні жонка, ні ўдава, — адкідак нейкі!

Лукашова маці

Які б мужык з табою тут уседзеў?
Адна бяда! Што ў нас было — пажэрла
з сваімі дзецьмі, — вунь наўкруг паселі!—
няхай бы вас усіх абселі злыдні!

Кіліна

Няхай таго абсядуць, хто іх кліча!

Пры гэтых словах адчыняе дзверы з хаты. Куц уцякае ў балота. Злыдні падхопліваюцца і ўскокваюць у сені. Кіліна з вядром у руках хутка бяжыць да лясной крыніцы, з грукатам набірае вады і вяртаецца назад ужо крыху цішэйшаю хадою. Заўважае каля дзвярэй Маўку, якая стаіць знясіленая ля сцяны, апусціўшы на твар шэрую вуаль.

*(Спыняецца і ставіць вядро на зямлю.)*

А гэта што?.. Гэй, слухай, ты п’яная
ці, можа, змерзла?

*(Тармосіць Маўку за плячо.)*

Маўка
*(цераз сілу, нібы змагаючыся з цяжкою змораю)*

Сон мяне змагае…
Зімовы сон…

Кіліна
*(адсланяе яе твар і пазнае)*

Чаго сюды прыйшла?
Табе не заплацілі за работу?

М а ў к а
*(як і раней)*

Мне аніхто не зможа заплаціць.

К і л і н а

Ты да каго прыйшла? Яго няма тут.
Я знаю, да яго прыйшла! Прызнайся —
ён твой каханак?

М а ў к а
*(гэтаксама)*

Калісь быў ранак
вясёлы, ясны, не той, што цяпер…
ды ён ужо змер…

К і л і н а

Ты звар'яцела!

М а ў к а
*(гэтаксама)*

Я волі хацела…
Сунецца хмарка па небе нясмела…
сумнай, ёй нельга нідзе прыпыніцца…
Дзе ж ты, о дзе, бліскавіца?

К і л і н а
*(тузае яе за руку)*

Прэч! Не дуры мяне! Чаго стаіш?

М а ў к а
*(апрытомнеўшы, адступае да дзвярэй)*

Стаю і гляджу, як жывеце шчасліва.

К і л і н а

А каб ты стаяла ў цудзе ды ў дзіве!

Маўка ператвараецца раптам у вярбу з сухою лістотаю і плакучым голлем.

К і л і н а
*(апамятаўшыся ад здзіўлення, варожа)*

Дальбог! Я ў добры час табе сказала!
Ну-ну, цяпер нядоўга настаішся!..

Х л о п ч ы к
*(выбягае з хаты, да Кіліны)*

Ой, мама, дзе вы? Мы ўжо есці хочам,
а баба не даюць!

К і л і н а

Ай, адчапіся!

*(Ціўком, нахіліўшыся да яго.)*

Я там пад печкаю пірог схавала, —
як баба выйдзе ўварыўню, — паешце.

Х л о п ч ы к

Вярбу сухую вы тут пасадзілі?
Нашто яна?

К і л і н а

А ты ўсё хочаш ведаць!

Х л о п ч ы к

Жалейку я зраблю з яе.

К і л і н а

Як хочаш!

Хлопчык выразае з вярбы галіну і вяртаецца ў хату. З лесу выходзіць Л у к а ш, худы, з доўгімі валасамі, без світкі, без шапкі.

К і л і н а
*(ускрыквае радасна, убачыўшы яго, але тут жа наліваецца злосцю)*

З’явіўся ўсё-ткі! Дзе цябе насіла
так доўга?

Л у к а ш

Не пытай!

К і л і н а

Шчэ й не пытай!
Цягаўся, валацуга, ліха знае
дзе, калі і з кім — і не пытай!
Ой, дарагі, не трэба мне й пытацца…
Я знаю, недзе ёсць карчма, дзе й сёння яшчэ
балююць твая світка з шапкай.

Л у к а ш

Не да карчмы мне…

К і л і н а

Хто, дурны, паверыць!

*(Пачынае галасіць.)*

Галаваньку навекі я згубіла
за тым прапойцам!

Л у к а ш

Не скуголь! Маўчы!

Кіліна перастае, глянуўшы на яго з пострахам.

Вось зараз у цябе я запытаю!
Дзе дзядзькаў дуб, што пень адзін тырчыць?

К і л і н а
*(спачатку разгубілася, але хутка ачомалася)*

А што, нам з галадухі паміраць?
Прыйшлі купцы, купілі, вось і ўсё.
Вялікае там шчасце — дуб!

Л у к а ш

Ды дзядзька ж
закляўся не сячы.

К і л і н а

А дзядзькі Льва
няма на свеце, што з таго закляцця!
Ці гэта ты пакляўся або я?
Па мне, то лес увесь я прадала б
або хаця б расцерабіла, поля
няма зусім у той чартоўскай пушчы.

Ды тут як вечар — вытыркнуцца страшна!
І што нам з таго лесу за дабро!
Бадзяемся па ім, як ваўкалакі,
нядоўга й ваўкалакамі завыць!

Л у к а ш

Цыц! цыц! не гавары! Маўчы!

*(У ягоным голасе чуецца вар'яцкі жах.)*

Ты кажаш
прадаць наш лес… ссячы… а ўжо тады
не будзе так… як ты сказала?

К і л і н а

Як?
Што воўк…

Л у к а ш
*(заціскае ёй рот)*

Не, не кажы!

К і л і н а
*(вызваліўшыся ад яго)*

Пабойся Бога!
Ты ўпіўся, ці здурэў, ці хто сурочыў?
Ідзі у хату.

Л у к а ш

Зараз… я пайду…
вось толькі… толькі… я вады нап'юся!

*(Становіцца наўколенцы і нагбом п'е ваду з вядра. Потым устае і глядзіць задуменна перад сабою, не рухаючыся з месца.)*

К і л і н а

Ну? Што ты думаеш?

Л у к а ш

Я? Так… не знаю…

*(Вагаючыся.)*

Ці без мяне тут хто не быў?

К і л і н а
*(жорстка)*

Ды хто
тут меўся быць?

Л у к а ш
*(апусціўшы вочы)*

Не знаю…

К і л і н а
*(злосна ўсміхнуўшыся)*

Ты не знаеш,
то, можа, я што знаю?

Л у к а ш
*(трывожна)*

Ты?

К і л і н а

А што ж!
Я ведаю, каго ты ўсё чакаеш,
але дарма! — шкада твайго чакання!
Як што й было, то ўжо ў камель пайшло…

Л у к а ш

Ты што?

К і л і н а

А тое, што ты чуеш.

Л у к а ш о в а  м а ц і  выбягае з хаты і кідаецца ў абдымкі да Лукаша. Ён холадна прымае тое прывітанне.

Л у к а ш о в а  м а ц і

Сыне!..
Сыночак мой! Ну й хапанула гора
я з гэтай ведзьмаю!

Л у к а ш
*(уздрыгнуўшы)*

З якой?

Л у к а ш о в а  м а ц і
*(паказвае на Кіліну)*

Ды з гэтай!

Л у к а ш
*(зняважліва ўсміхаючыся)*

І гэта ведзьма ўжо? Відаць, ваш лёс —
вядзьмарскаю свякрухай заставацца.
Дык хто ж вам вінен? Вы ж яе хацелі.

Л у к а ш о в а  м а ц і

Калі б я знала, што яна такая
няхлюйка, неахайніца!..

К і л і н а
*(умешваецца ў гаворку)*

Ой, гора!
Хто б гаварыў! Такой нячыстай сілы,
такой брыды, як ты, не бачыў свет!
Ну ўжо ж і маці у цябе, Лукашка! —
жалеза дай — перагрызе!

Л у к а ш

А ты
мацнейшая, я бачу, за жалеза.

К і л і н а

Чакай ад дурня-мужа абароны!
Якая маці, гэтакі і сын!
Якога ж ліха браў мяне? Хіба, каб
з мяне вілі вяроўкі?

Л у к а ш о в а   м а ц і
*(да Лукаша)*

Дык няўжо ж ты
не скажаш прыкусіць язык ёй? Болей
я кпінаў ейных знесці не магу!

Л у к а ш

Ды дайце мне вы хоць крыху спакою!
Вы хочаце, каб я не толькі з хаты,
а з свету прэч сышоў? Дальбог, сыду!

К і л і н а
*(да маці)*

А што, прыждала?

Л у к а ш о в а   м а ц і

Каб ты так прыждала
ад свайго сына!

Разлютаваная ідзе да хаты, на парозе сустракаецца з Кіліным сынам, які выбягае з жалейкаю ў руках.

Адступіся, злыдзень!

*(Штурхае хлопца і заходзіць у хату, грукнуўшы дзвярыма.)*

Х л о п ч ы к

Вы ўжо прыйшлі, татуля?

Л у к а ш

Так, сынуля.

*(На слове «сынуля» робіць іранічны націск.)*

К і л і н а
*(пакрыўджана)*

Ну, то скажы яму, як зваць павінен, —
не дзядзькам жа!

Л у к а ш
*(трохі прысаромлены)*

Ды я ж нічога…
Хадзі, хадзі сюды, малы, не бойся.

*(Гладзіць хлопца па белай галоўцы.)*

Ты сам зрабіў жалейку гэту?

Х л о п ч ы к

Сам.
Ды я іграць не ўмею. Можа, вы?

*(Працягвае Лукашу жалейку.)*

Л у к а ш

Эй, хлопча, мне цяпер не да іграння!..

*(Сумна задумваецца.)*

Х л о п ч ы к
*(хныкае)*

І… вы ізноў не хочаце!.. Ну, мама,
чаму не хочуць тата мне зайграць?

К і л і н а

Яшчэ чаго! Патрэбна тое гранне!

Л у к а ш

А дай сюды жалейку!

*(Бярэ жалейку.)*

Неблагая.
З вярбы зрабіў?

Х л о п ч ы к

Нягож, з вярбы во гэтай.

*(Паказвае на вярбу, у якую ператварылася Маўка.)*

Л у к а ш

Чамусь яе раней я тут не бачыў.

*(Да Кіліны.)*

Ты пасадзіла?

К і л і н а

Чорт яе б садзіў!
Тырчэў пруток вярбовы дый разросся.
Тут як з вады расце — ліюць дажджы!

Х л о п ч ы к
*(капрызліва)*

Чаму вы не іграеце?

Л у к а ш
*(задуменна)*

Зайграць?..

*(Пачынае іграць спачатку ціха, затым гучней; потым пераходзіць на тую вяснянку, якую калісьці іграў Маўцы.)*

Голас жалейкі
*(пачынае прамаўляць словамі)*

«Як соладка грае,
глыбока сягае,
расцінае мае грудзі, сэрцайка вымае…»

Лукаш
*(выпускае з рук жалейку)*

Ой! Голас у жалейкі?!. Чары! Чары!

Хлопчык, напужаўшыся, збег у хату.

Адкуль, кажы, вядзьмарка, тут вярба?

*(Хапае Кіліну за плячо.)*

Кіліна

Ды адчапіся, я і знаць не знаю!
Не цацкаюся з кодлам я лясным
так, як твой род! Ссякай, калі ўжо хочаш,
хіба забараняю? Ня́ сякеру!

*(Дастае яму з сяней сякеру.)*

Лукаш, узяўшы сякеру, падышоў да вярбы, ударыў раз па камлі, яна ўздрыганула і зашалясцела сухою лістотаю. Ён замахнуўся яшчэ раз і апусціў рукі.

Лукаш

Не, рукі не ўздымаюцца чамусьці…
За сэрца нешта сціснула…

К і л і н а

Дай я!

*(Выхоплівае ў Лукаша сякеру і шырока замахваецца на вярбу.)*

У тое імгненне з неба вогненным змеем-метэорам злятае П е р а л е с н і к і абдымае вярбу.

П е р а л е с н і к

Каханая, я вызвалю цябе!

Вярба раптам успыхвае полымем. Дасягнуўшы вершаліны, агонь перакідваецца на хату, саламяная страха займаецца, пажар хутка ахоплівае будыніну. Лукашова маці і Кілініны дзеці выбягаюць з хаты з крыкам: «Гарыць! Гарыць! Ратуйце! Ой, пажар!..» Маці з Кілінаю мітусяцца, выхопліваючы з полымя, што толькі льга выхапіць, і на клунках ды мяшках выносяць скукожаных Злыдняў, якія потым хаваюцца ў тыя самыя мяшкі. Дзеці бегаюць з конаўкамі па ваду, заліваюць агонь, але ён разгараецца яшчэ мацней.

Л у к а ш о в а м а ц і
*(да Лукаша)*

Чаго стаіш? Ратуй сваё дабро!

Л у к а ш
*(утаропіўшы вочы ў страху, якая пакрыта кучаравым агнём, быццам кветам)*

Дабро? А можа, там згарыць і ліха?..

Страха з трэскам абвальваецца, іскры слупам пырскаюць угору, столь правальваецца, і ўся хата становіцца суцэльным вогнішчам. Насоўваецца цяжкая белая хмара і пачынае ісці снег. Хутка праз белую снегавую заслону нічога нельга ўбачыць, толькі рухомая барвовая пляма паказвае на пажар. Потым барвовая пляма згасае, і калі снег радзее, то відаць чорнае пагарэлішча, што дыміць і сіпіць

ад вільгаці. Лукашовай маці і Кіліных дзяцей ды клункаў з дабром ужо не бачна. Скрозь снег вырысоўваюцца абгарэлая пуня, воз ды сёе-тое з сялянскіх прыладаў.

К і л і н а
*(з апошнім клункам у руках, тузае Лукаша за рукаў)*

Лукаш!.. Чаго застыў, нібыта слуп?
Памог бы лепей мне выносіць клункі!

Л у к а ш

Ды ўжо ж вы павыносілі ўсіх злыдняў.

К і л і н а

Язык лепш прыкусі! Што ты чаўпеш?

Л у к а ш
*(смяецца ціхім, дзіўным смехам)*

Я, жонка, бачу, што і ты не бачыш…
Цяпер я мудры стаў…

К і л і н а

Ой, чалавеча,
гаворыш ты такое… я баюся!

Л у к а ш

Чаго баішся? Дурня не зляклася,
а мудрага баішся?

К і л і н а

Ой, Лукашка,
хадзем у вёску!

Л у к а ш

Не, я не пайду!
Я з лесу не пайду. Я буду ў лесе.

К і л і н а

Ды што ж ты тут рабіцьмеш?

Л у к а ш

Хіба трэба
ўвесь час рабіць?

К і л і н а

А як жа жыць мы будзем?

Л у к а ш

А трэба жыць?

К і л і н а

Ды што з табою стала,
ты з глузду, можа, з’ехаў або што?
А, гэта ўжо, напэўна, з перапуду.
Хадзем у вёску, я паклічу бабу, —
пярэпалах трэ выліць!

*(Цягне яго за руку.)*

Л у к а ш
*(глядзіць на яе з бесклапотнай усмешкай)*

А хто ж тут
агаркі гэтыя дагледзець зможа?

*(Паказвае на воз і прылады.)*

К і л і н а
*(гаспадарліва)*

Ой, сапраўды, яшчэ парасцягаюць!
Абы даведаліся, што гарэла,
то з вёскі прыімчацца, жываглоты!
Тады хіба застанься тут, Лукашка.
Я пабягу ды коней папрашу, —
бо нашы ж пагарэлі ўсе у стайні! —
мы ўсё збяром на воз і завязём
мо да радні тваёй, няўжо не пусцяць?!.
Ой, гора! Неяк трэба ратавацца…

Апошнія словы вымаўляе, ужо бегучы ў лес. Лукаш праводзіць яе ціхім смехам. Неўзабаве яна знікае. З лесу выходзіць нейкая высокая жаночая постаць у белай да пятаў кашулі і ў белай, завязанай па-старасвецку, намітцы. Яна ідзе, хістаючыся, быццам ад ветру хіліцца, часам спыняецца і нізка нахіляецца, усё роўна як шукае нешта. Калі падыходзіць бліжэй і спыняецца каля ажынавых кустоў, што растуць непадалёку ад пагарэлішча, то выпростваецца і тады відаць яе змізарнелы твар, падобны да твару Лукаша.

Л у к а ш

Хто ты? Што ты тут робіш?

П о с т а ц ь

Я — няшчасная Доля.
Завяла мяне ў нетры,
спакусіўшы, сваволя.
А цяпер я блукаю,
нібы відма, па гаі,
нізка прыпадаю, сцежачкі шукаю
да мінулага раю.
Ой, ужо ж тая сцежка

белым снегам прыпала…
Ой, ужо ж я ў тых нетрах
назаўсёды прапала!..

Л у к а ш

Ты зламі, мая Доля,
хоць вунь тую ажыну,
каб той снег размесці і па ім правесці
хоць якую сцяжыну!

Д о л я

Ой, калісь напрадвесні
тут па гаі хадзіла,
дзеля метаў па сцежках
дзіва-кветы садзіла.
Ты стаптаў дзіва-кветы
і абцёр імі ногі…
А зімою — не летам, і як без тых метаў
адшукаць мне дарогі?

Л у к а ш

Прагарні, мая Доля,
хоць рукамі далінку,
можа, знойдзеш пад снегам
дзіва-квета сцяблінку.

Д о л я

Схаладзелі ўжо рукі,
пальцы больш не парушу…
Ой, цяпер я плачу, бо ўжо чую й бачу,
што загінуці мушу.

*(Застагнаўшы, адыходзіць.)*

Л у к а ш
*(працягваючы да яе рукі)*

Ой, скажы, дай параду,
як пражыць мне без долі!

Д о л я
*(паказвае на зямлю ў яго пад нагамі)*

Як суком адламаным,
што валяецца ў доле!

*(Ідзе, хістаючыся, і знікае ў завеі.)*

Лукаш нахіляецца над тым месцам, на якое паказала Доля, знаходзіць кінутую ім вярбовую жалейку, бярэ яе ў рукі і ідзе па белай паляне да бярозы. Сядае пад пасінелым ад снегу доўгім голлем і круціць у руках жалейку, часам усміхаючыся, як дзіця. Лёгкая, белая, празрыстая постаць, якая тварам нагадвае Маўку, з'яўляецца з-за бярозы і нахіляецца над Лукашом.

П о с т а ц ь  М а ў к і

Зайграй, зайграй, дай голас майму сэрцу.
Яно адно ў мяне і засталося.

Л у к а ш

Дык гэта ты?.. Прыйшла ты вурдалачкай,
каб кроў з мяне смактаць? Смакчы! Смакчы!

*(Агаляе грудзі.)*

Жыві маёй крывёю! Так і трэба,
бо сам цябе я загубіў…

М а ў к а

Не, любы,
душу ты даў мне, так, як востры нож
дае з вярбы галінцы ціхай голас.

Л у к а ш

Душу я даў табе? А цела знішчыў!
Бо хто ж цяпер ты? Толькі прывід! Здань!

*(З невымоўнай тугою пазірае на яе.)*

М а ў к а

О, не журыся за цела!
Ясным агнём запалала яно,
чыстым, пякучым, нібыта віно,
прыскам іскрыстым угору ўзляцела.
Пройдуць не марна гады:
прысак сустрэнецца з роднай зямлёю
і над вадою праб'ецца вярбою, —
стане канец мой пачаткам тады.
Будуць хадзіць ка мне людзі,
радасць, тугу прынясуць мне сваю,
я ім тады прашумлю, прапяю —
ім прамаўляць зноў душа мая будзе.
Я акажуся да іх
шолахам ціхім галінкі самотнай,
голасам дзіўным жалейкі пяшчотнай,
сумнымі росамі голляў маіх.
Я ім тады праспяваю
тое, што некалі мне ты спяваў,
як на жалейцы вяснянкі іграў,

маry збіраючы ў гаі…
Любы, іграй, заклінаю!

Лукаш пачынае іграць. Спачатку ягонае іграннe сумнае, як зімовы вецер, як жаль аб нечым згубленым і незабыўным, але хутка пераможны спеў кахання змяняе тугу. Разам са зменаю музыкі змяняецца і зіма навокал: бяроза шапоча кучараваю лістотаю, вясновыя гукі адзываюцца ў расквітнелым гаі, шэры зімовы дзень змяняецца яснай, месячнай вясновай ноччу. Маўка ўспыхвае раптам ранейшай красою ў зорным вянку. Лукаш кідаецца да яе з вокрыкам шчасця. Вецер зрывае белы квет з дрэваў. Пялёсткі ляцяць, ляцяць і засланяюць закаханую пару, потым пераходзяць у густую завею. Калі яна крыху аціхла, відаць зноў зімовы краявід з цяжкою навіссю снегу на галінах дрэваў. Лукаш сядзіць адзін, прысланіўшыся да бярозы, з жалейкаю ў руках, вочы яго заплюшчаны, на вуснах застыла шчаслівая ўсмешка. Ён сядзіць без руху. Снег шапкаю налёг яму на галаву, зацерушыў усю постаць і падае, падае бясконца…

## Замест пасляслоўя

2 ліпеня 2009 г. орган Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны газета «Літературна Україна» прысвяціла дзве вялікія палосы, цэлы разварот, беларускай літаратуры. Два даўнія сябры беларускай літаратуры, выдатнейшыя паэты і перакладчыкі сучасный Украіны Дмытро Паўлычка і Раман Лубкіўскі, якія ў тым годзе наведалі нашу краіну, прапанавалі чытачам цікавы дыялог пра сучасную Беларусь і ўкраінска-беларускія культурныя дачыненні «Супольная барацьба мацуе нашу духоўную і палітычную еднасць». Сярод матэрыялаў — невялікі водгук Дмытра Паўлычкі пад назвай «Іван Франко — па-беларуску» на выдадзеную «Мастацкай літаратурай» кнігу Івана Франко «Народзе мой… : творы» (2006). Перадрукоўваем яго цалкам у перакладзе на беларускую мову:

*«Невялікая памерам, але дасканалая падборам найвыдатнейшых твораў Івана Франко кніжка «Народзе мой... : творы» ў перакладзе Вячаслава Рагойшы, вядомага беларускага прафесара і пісьменніка, што выйшла ў Мінску ў 2006 годзе, не толькі заслугоўвае агульнаўкраінскай удзячнасці, але і падказвае, як трэба пракладаць дарогу касмічнай велічыні Франковаму імені да звычайнага, непадрыхтаванага чытача. Тры паэтычныя творы («Пралог» да паэмы «Майсей», «Калі б ведаў чары...», «Таварышам з турмы»), тры апавяданні («Сойчына крыло», «Хама з сэрцам і Хама без сэрца», «Як русін тоўкся па тым свеце»), драма «Украдзенае шчасце», філасофска-палітычны дыялог «Пры сконе веку» — такі лаканічны змест у загалоўках, але якая шматграннасць, якая бессмяротнасць Франковая! Мы, украінскія франказнаўцы і выдаўцы, знаходзімся пад уражаннем 50-томнага выдання твораў І. Франко, марым выдаць усю яго мастацкую і навуковую спадчыну — і гэта вельмі добра. Але беларускае выданне яго твораў — прыклад для нас,*

*як паказаць акіян у кроплях, як паказаць у сузор'і бязмежнасць светабудовы.*

*Што да якасці перакладу, то давайце глянем, як гучыць па-беларуску «Пралог» да «Майсея». Возьмем радкі найцяжэйшыя для перакладу:*

*Невже тобі на таблицях залізних*
*Записано в сусідів бути гноєм,*
*Тяглом у поїздах їх бистроїзних?*

*Цяжкія для перакладу радкі, але Вячаслаў Рагойша пераадольвае цяжкасці перастварэння арыгінала:*

*Няўжо тваёй гісторыі скрыжалі*
*Цяглом быць для суседзяў і пагноем —*
*Такую долю нам наканавалі?*

*Захаваны найгалоўнейшыя сэнсавыя апоры твора, даслоўна перададзены прыкметы паняволенага народа, які — цягло і пагной для суседзяў. Не думаю, што страта «бистроїзних поїздів» у гэтым тэксце з'яўляецца недахопам перакладу, бо самому аўтару неалагізм «бистроїзний» быў патрэбны для рыфмы, хоць, зразумела, унікальнай рыфмы.*

*А пераклады апавяданняў, драмы «Украдзенае шчасце» ды дыялогу «На сконе веку» робяць такое ўражанне, быццам бы гэтыя рэчы былі і напісаны на беларускай мове. Чытаеш і забываеш, што гэта пераклад. Свежасць Франковага мыслення, мастацкага пісьма адчуваеш нанова, перажываеш зноўку ўсё прачытанае, нібы ўпершыню дакранаешся да нейкай дарагой, спаконвечнай мовы тваёй душы.*

*Мне здаецца, што апавяданні І. Франко беларускі перакладчык не проста любіць, а закаханы ў іх. Ён перадае найменшыя дэталі і нюансы арыгінала з такім майстэрствам, што мне хацелася перачытваць двойчы*

*і тройчы тыя пераклады, каб зачароўвацца Франковым ладам пісьма, адчутым у чужамоўнай інтэрпрэтацыі.*

*Вячаслаў Рагойша напісаў пасляслоўе да зборніка сваіх перакладаў «Народзе мой... : творы» пад назваю «З Франковае крыніцы». Ён разгледзеў спадчыну І. Франко, прысвечаную тэорыі і практыцы перакладу мастацкіх твораў. Дакладна прааналізаваў артыкул І. Франко «Каменяры. Украінскі тэкст і польскі пераклад...» і прыйшоў да высновы, што аўтар «накрэсліў агульныя контуры параўнальнай паэтыкі, якая пачынае складвацца ў навуковую сістэму толькі ў наш час, становячыся надзейным фундаментам крытыкі перакладу». Пасляслоўе Вячаслава Рагойшы да разглядаемай кніжкі паказвае, што ён у сваёй працы карыстаўся парадамі самога І. Франко, прытрымліваўся іх, скажам так, з вялікім поспехам.*

*Зразумела, кніжка твораў І. Франко, якія належаць да найглыбшых і найсучаснейшых, патрабавала прадмовы, каб адкрыць чытачу постаць аўтара, ахарактарызаваць яго гістарычную місію ў працэсе развіцця ўкраінскай літаратуры, надання ёй еўрапейскага гучання і пераможнай нацыянальна-вызваленчай духоўнасці. Менавіта такую прадмову напісала Таццяна Кабржыцкая, украінка, грамадзянка Беларусі, кандыдат філалагічных навук, жонка Вячаслава Рагойшы. Несумненна, яе прадмова «Мне змагацца — значыць жыць» — прыклад таго, як трэба пісаць коратка і змястоўна. Не абмінуць нічога найістотнейшага з жыццяпісу і творчасці І. Франко і ўсё падаць у стройным выкладзе, дзе эмацыйны настрой згарманізаваны з грунтоўнымі ведамі. Добра і тое, што дачка выдатнага львоўскага спевака Вячаслава Кабржыцкага знайшла месца ў гэтым лаканічным тэксце для таго, каб згадаць свайго бацьку, які на львоўскай опернай сцэне выконваў партыю Міколы ў оперы Юрыя Мейтуса «Украдзенае шчасце».*

*Таццяна Кабржыцкая ў прадмове да, па сутнасці, першага грунтоўнага выдання твораў І. Франко на беларускай мове прыводзіць найбольш значныя факты з папярэдніх выданняў. Мы даведваемся, што творы І. Франко выходзілі асобнымі, але невялічкімі кніжкамі ў Беларусі ў 1927, 1954, 1956, 1958 гадах… Былі выдадзены апавяданні, п'еса «Будка № 27», творы для дзяцей «Калі звяры яшчэ ўмелі гаварыць». Дазнаемся таксама, што творы І. Франко ў новых перакладах Вячаслава Рагойшы ды ў новых пераўвасабленнях групы перакладчыкаў павінны з'явіцца ў прэстыжнай беларускамоўнай кніжнай серыі «Скарбы сусветнай літаратуры».*

*Выйшаў зборнік твораў І. Франко ў Мінску дзякуючы Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь, якое прафінансавала выданне. А Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша ўклалі ў яго сваю працу, свае веды, сваю душу. Працу цяжкую, веды шырокія, подзіву вартую любоў да Майсея Украіны — Івана Франко».*

Думаецца, гэты водгук Дмытра Паўлычкі, апрача іншага, можа ўрэшце падказаць — і не столькі ў жартоўным плане, як у Ежы Вітліна, а зусім сур'ёзна, — якая ж канцэпцыя перакладу ўвасоблена ў дадзеным выданні.

## **Пераклады Вячаслава Рагойшы**

*(бібліяграфічная даведка)*

**Кабатц, Э.** Вяселле на змярканні : [Апавяданне] / Эўгеніюш Кабатц // Беларусь. — 1965. — № 5. — С. 14–15 (З польск.).

**Драч, І.** Крылы : Навагодняя балада : [Верш] / Іван Драч // ЛіМ. — 1966. — 1 студз. (З укр.).

**Паповіч, П.** Я іду, Галактыка! : [Верш] / Павел Паповіч // Чырвоная змена. — 1966. — 12 крас. (З укр.).

**Шарыпаў, Х.** Пункт апоры : [Верш] / Хуснітдзін Шарыпаў // Сонца ў арыках. — Мінск : Беларусь, 1966. — С. 216–217 (З узб.).

**Украінка, Л.** Лясная песня : драма-феерыя (урывак) / Леся Украінка // Беларускі універсітэт. — 1971. — 25 лют. (З укр.).

**Алейнік, С.** Мае першыя крытыкі : [Гумарэска] / Сцяпан Алейнік // ЛіМ. — 1972. —17 сак. (З укр.).

**Вінграноўскі, М.** «Як толькі дзіцем неўтаймоўным горад…» : [Верш] / Мікола Вінграноўскі // ЛіМ. — 1972. — 17 сак. (З укр.).

**Сіманенка, В.** «Колькі б не прыйшлося гараваць мне…» : [Верш] / Васіль Сіманенка // ЛіМ. — 1973. — 17 сак. (З укр.).

**Сіманенка, В.** Прароцтва 17 года : [Верш] / Васіль Сіманенка // Беларускі універсітэт. — 1972. — 12 мая (З укр.).

**Драч, І.** Балада пра вядро; Эцюд — копія запіскі; Вячэрняя акварэль : [Вершы] // Іван Драч // Беларускі універсітэт. — 1972. — 12 мая (З укр.).

**Сіманенка, В.** Лебедзі мацярынства : [Верш] / Васіль Сіманенка // Беларускі універсітэт. — 1973. — 22 лістап. (З укр.).

**Траццякоў, Р.** «У свет я прагну…» : [Верш] // Роберт Траццякоў // Беларускі універсітэт. — 1973. — 22 лістап. (З укр.).

**Паповіч, П.** Я іду, Галактыка! : [Верш] / Павел Паповіч // Беларускі універсітэт. — 1974. — 18 крас. (З укр.).

**Сіманенка, В.** Жорны : [Верш] / Васіль Сіманенка // Звязда. — 1975. — 27 лют. (З укр.).

**Сяітаў, С.** «Там, дзе, здавалася б, смерць не міне…» : [Верш] / Сагінгалі Сяітаў // Вячэрні Мінск, — 1975. — 16 крас. (З каз.).

**Алейнік, Б.** Стаю на зямлі : [Верш] / Барыс Алейнік // ЛіМ. — 1975. — 12 снеж. (З укр.).

**Траццякоў, Р.** Дуэль; Партрэты; Падтэксты : [Вершы] / Роберт Траццякоў // Украінская савецкая паэзія : анталогія : у 2 т. — Мінск : Маст. літ., 1975. — Т. 2. — С. 413–417 (З укр.).

**Сяітаў, С.** Брэст; Канстанцін Заслонаў; Узгорак : [Вершы] / Сагінгалі Сяітаў // Звязда. — 1976. — 25 студз. (З каз.).

**Сіманенка, В.** Твае дзеці — жыццё : [Верш] / Васіль Сіманенка // Вячэрні Мінск. — 1976. — 28 мая (З укр.).

**Андрыч, І.** Мост : [Апавяданне] / Іва Андрыч // Беларусь. — 1976. — № 6. — С. 27–29 (З серб.).

**Вітлін, Е.** Як перакладаць літаратурныя творы : [Гумарэска] / Ежы Вітлін // ЛіМ. — 1977. — 27 мая. (З польск.).

**Марцінайціс, М.** Ля дальняга лесу; «Нібыта ля хат стройных ліп…»; Балада пра пяцярых палонных : [Вершы] / Марцеліюс Марцінайціс // Літоўская савецкая паэзія : анталогія : у 2 т. — Мінск : Маст. літ., 1977. — Т. 2. — С. 211–215 (З літ.).

**Пупачыч, Ё.** Трое маіх братоў : [Верш] / Ёсып Пупачыч // ЛіМ. — 1979. — 21 верас. (З серб.).

**Сарайліч, І.** Сярэдняя генерацыя : [Верш] / Ізет Сарайліч // ЛіМ. — 1979. — 21 верас. (З серб.).

**Шыміч, А. Б.** Паэты : [Верш] / Антуан Бранка Шыміч // ЛіМ. — 1979. — 21 верас. (З серб.).

**Вітлін, Е.** Як падкінуць думку; Які з цябе просьбіт; Як перакладаць літаратурныя творы : [Гумарэскі] / Ежы Вітлін // Вясёлы калейдаскоп : гумар і сатыра сучасных польскіх пісьменнікаў. — Мінск : Маст. літ., 1979. — С. 95–104 (З польск.).

**Кацюбінскі, М.** Цені забытых продкаў : [Аповесць] / Міхайла Кацюбінскі // Кацюбінскі М. Аповесці. — Мінск : Маст. літ., 1980 (З укр.).

**Сяітаў, С.** Мая анкета; Брэст; Пісьмо; Мінск : [Вершы] / Сагінгалі Сяітаў // Братэрства 82 : літаратурны зборнік. — Мінск : Маст. літ., 1982 (З каз.).

**Фядзьковіч, Ю.** Думы мае : [Верш] / Юрый Фядзьковіч // ЛіМ. — 1984. — 14 снеж. (З укр.).

**Рыльскі, М.** Таямніца асенняга лісця : [Цыкл вершаў] / Максім Рыльскі // ЛіМ. — 1985. — 15 сак. (З укр.).

**Ганчар, А.** Твая зара : раман / Алесь Ганчар. — Мінск : Маст. літ., 1985. — 366 с. — (Проза народаў СССР) (З укр.).

**Сяітаў, С.** Маё імя [Верш] / Сагінгалі Сяітаў // ЛіМ. — 1986. — 5 верас. (З каз.).

**Франко, І.** Малы Мірон : [Апавяданне] / Іван Франко // Бярозка. — 1986. — № 9. — С. 24–26 (З укр.).

**Франко, І.** «Народзе мой…» : пралог да паэмы «Майсей : [Верш] / Іван Франко // Полымя. — 1986. — № 10. — С. 147 (З укр.).

**Гупка, Г.** Надзённае : [Верш] / Густаў Гупка // ЛіМ. — 1987. — 23 студз. (Са славац.).

**Шашкевіч, М.** Вяснянка : [Верш] / Маркіян Шашкевіч // ЛіМ. — 1987. — 20 лют. (З укр.).

**Нішніанідзэ, Ш.** Ода крэпасцям-храмам : [Верш] / Шата Нішніанідзэ // Беларусь. — 1987. — № 6. — С. 33 (З груз.).

**Іванычук, Р.** Мой рэквіем : [Эсэ] / Раман Іванычук // ЛіМ. — 1988. — 21 кастр. (З укр.).

**Сасюра, У.** Прызнанне : урывак з паэмы «Расстралянае бяссмерце» / Уладзімір Сасюра // Полымя. — 1988. — № 12. — С. 146 (З укр.).

**Іванычук, Р.** Паручык Міцкевіч : [Урывак з рамана «Бо вайна вайною»] / Раман Іванычук // ЛіМ. — 1989. — 26 мая (З укр.).

**Нішніанідзэ, Ш.** Хлопчыкі Гаўрош, Паата, Алег і іншыя; Маскі; Ода крэпасцям-храмам; Хеўсур : [Вершы] / Шата Нішніанідзэ // Анталогія грузінскай паэзіі : у 2 т. — Мінск : Маст. літ., 1989. — Т. 2. — С. 310–318 (З груз.).

**Франко, І.** «Народзе мой…» : пралог да паэмы «Майсей : [Верш] / Іван Франко // Франко І. Народе мій. Пролог до поеми «Мойсей» : мовами народів світу. — Львів, 1989. — С. 38–39 (З укр.).

**Збораўян, Ю.** На матыў збойніцкай балады : [Верш] / Юла Збораўян // Славацкая паэзія. — Мінск : Маст. літ., 1990. — С. 124 (Са славац.).

**Касандра, М.** Нарэшце ўжо… [Верш] / Мікулаш Касандра // Тамсама. — С. 142 (Са славац.).

**Гупка, Г.** Надзённае : [Верш] / Густаў Гупка // Тамсама. — С. 144–147 (Са славац.).

**Фелдэк, Л.** Ужо і яшчэ; Паэт, які служыць : [Вершы] / Любамір Фелдэк // Тамсама. — С. 210–212 (Са славац.).

**Штыліха, П.** Адзіны сябар : [Верш] / Петэр Штыліха // Тамсама. — С. 271 (Са славац.).

**Чыжмарык, Р.** Жыццё вады : [Верш] / Рудальф Чыжмарык // Тамсама. — С. 284 (Са славац.).

**Сяітаў, С.** «Там, дзе, здавалася б, смерць не міне…»; Маё імя [Вершы] / Сагінгалі Сяітаў // І ўспомнім былыя паходы : выбраная паэзія. — Мінск : Маст. літ., 1990. — С. 217–218 (З каз.).

**Юшчанка, А.** Сэрца Сяргея Палуяна : [Санетны дыпціх] / Алекса Юшчанка // ЛіМ. — 1991. — 19 ліп. (З укр.).

**Яварыўскі, У.** Марыя з палыном у канцы стагоддзя : раман / Уладзімір Яварыўскі // Яварыўскі У. Марыя з палыном у канцы стагоддзя : раман, аповесць. — Мінск : Маст. літ., 1991. — С. 3–202. — (Проза народаў СССР) (З укр.).

**Лучук, Т.** «Антычнасць» у кантэксце нацыянальнай свядомасці ўкраінцаў і беларусаў / Тарас Лучук // Беларусіка=Albaruthenica. — Мінск, 1993. — Кн. 2. — С. 348–350 (З укр.).

**Лучук, У.** Іларыён Свянціцкі і беларускае нацыянальнае адраджэнне / Уладзімір Лучук // Тамсама. — С. 360–362 (З укр.).

**Сенатовіч, А.** Нацыянальная самасвядомасць праз прызму жыццёвых будняў і паэтычных азарэнняў Ларысы Геніюш / Аксана Сенатовіч // Тамсама. — С. 363–366 (З укр.).

**Мельнік, Я.** Маларасійства / Яраслаў Мельнік // Скарыніч 2. — Мінск : Маст. літ., 1993. — С. 239–254 (З укр.).

**Шаўчэнка, Т.** Запавет : [Верш] // Тарас Шаўчэнка // Звязда. — 1994. — 11 сак. (З укр.).

**Федацюк, П.** Гуманітарная дапамога нябожчыкам : [Верш] / Паўло Федацюк // ЛіМ. — 1995. — 10 сак. (З укр.).

**Украінка, Л.** Лясная песня : драма-феерыя : [Урывак з 1 дзеі] / Леся Украінка // ЛіМ. — 1996. — 5 ліп. (З укр.).

**Франко, І.** Пры сконе веку : [Драматычны эцюд] / Іван Франко // Полымя. — 1996. — № 5. — С. 191–207 (З укр.).

**Кацюбінскі, М.** Цені забытых продкаў : [Аповесць] / Міхайла Кацюбінскі // Кацюбінскі М. Цені забытых продкаў : аповесць, апавяданні. Украінка Л. Лясная песня : драма-феерыя, вершы. — Мінск : Юнацтва, 1966. — С. 4—75. — (Школьная бібліятэка) (З укр.).

**Украінка, Л.** Лясная песня : драма-феерыя / Леся Украінка // Тамсама. — С. 121–225 (З укр.).

**Юшчанка, А.** Сэрца Сяргея Палуяна : [Санетны дыпціх] / Алекса Юшчанка // Звязда. — 1997. — 26 крас. (З укр.; аўтарства М. Львовіч памылковае).

**Сасюра, У.** Расстралянае бяссмерце : [Урывак з паэмы] / Уладзімір Сасюра // Звязда. — 1998. — 6 студз. (З укр.).

**Шаўчэнка, Т.** Цары : [Урывак з паэмы] / Тарас Шаўчэнка // Звязда. — 1999. — 10 сак. (З укр.).

**Шаўчэнка, Т.** Цары : [Урывак з паэмы] / Тарас Шаўчэнка // Бацькаўшчына. — Мінск : Юнацтва, 1999. — С. 299–300 (З укр.).

**Андруховіч, Ю.** Горад-карабель : [Апавяданне] / Юрый Андруховіч // Полымя. — 2000. — № 5. — С. 147–153 (З укр.).

**Рабчук, М.** Ненапісаны ліст турэцкаму султану : [Верш] / Мікола Рабчук // Полымя. — 2000. — № 5. — С. 131–132 (З укр.).

**Іванычук, Р.** Мой рэквіем : [Эсэ] / Раман Іванычук // Уладзімір Караткевіч і яго творчасць у еўрапейскім культурным кантэксце : навуковы зборнік. — Мінск, 2000. — С. 227–230 (З укр.).

**Шаўчэнка, Т.** Запавет : [Верш] // Тарас Шаўчэнка // Роднае слова. — 2001.— № 10. — С. 23 (З укр.).

**Украінка, Л.** Твае лісты заўжды пахнуць прывялымі ружамі : [Версэт] / Леся Украінка // ЛіМ. — 2004. — 5 сак. (З укр.).

**Шаўчэнка, Т.** Цары : [Урывак з паэмы] / Тарас Шаўчэнка // ЛіМ. — 2004. — 12 сак. (З укр.).

**Кацюбінскі, М.** Цені забытых продкаў : [Аповесць] / Міхайла Кацюбінскі // Дрэва вечнасці : кніга для пазакласнага чытання ў 9 класе. — Мінск : Нар. асвета, 2005. — С. 80–134 (З укр.).

**Франко, І.** Народзе мой… : творы / Іван Франко ; укладанне, пераклад з украінскай мовы Вячаслава Рагойшы ; прадмова Таццяны Кабржыцкай. — Мінск : Маст. літ.,

2006. — 256 с. — Са зместу : Майсей (Паэма). Пралог. — С. 18–20; Таварышам з турмы. Верш. — С. 21–22; Калі б ведаў чары… Верш. — С. 23; Сойчына крыло. Апавяданне. — С. 24–85; Хама з сэрцам і Хама без сэрца. Апавяданне. — С. 86–121; Як Русін тоўкся па тым свеце. Апавяданне. — С. 122–138; Украдзенае шчасце. Драма з вясковага жыцця ў 5 дзеях. — С. 139–224; Пры сконе веку. Дыялог. — С. 225–248 (З укр.).

**Франко, І.** Сойчына крыло : [Апавяданне] / Іван Франко // Полымя. — 2006. — № 8. — С. 130–162 (З укр.).

**Шаўчэнка, Т.** Цары : [раздзелы IV і V] / Тарас Шаўчэнка // Мае браты, мае суседзі : творы пісьменнікаў блізкага замежжа / укладанне, уступныя артыкулы Т. Кабржыцкай і В. Рагойшы. — Мінск : Маст. літ., 2008. — С. 25–27 (З укр.).

**Шаўчэнка, Т.** Запавет : [Верш] / Тарас Шаўчэнка // Тамсама. — С. 72–73 (З укр.)

**Франко, І.** Майсей. Паэма. Пралог / Іван Франко // Тамсама. — С. 103–104 (З укр.).

**Франко, І.** Украдзенае шчасце : [Драма] / Іван Франко // Тамсама. — С. 105–165 (З укр.).

**Кацюбінскі, М.** Цені забытых продкаў : [Аповесць; скарочана] / Міхайла Кацюбінскі // Тамсама. — С. 169–207 (З укр.).

**Украінка, Л.** Лясная песня : [Драма-феерыя; скарочана] / Леся Украінка // Тамсама. — С. 219–283 (З укр.).

**Стафанік, В.** Дарога : [Апавяданне] / Васіль Стафанік // Тамсама. — С. 206–298 (З укр.).

**Тычына, П.** Арфамі, арфамі… : [Верш] / Паўло Тычына // Тамсама. — С. 309 (З укр.).

**Тычына, П.** О панна Інна… : [Верш] / Паўло Тычына // Тамсама. — С. 310 (З укр.).

**Антоныч, Б.-І.** Песня пра незнішчальнасць матэрыі; Львоўская элегія : Франко; Шчасце : [Вершы] / Багдан-Ігар Антоныч // Звязда. — 2009. — 3 кастр. (З укр.).

**Нішніанідзэ, Ш.** Ода крэпасцям-храмам : [Верш] / Шата Нішніанідзэ // Старонкі грузінскай паэзіі. — Мінск : БелЭн, 2010. — С. 142–144 (З груз.).

**Паповіч, П.** Я іду, Галактыка! : [Верш] / Павел Паповіч // ЛіМ. — 2011. — 8 крас. (З укр.).

**Антонич, Б.-І.** Зелена Євангелія : поезія=Антоныч, Б.-І. Зялёнае Евангелле : паэзія / Богдан-Ігор Антонич; Багдан-Ігар Антоныч; упоряд. Р. Лубківського і В. Рагойші; передм. Н. Гілевича, післяслово Д. Павличка; примітки В. Рагойші. — Львів : Каменяр, 2011. — 174 с. — Са зместу : Песня пра вечную маладосць. — С. 15–16; Восень. — С. 19; Песня вясёлых бадзяг. — С. 21; Ноч на пляцы Юра. — С. 69; Песня пра незнішчальнасць матэрыі. — С. 75; Мастацтва паэзіі II, ч. 1. — С. 105; Львоўская элегія. — С. 115; Франко (28.V.1916–28.V.1936). — С. 121; Шчасце. — С. 125; З зялёных думак аднаго ліса. — С. 129, 131, 133, 135; Паэтычныя фрагменты. — С. 137, 139, 141 (З укр.).

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Рагойша** Вячаслаў Пятровіч

ВОЧЫ Ў ВОЧЫ, МЫСЛІ Ў МЫСЛІ

*Кніга перакладной паэзіі*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Т. Кабржыцкая*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 10.06.2013. Фармат 80х100 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 13,69.
Ул.-выд. арк. 9,97. Наклад 200 ас. Зак. 327.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33,
тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.